Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# НАШ КРАЙ

ШТОМЕСЯЧНІК

Цэнтральнага Бюро Краязнаўства

ПРЫ

ІНСТЫТУЦЕ БЕЛАРУСКАЕ КУЛЬТУРЫ



№ 8-9 Жнівень—Верасень 1927

ГОД ВЫДАНЬНЯ ТРЭЦІ

ВЫДАНЬНЕ
Інстытуту Беларускае Культуры
МЕНСК—1927

# Краязнаўчыя таварыствы і дзесяцігодзьдзе Кастрычнікавай Рэволюцыі.

Надыходзячае сьвяткаваньне дзесяцігодзьдзя Кастрычнікавай Рэволюцыі ўжо выклікала—і з кожным днём бясспрэчна будзе ўсё больш выклікаць—актыўнасьць усіх савецкіх, партыйных і грамадзкіх організацый і ўстаноў нашае Рэспублікі, якія сьпяшаюцца ў тэй ці іншай форме прымаць удзел у сьвяткаваньні вялікае гадавіны. Рабочыя, сяляне, настаўнікі, агрономы, дактары—усе разам і кожны паасобку—адчуваюць патрэбу выявіць сваю дзейнасьць да гадавіны вялікай рэволюцыі працы. Бясспрэчна, сьвяткаваньне, якое захопіць усе масы працоўных і ахопіць усе формы іх працы, выкліча організацыю на мясцох шэрагу выставак, выпуск друкаваных матар'ялаў, табліц і інш., якія будуць сьведчыць аб пашырэньні будаўніцтва ў розных галінах жыцьця і працы нашае Рэспублікі і яе паасобных часьцін—акруг, раёнаў, сельсаветаў і інш.

У гэтай патрэбнай і важнай працы краязнаўчыя організацыі на мясцох павінны прыняць актыўны ўдзел, дапамагчы паасобным установам і працаўнікам у зьбіраньні матар'ялаў, сыстэматызацыі, друкаваньні іх і г. д.

Разам з гэтым Цэнтральнае Бюро Краязнаўства ўпэўнена, што акруговыя і раённыя краязнаўчыя організацыі своечасова зробяць захады, каб увесь сабраны да дзесяцігодзьдзя рэволюцыі матар'ял быў у далейшым належным чынам выкарыстаны дзеля вывучэньня краю. Неабходна паклапаціцца, каб гэты каштоўны матар'ял быў сабраны і сыстэматызаваны, а ў гэтым у першую чаргу зацікаўлены мясцовыя краязнаўчыя організацыі. Праўленьні краязнаўчых таварыстваў павінны вылучыць з свайго асяродзьдзя асоб, якія будуць зьбіраць паказаныя матар'ялы ў паасобных установах, у межах вызначанай тэрыторыі (акруга—раён—сельсавет—горад—мястэчка—вёска)—па мясцовых савецкіх установах (выканкомы і іх аддзелы), коопэрацыі, профсаюзах, культурна-асьветных і мэдычных установах, дабрахвотных таварыствах і г. д. Трэба будзе сабраць усе плякаты, адозвы, загады, выкліканыя сьвяткаваньнем дзесяцігодзьдзя Кастрычнікавай Рэволюцыі па мясцох; неабходна сконцэнтраваць у адным месцы ўсю літаратуру па дзесяцігодзьдзю рэволюцыі, якая адносіцца к данай тэрыторыі—мясцовыя газэты, бюлетэні, успаміны рэволюцыйных дзеячоў, докумэнты імпэрыялістычнай і грамадзянскай вайны,—што будуць друкавацца ў сувязі з сьвяткаваньнем. Асаблівую ўвагу трэба зьвярнуць на зьбіраньне рознага выставачнага матар'ялу, які адбівае стан мясцовай прамысловасьці, сельскае гаспадаркі, культурна-асьветнай працы за дзесяцігодзьдзе,—выстаўкі прамысловыя, сельска-гаспадарчыя, школьныя і іншыя.

ЦБК ўпэўнена, што краязнаўчыя організацыі цалкам і паасобныя сябры прыватна зразумеюць важнасьць высунутай задачы і зробяць усё неабходнае, каб яе з посьпехам выканаць.

**Цэнтральнае Бюро Краязнаўства.**



М. Мялешка.

# Вывучэньне гісторыі раёну.

## I. Чаму неабходна вывучаць гісторыю раёну.

Даўно ўжо ў гістарычнай літаратуры заўважана, што гісторыя ўсёй тэрыторыі можа быць дакладна вывучана толькі тады, калі будзе вывучаны кожны куток краіны. Яшчэ гісторык Забелін казаў: „Пакуль гісторыя акругоў з іх помнікамі ня будзе расчынена і падрабязна разгледжана, да таго часу ўсе нашы агульныя гістарычныя вывады аб сутнасьці нашага народу і яго разнастайных гістарычных і бытавых праявах будуць бязгрунтоўны“. Гэта яшчэ больш падыходзіць да гісторыі Беларусі. Беларусь да ўтварэньня БССР была доўгі час колёніяй Польшчы, а пазьней Расіі. Яе гісторыя вывучалася тэндэнцыйна. З другога боку вывучэньне гісторыі Беларусі мае гісторыка-юрыдычны напрамак. Гісторыка цікавілі пытаньні ўзбудаваньня дзяржавы, цэнтральных і мясцовых установ, стан і правы насельніцтва і г. д. Праўда з паяўленьнем у пачатку XX ст. прац проф. М. В. Даўнар-Запольскага па гісторыі Беларусі аддаецца ўвага соцыяльна-экономічным пытаньням. Але і тут не зачэплена шмат якіх пытаньняў. Зусім ня вывучана гісторыя палітычных організацый, стан народнай гаспадаркі і г. д. Пры гэтым больш грунтоўнае гістарычнае вывучэньне Беларусі спыняецца на часе Люблінскай вуніі 1569 г. Ад гэтага часу і да XIX ст. у гысторыі Беларусі застаюцца чыстыя старонкі. Вывучэньне гісторыі Беларусі XIX ст. XX ст. распачаў проф. У. М. Ігнатоўскі.

Далейшая распрацоўка гісторыі Беларусі пры клясавым падыходзе да яе павінна будзе абаперціся на мясцовыя даныя. Без краязнаўчых досьледаў, бяз даных, здабытых мясцовымі гысторыкамі, па многіх пытаньнях зусім нельга зрабіць якіх-бы-та ні было вывадаў. Таксама зробленыя на месцы гістарычныя досьледы памогуць бліжэй падыйсьці да працоўных мас насельніцтва, пакажуць яго патрэбы.

## II. Крыніцы да вывучэньня гісторыі раёну.

Вывучаць гісторыю, хаця-б аднаго раёну, справа нялёгкая. Дасьледчык ня раз наткнецца на адсутнасьць на месцы крыніц па тых пытаньнях, якія ён намеціць сабе да вывучэньня. У раёне не заўсёды знойдзецца бібліотэка па гістарычных пытаньнях. Значная колькасьць архіваў знаходзіцца ў акруговым горадзе і цэнтры. Адсутнасьць у раёне, а часам і ў акруговым горадзе, гістарычных музэяў, дзе-б маглі быць захованы пісьмовыя і рэчавыя помнікі мінулага краю. Усё гэта, вядома, ня спрыяе вывучэньню гісторыі раёну і не дае дасьледчыку магчымасьці ўглыбіцца ў даўно мінулыя часы.

Ня гледзячы на гэта, гісторык раёну можа сабраць і цікавыя дакумэнтальныя даныя ў самім раёне, што ён і павінен зрабіць перш, чымся прыступіць да вывучэньня.

Народныя паданьні і аповесьці, якія передаюцца часам з веку ў век, адзін аднаму, маюць цікавыя весткі аб мінулым краю. Жывуць яшчэ людзі, якія самі на сваім веку шмат чаго бачылі, самі перажылі і захавалі ў сваёй памяці гістарычныя весткі. Усё гэта неабходна запісаць, захоўваючы ўсе правілы, якія ўстаноўлены для запісваньня народных паданьняў. У зробленых запісах дасьледчык павінен гістарычныя факты адлучыць ад народнай фантазіі; апошняе цікава для этнографа і павінна, вядома, быць захована.

Для запісу вестак аб мінулым карысна было-б арганізаваць вечары ўспамінаў, прысьвеціўшы іх якім-небудзь важным момантам у гісторыі краю. Гэта асабліва важна для вывучэньня гісторыі рэвалюцыйнага руху і нядаўна мінулых падзей. Падбор гістарычнага матар'ялу для вечароў успамінаў павінен быць такі, які будзе разам высьвятляць сучаснасьць.

Пры запісах трэба запісваць ня толькі апавяданьні аб гістарычных падзеях, але і экономічнае палажэньне розных станаў насельніцтва ў розныя часы, і ўсе тыя ўмовы і прычыны, якія мелі ўплыў на ўтварэньне такога становішча.

Цікавай для гісторыка будзе і мясцовая географічная номэнклятура. Зямля ёсьць кніга, у якой гісторыя народу запісваецца ў географічнай номэнклятуры. Пачатак у гэтым зроблен этнографам Е. Рамановым *). Тут цікава арганізаваць запісы назваў усіх мясцовасьцяй раёну: мястэчак, вёсак, двароў, фольваркаў, засьценкаў, выселкаў, хутароў; рэчак, ручаёў, вазёраў з назвай іх часьцін і тоняй, ставоў, балот, грэбляў; бароў, лясоў, гаёў і ўсіх урочышчаў. Запісваючы назвы сялібы, абавязкова трэба запісаць усе назвы ўрочышчаў на землях, якія належаць да данай сялібы, так як зваў і заве іх сам народ. Гэта неабходны матар'ял да гісторыі колёнізацыі краю, гістарычнай географіі і інш. Матар'ял цікавы і для лінгвіста.

Пры запісах важна сабраць весткі аб археолёгічных помніках: курганох (валатоўках), гарадзішчах, стаянках, палёх, пахавальных урнаў, развалінах замкаў, гістарычных равох і валох, старых магільніках, каменных помніках і г. д. Такія помнікі старасьветчыны неабходна занасіць на плян і складаць археолёгічную карту раёну. Да ўсіх помнікаў трэба зрабіць дакладныя апісаньні, вымеры, падлік і г. д. і зрабіць захады да таго, каб яны захаваліся.

Апроч этнографічных даных, гісторык раёну знойдзе для сябе патрэбныя веды і ў пісьмовых документах. Такімі крыніцамі зьяўляюцца архівы Раённых Выканаўчых Камітэтаў, сельсаветаў, архівы царкоўныя і касьцельныя, сямейныя архівы, перапіска прыватных асоб, дзеньнікі, успаміны, розныя запісы, мясцовы друк і г. д. За час імпэрыялістычнай вайны, окупацый, грамадзянскай вайны, шмат пісьменных архіўных документаў захавалася ў прыватных асоб. Трэба гэтыя документы адшукаць і выкарыстаць. Па архівах адміністрацыйных устаноў раёну гісторык знойдзе статыстычныя веды аб насельніцтве, зямляўладаньні, складу насельніцтва, расслаеньні сялянства, узаемаадносінах розных станаў насельніцтва і інш. У царкоўных архівах могуць быць царкоўныя летапісы, кліравыя ведамасьці, розныя загады

*) Е. Романов. Очерки Витебской губернии. Пам. кн. Вит. губ. на 1898.

духоўных устаноў, гістарычныя рукапісы, граматы, старадрукі, афіцыйныя выданьні ўстаноў і інш. Краязнаўца, які зацікавіцца гісторыяй свайго раёну, не праміне ніводнага пісьмовага докумэнту, які такім ці іншым чынам пралівае сьвятло на розныя пытаньні мясцовай гісторыі. Шмат матар'ялаў да мясцовай гісторыі знаходзіцца ў акруговым архіве. Трэба выявіць гэты матар'ял, наведаўшыся ў архіў, ці сьпісаўшыся з яго загадчыкам *).

Цікавыя весткі аб сваім раёне дасьледчык знойдзе ў афіцыйных друкаваных выданьнях розных устаноў Беларусі, як напр.: у „Памятных книжках", якія выдаваліся з пачатку 60-х гадоў XIX ст., „Губернских ведомостях", якія пачалі выдавацца яшчэ ў 40-х гадох, нават у „Епархиальных ведомостях" знойдзецца патрэбны матар'ял; у мясцовых газэтах, розных выданьнях земства, у абзорах губэрань, у выданьнях Віленскай вучэбнай акругі, казённых палат, статыстычных камітэтаў і інш.

Не малую карысьць прынясуць гісторыку рэчавыя помнікі, якія наглядна паказваюць наша мінулае. Такія помнікі могуць быць у царквох, касьцёлах, палацах. Тут цікава як сама архітэктура будовы, так і росьпісы, карціны, абразы, званы беларускай адліўкі, царкоўныя рэчы, разьба па дрэве і да т. п. Вельмі цікава сабраць фотографіі выдатных мясцовых дзеячоў, розных відаў архітэктурных помнікаў, краявідаў, відаў працы ў розныя часы і да т. п.

Такія прыблізна крыніцы могуць быць пад рукамі ў гісторыка раёну. Значная колькасьць з іх магла-б знаходзіцца ў раённым краязнаўчым музэі, калі-б такі быў.

## III. Што і як павінна вывучацца па гісторыі раёну.

Азнаёміўшыся з літаратурнымі данымі і сабранымі крыніцамі па раёне, гісторык прыступае да вывучэньня мінулага краю. Тут перад гісторыкам паўстаюць самыя разнастайныя пытаньні і магчымасьці. Ён можа заняцца вывучэньнем паасобных пытаньняў, можа распачаць досьледы якога-небудзь пэрыоду і г. д. Лепш за ўсё, калі дасьледчык зробіць клясыфікацыю, прыблізна такое разьмежаваньне пытаньняў: соцыяльна-экономічных, гісторыка-рэволюцыйных і культурна-гістарычных.

Да першай групы пытаньняў гісторык аднясе пытаньні вытворчых сіл раёну. Спыніцца на сельскай гаспадарцы, разгледзіць зямляўладаньне і зямлякарыстаньне. Тут паўстане пытаньне аб землях казённых, габінэцкіх, удзельных, манастырскіх, царкоўных, прыватнаўласьніцкіх і надзельных аб арэндах і г. д. Прасочыць зьмены аб зямляўладаньні і зямлякарыстаньні праз эпоху 1861—1917 г.г. і пасьля Кастрычнікавай Рэволюцыі. Будзе вывучаць зьмены сялянскага надзелу, аб куплі і арандаваньні сялянскіх зямель; аб расслаеньні вёскі. Будзе вывучаць станы паноў, парабкоў, сялян, арандатараў, пасьлядоўна даючы малюнкі іх быту. Спыніцца на эксплёатацыі чужой працы. Прасочыць прычыны абвостранасьці ўзаемаадносін паміж памянёнымі групамі. Разгледзіць як тэхнічна выкарыстоўвалася зямля, якія культуры

*) Пералічыць тут матар'ялы, якія знаходзяцца ў архіўных установах і цікавы для краязнаўца немагчыма. У Цэнтрархіве БССР знаходзіцца на захове каля двух мільёнаў спраў і кожная паасобку справа можа быць патрэбна краязнаўцу. Дзеля гэтага, калі краязнаўцу патрэбен архіўны матар'ял для высьвятленьня якога-небудзь зьявішча, належыць запрасіць адпаведны архіў, адкуль заўсёды даюцца кожнаму дасьледчыку патрэбныя даведкі.

сяяліся і сеюцца. Лік і якасьць скаціны, сельска-гаспадарчыя прылады, падсобныя даходы і г. д. асобна для гаспадарак кожнай соцыяльнай групы сельскага насельніцтва. Усё гэта павінна зацікавіць дасьледчыка.

Фабрычна-заводзкая прамысловасьць, у тых раёнах, дзе яна ёсьць, павінна гэтак сама быць вывучана. Трэба даведацца аб яе ўзьнікненьні, аб яе разьвіцьці, заняпаду ці поўнай няўдачы. Прасачыць узаемаадносіны між буйнымі і дробнымі фабрыкамі, аднароднымі саматужнымі вырабамі, концэнтрацыі капіталу. Па гісторыі фабрыкі ці заводу варта спыніцца на такіх пытаньнях: 1) Прычыны, якія выклікалі зьяўленьне ў краі прадпрыемства, ці цэлай галіны прамысловасьці і час зьяўленьня; 2) сродкі на якія была адбудавана і працавала фабрыка; 3) места, дзе фабрыка пабудована; яго прыроднае палажэньне, гаспадарчыя і культурныя сувязі, шляхі і рынкі, закупкі сыравіны і збыту продукцыі; карты экономічных імкненьняў і шляхоў; 4) будынак фабрыкі і службаў; 5) абсталяваньне фабрыкі; 6) апал; 7) тэхніка і прыёмы працы; 8) продукцыя фабрыкі ў колькасным і якасным адносінах; 9) фабрычныя пасёлкі; 10) гаспадары, рабочыя і служачыя фабрыкі, біографіі, характарыстыка, матар'ялы, портрэты; зьмены ў ліку і якасьці; 11) організацыя кірауніцтва фабрыкай і вытворчасьцю; 12) організацыя лекавай дапамогі, школ і пазашкольнай асьветы; 13) рэлігійныя ўплывы на фабрыцы і ў пасёлку; 14) аплата працы і парадкі фабрыкі; 15) даходы і расходы ўладароў; 16) разьвіцьцё і заняпад фабрыкі; 17) конкурэнцыя фабрык гэтага-ж краю, гэтай самай і другой вытворчасьці; 18) адносіны між гаспадаром, служачым і рабочымі 19) разьвіцьцё профэсыянальнага руху; 20) політычныя організацыі служачых і рабочых; 21) экономічная і політычная барацьба рабочых і роля ў ёй служачых; 22) фабрыка ў лютым-кастрычніку 1917 г. 23) фабрыка з кастрычніка 1917 г. да пачатку 1921 г.; 23) фабрыка з 1921 г. да гэтага часу; 25) роля фабрыкі ў мясцовай гаспадарцы і культурным жыцьці; 26) фабрычныя архівы і іншыя крыніцы да вывучэньня гісторыі фабрыкі*).

Вывучэньне фабрычна-заводзкай прамысловасьці павінна ісьці поплеч з іншымі відамі прамысловасьці, як: бровараў, млыноў, гарбарань, апрацоўка торфу, дрэваапрацоўваючых прадпрыемстваў, сплаву лесу і г. д. Каму належалі да рэволюцыі прадпрыемствы: купцом, паном, чыноўнікам, мяшчанам, сялянам, духавенству; пазьней—земству і г. д., прышламу ці мясцоваму насельніцтву. Вывучыць рабочы склад, хто працуе: мясцовае сялянства, прышлыя рабочыя. Профэсыйная і політычная актыўнасьць.

Пры нашай мала разьвінутай фабрычна-заводзкой прамысловасьці да рэволюцыі значную вартасьць мае саматужная прамысловасьць, якая павінна разглядацца на фоне агульнага вывучэньня прамысловасьці краю. Гісторык тут прасочыць процэсы, якія выклікалі да жыцьця саматужную прамысловасьць, прыводзілі яе да падняцьця ці да заняпаду. Будзе вывучаць яе організацыю, абсталяваньне, тэхніку, продукцыю і г. д. Разгледзіць кожны від асобна; лёнаапрацоўку, суканавырабы, выраб скур і аўчынак, рыбацтва, выганку дзёгцю, смалы, шпігінару, выраб цэглы, вапны, палівы і інш.; бандарныя вырабы,

---

*) Карыстаюся апытальнікам С. Чарнова з яго артыкулу: „История и современность в работах краеведа", які надрукованы ў зборн. „Первые шаги краеведа" Иваново-Вознесенск, 1926 г.

калёсныя, вытворчасьць кузьняў, рамізныя вырабы, і г. д. Важна даць фотографіі і зарысоўкі.

Вывучаючы вытворчасьць раёну ў гістарычным разрэзе, дасьледчык павінен будзе зьвярнуць асаблівую ўвагу на рынкі і шляхі зносін. Тут важна прасачыць, як на працягу часу мяняліся месцы збыту і набыцьця: да рэволюцыі, пасьля рэволюцыі. Устанавіць гэтыя месцы. Што галоўным чынам збывалася і набывалася на мясцовых рынках, у якіх мясцох, у якія дні былі і зараз засталіся гандлёвыя пункты; адкуль на іх прыяжджалі, з якімі таварамі і г. д.

Ёмкасьць мясцовага рынку. Цэны ў розныя часы. Прыватны гандаль. Коопэрацыя. Гэтыя пытаньні неабходна па мажлівасьці прасачыць хаця-б з часу разьвіцьця прамысловага капіталу, увязваючы іх з соцыяльнымі і экономічнымі ўмовамі ў гістарычным кругабегу.

Якую ролю адыгрывалі ў экономіцы раёну рэкі, чыгункі, грунтовыя дарогі ў розныя эпохі мясцовага гандлю. Якія зьмены адбываліся ў мясцовай экономіцы з правядзеньнем бліжэйшых чыгунак, палепшаньнем грунтовых дарог, з абмяленьнем рэк, з ачысткай, шлюзаваньнем рэк, зьяднаньнем каналамі водных шляхоў і г. д.

Разам з вывучэньнем гісторыі соцыяльна-экономічнага стану раёну трэба спыніцца і на палажэньні крэдытнай справы ў гістарычным асьвятленьні: роля прыватнага, грамадзкага, дзяржаўнага крэдытаў. Вынікі крэдытных опэрацый.

Цікавую старонку ў гісторыі раёну павінны заняць гарады і мястэчкі. Мястэчкі ўласьцівы для Беларусі. Іх няма ў РСФСР. Мястэчкі да рэволюцыі і зараз зьяўляюцца гандлёвымі і культурнымі цэнтрамі раёну.

У розныя часы мінулага Беларусі ў быту і экономіцы не малую ролю адыгрывалі адходныя промыслы. Які стан насельніцтва, колькасьць, куды хадзілі і ходзяць на заработкі, на лесасекі ў горад і г. д., у які час. Ад‘езд на заработкі ў Амэрыку і іншыя краіны. Якое палажэньне займалі ў сялянскім быту і экономіцы адходныя заработкі да 1861 г. пасьля звальненьня сялян ад паншчыны, пры разьвіцьці прамысловасьці і г. д.

Вось гэта той прыблізна круг пытаньняў, які павінен разглядзець гісторык раёну пры гістарычным вывучэньні соцыяльна-экономічнага становішча краю. Цяжка ўстанавіць аднолькавую схэму пытаньняў для кожнага раёну. У кожнай мясцовасьці ёсьць свае асаблівасьці і гісторык-краязнаўца павінен сам будзе заўважыць, што ў гісторыі данага раёну зьяўляецца цікавейшым, характэрнейшым і на што трэба зьвярнуць большую ўвагу. Як правіла трэба помніць, што гісторык павінен устрымлівацца ад сваіх пасьпешных вывадаў, ад агульных фраз і г. п. Цікавай і каштоўнай гісторыя раёну будзе толькі тады, калі соцыяльна-экономічнае становішча краю ў розныя часы будзе выкладацца мовай лічбаў і докумэнтаў. Патрэбны конкрэтныя даныя, рэальныя кавалкі самога жыцьця краю, толькі на аснове іх гісторык можа разважаць і рабіць вывады.

Няроўнасьць соцыяльна-экономічнага становішча выклікае рэволюцыйную барацьбу. Гісторык і тут знойдзе для сваіх досьледаў цікавы матар‘ял. Варта, вядома, перш спыніцца на агульных пытаньнях як: 1812 г., польскае паўстаньне 1831 г., паўстаньне 1863 г., рэволюцыя 1905 г. Лютаўская і Кастрычнікавая рэволюцыі і інш. Але для гісторыка раёну могуць быць цікавымі і іншыя падзеі, якія абмяжоўваліся раёнам, паветам, часам губэрняй. Гісторык будзе высьняць прычыны,

якія спрыялі рэволюцыйнаму настрою, вывучаць рэволюцыйныя організацыі, зьбіраць весткі аб кіраўнікох, займацца апісаньнем рэволюцыйных падзей і г. д. Адзначыць, якія былі рабочыя і сялянскія паўстаньні да рэволюцыі; якая вялася падпольная праца, хто з мясцовых насельнікаў судзіўся за рэволюцыйную дзейнасьць. Адносіны клясаў паміж сабой. Якая была сувязь з палітычнымі партыямі, якімі. Мясцовыя правакатары. Правыя, чорнасоценныя організацыі, іх правадыры. Карацельныя экспэдыцыі, ужываньне ваеннай і поліцэйскай сілы. Сходы, мітынгі: хто на іх выступаў, што гаварыў. Роля ў рэволюцыі рабочых, сялян, інтэлігенцыі, вучняў. Водгукі ў вёсцы на рэволюцыйныя падзеі і перавароты ў горадзе. Палітычныя гурткі. Выбары ў 1, 2 і 3 Дзяржаўныя думы. Брацкія могілкі, хто у іх пахаваны. Рэволюцыйная хроніка раёну да Кастрычнікавай Рэволюцыі і пасьля яе. Як адбывалася Кастрычнікавая Рэволюцыя, яе ўдзельнікі, настрой насельніцтва, окупацыі: нямецкая, польская. Антысавецкія партыі; беларускія нацыянальныя організацыі, партыі і г. д. Усё гэта павінна быць дакладна напісана і па мажлівасьці ілюстравана. Вядома, пры вывучэньні рэволюцыйнага руху толькі данага раёну, нельга будзе зрабіць дакладных вывадаў. Неабходна ведаць клясавую прыроду кожнай палітычнай партыі, якія пашыралі сваю дзейнасьць і на раён, які вывучае краязнаўца. Патрэбна цьвёрдая марксыцкая ўстаноўка, каб у вывучэньні рэволюцыйнага руху раёну ня стаць на няправільны шлях.

Апроч вышэйпералічанага застаюцца яшчэ пытаньні прававога і культурнага парадку, якіх ня можа абмінуць гісторык раёну. Неабходна спыніцца на адміністрацыйным апараце дарэволюцыйнага часу, прасочваючы яго зьмены з самых даўных часоў. Варта адзначыць ролю валаснога праўленьня, суду, поліцэйскага апарату, земскага начальніка, організацый земства, больніц, школ і г. д., якія былі грамадзкія організацыі, рэлігійныя і іх значэньне ў гісторыі раёну. Якія адміністрацыйныя і грамадзкія організацыі зьявіліся пасьля Кастрычнікавай Рэволюцыі, у часе окупацый і г. д.

Вялікія шкоды прыносілі Беларусі імпэрыялістычныя войны. Спыніцца на іх і прасачыць якія зьмены ў экономіку і быт уносілі войны, падлічыць страты. Уцекачы. Адзначыць і апісаць месцы боек. Прасачыць, як адбывалася грамадзянская вайна.

Цікава будзе разглядзець пытаньне нацыянальнае: полёнізацыя і русіфікацыя; барацьба за нацыянальнае вызваленьне і яе клясавая сутнасьць. Пісьменнасьць насельніцтва паводле нацыянальных і клясавых адзнак, якія газэты, часопісы ў раёне чыталіся раней, чытаюцца цяпер і г. д.

Трэба даць апісаньне цікавых архітэктурных помнікаў, помнікаў мастацтва, старасьветчыны; даць весткі аб бібліотэках і розных гістарычна-культурных сабраньнях.

Вядома, краязнаўцу неабходна будзе азнаёміцца з друкаванымі гістарычнымі досьледамі данага раёну, быць у курсе напрамкаў, як наогул гісторыі, так і беларускай гістарычнай літаратуры ў прыватнасьці. Важна ведаць бібліографію прадмета, разьбірацца ў розных плынях і ўмець вызначыць каштоўнае, карыснае ад устарэлага і непатрэбнага. Знаёміцца з пытаньнямі навейшае мэтодолёгіі крыніцазнаўства. Усё гэта неабходна браць пад увагу гісторыку-краязнаўцу, які прыступае да вывучэньня свайго раёну.

У апісальнай частцы працы лепш за усё прытрымлівацца адміністрацыйных межаў, хаця, вядома, у некаторых пытаньнях гісторыку

прыдзецца выйсьці за гэтыя межы. Пры вывучэньні добра мець павялічаны плян свайго раёну, на якім належыць адзначыць гістарычныя зьявішчы і розныя прадметы, якія адносяцца да гісторыі раёну.

Як сказана было раней, дасьледчык на месцы можа пашырыць круг яго наглядаў, у залежнасьці ад яго індывідуальных дасьледчых цікавасьцяй. Можа, вядома, у залежнасьці ад крыніц, павясьці вывучэньне ў іншым разрэзе, паставіць новую групоўку пытаньняў і г. д. Усё гэта магчыма, а часам і патрэбна. Але ўвесь напрамак гістарычных досьледаў не павінен ухіляцца ад агульнага напрамку вывучэньня гісторыі Беларусі, які ўстанаўліваецца зараз у БССР.





Г. Перлін.

# Да гісторыі яўрэйскага друку на Беларусі.

Гісторыя яўрэйскага друку ў Расіі амаль зусім яшчэ не распрацавана. Тым часам роля кнігі ў жыцьці яўрэйскага народу была вельмі значная, і гэта бралі пад увагу і прогрэсыўныя і рэакцыйныя элемэнты як самога яўрэйства, так і абкружаючага асяродку. „Піонэры яўрэйскай асьветы“ лічылі шырокую сетку друкарань найболей моцнай зброяй рэакцыйных элемэнтаў і ў змаганьні з сваімі супраціўнікамі даходзілі да распрацоўкі перад урадам проектаў зачыненьня большасьці яўрэйскіх друкарань і ўзмацненьня цэнзурнага націску [1]). Царскі-ж урад, па сутнасьці кажучы, і не патрабаваў гэтых стымулаў, бо і сам з нязвычайнай энэргіяй уціскаў яўрэйскі друк. А пануючыя клясы яўрэйскага грамадзянства, маючы ў сваіх руках друкарні, для аховы сваіх інтарэсаў шырака карысталіся з старога права ўхвалы („апробата“, „гаскама“) і забароны (ува ўсіх яе відах) непажаданых твораў. Дзеля гэтага—аж да зьяўленьня дасьледваньняў, якія грунтаваліся-б на неапублікаваных матар'ялах па гісторыі яўрэйскага друку—распрацоўка і зводка матар'ялаў па гісторыі яўрэйскай кнігі ўжо надрукаваных, маюць некаторую цікавасьць.

Ніжэйпаданыя радкі якраз і прадстаўляюць спробу зрабіць гэта ў адносінах да яўрэйскага друку на Беларусі.

У гісторыі разьвіцьця яўрэйскай друкарскае справы ў б. Расійскай Імпэрыі Беларусь займае хронолёгічна другое месца (калі ня лічыць Польшчы): яўрэйскія друкарні ўзьніклі тут пасьля таго, як яны разьвілі ўжо даволі інтэнсыўную дзейнасьць на Валыні. Калі на Валыні працавалі ўжо яўрэйскія друкарні ў Алексінцы (ад 1760 г.), Турку (ад 1764 г.) і Корцы (ад 1776 г.), дык першая яўрэйская друкарня на Беларусі—у Шклове—закладзена ў 1783 г.[2]) І запраўды, яўрэйскія беларускія друкарні былі, да пэўнай меры прынамсі, як-бы працягам валынскіх, і сувязь паміж імі існавала даволі доўга. Аб-гэ-

[1]) „В 1883 г. 20 июля—кажа І. Б. Левінзон у рэестры сваіх прац—написал проект об уничтожении всех еврейских типографий, кроме тех, где находятся цензуры, и пустить оные в откупы в пользу еврейских училищ и о пересмотрении изданных до сего времени еврейских и халдейских книг. Этот проект представлен был профессором Киевского лицея надворным советником г. Савицким г. министру внутренних дел, а в 1836 г. последовал о том Высочайший Указ. При сем проекте представлена автором также опись древним и новым еврейским и халдейским книгам с означением какие из них могут быть признаны полезнымі, и какие вредными“. Гл. Ю. И. Гессен. Смена общественных течений... „Пережитое“, т. III (СПБ 1911).

[2]) Гл. А. Я. Гаркави. Из истории культуры русских евреев: Сборник в пользу начальных еврейских школ. СПБ. 1896.

тым сьведчаць наступныя факты з гісторыі найстарэйшай яўрэйскай друкарні на Беларусі—шклоўскай. Закладчыкам першай „новай“ друкарні ў Шклове зьяўляецца Цэві-Гірш б. Ар‘е-Лейб Маргаліот (ці Марголіос), які дагэтуль быў уласьнікам друкарань у Алексінцы і Корцы на Валыні (у Корцы—супольна з сваім зацем Самуілам б. Ісахар-Бэр-Сегал; той-жа Самуіл Сегал працаваў ня толькі ў Корцы, але і ў Палонным, таксама на Валыні); Сабатай б. Бэнцыон з Корца зьяўляецца выдаўцом („які перадаў кнігу ў друкарню“) „Тыкунэ Зогар“ у Шклове і друкаром там-жа; Бэн‘ямін б. Давід-Ар‘е-Лейб Сегал з Палоннага зьяўляецца выдаўцом „Гілгулэ-Нэшамот“ у Шклове. Аднак трэба заначыць, што ў пазьнейшыя часы (1815 г.), якраз паміж копыскімі і валынскімі друкарамі ўзьнік буйны конфлікт на грунце конкурэнцыі і юрыдычнага тлумачэньня „апробат“ і „прывілеяў“ („гаскамот“), конфлікт, да вырашэньня якога былі пакліканы найвыдатнейшыя рабінскія аўторытэты: Іошуа Цэйтлін з Шклова і Моісей Хэйфец з Чавус выказаліся на карысьць копыскіх друкароў, Эфроім-Залман Маргуліос з Бродаў—на карысьць валынскіх. Перамог пункт погляду першых, і на гэты прэцэдэнт паклікаецца, калі ўзьнік аналёгічны конфлікт, Якоб з Карліна[1]).

Побач з Шкловам працавалі яўрэйскія друкарні ў Копысі (ад 1797 г.), Дуброўне (ад 1802 г.) і Менску (ад 1807 г.), апрача таго, ў Магілеве на Дняпры была надрукавана (ў 1825 г.) адна кніга і ў Лядах (у 1805 г.) таксама адна толькі кніга. Такім чынам, яўрэйскія кнігі на Беларусі друкаваліся ў 6 месцах, але дзейнасьць друкарань была больш-менш значнай і доўгачаснай толькі ў Шклове і Копысі. Дуброўна і Менск значна адстаюць ад іх. Вытворства беларуска-яўрэйскіх друкарань выяўляецца ў наступных цыфрах:[2]).

| | |
|---|---|
| Шклоў . . . . | 133 |
| Копысь . . . . | 69 |
| Менск . . . . | 13 |
| Дуброўна . . . | 6 |
| Магілеў. . . . | 1 |
| Ляды . . . . | 1 |

Гэта—прыблізныя цыфры, якія характарызуюць работу яўрэйскіх друкарань на Беларусі за ўвесь час іхняй дзейнасьці, г. зн. (не закранаючы часу дзейнасьці кожнай друкарні паасобку) ад 1783 г. да 1837 г. У 1837 годзе ўсе яўрэйскія друкарні, паводле „Высочайше утвержденного положения Комитета министров от 27 октября 1836 г.“, для облегчения надзора за еврейскими типографиями“, былі зачынены, апрача віленскай і кіеўскай (заміж апошняй пазьней была адчынена друкарня ў Житоміры). Прыблізна 223 выданьня—даволі нязначная сама па сабе колькасьць. Калі ўзяць пад увагу, што выданьні 2⁰ і 4⁰, узятыя разам, не дасягаюць 50% агульнай колькасьці, і што грунтоўных,

[1]) Гл. рэспонсы яго „Когелет Якоб“, Вільня, 1847, аддзел Хошэн-Мішпат, № 2. Параўн. Яўрэйская Энцыклёпэдыя S. V. Аўтарскае права.

[2]) Гэтыя цыфры, таксама як і ўсе тыя, што будуць паданы далей, атрыманы на падставе: а) S. Wiener. Catalogus librorum imoressorum Hebraecrum in Museo Asiatiso Imperialis Academiae Scientiarum Petropolitanae asservasorum. Petropoli 1893—1904; б) S. Wiener. Bibliographie der Oster-Ḥaggadah 1500—1900. Spb. 1902. в) I. A. Benjacol. Ozar ha-sepharim. Thesaurus librorum Hebraicorum. Bibliographie der gesamten hebr. Literatur. Wilna 1880. г) Розных іншых бібліограф. матар‘ялаў і каталёгаў. Поўнае і дакладнае падлічэньне вытворства гэтых (і ня толькі гэтых) друкарань зрабіць цяжка, асабліва што да некаторых кніг, якія вельмі часта выдаваліся, але хутка зьнікалі. Параўн. прадмову да „Bibliogr d. Oster-Haggadah“.

вялікіх і шматтамовых кніг было выпушчана мала[1]), дык сам сабою зьяўляецца вывад, што беларуска-яўрэйскія друкарні ня былі прыстасаваны і разьлічаны на выданьне кніг буйных і каштоўных, якія вымагаюць для свайго надрукаваньня ўкладу параўнаўча вялікіх капіталаў; іначай кажучы, гэта былі прадпрыемствы тэхнічна і экономічна слабыя. У гэтым-жа пераконвае, з аднаго боку, вонкавы выгляд выданьняў (папера, шрыфт, упрыгожаньні і г. д.), а з другога—вялікі процант перавыданых кніг, якія былі дзе-колечы надрукаваны раней. Тэкст, які лёгка перадрукаваць, і аўторытэт гэтых кніг сярод спажыўца, забясьпечвалі друкару і выдаўцу найбольшыя прыбыткі пры найменшых выдатках (у шклоўскіх кнігах перавыданьні складаюць ня менш за 50%, у копыскіх—ня менш за 60%). Урэшце, аб тым-жа сьведчыць і вельмі распаўсюджаны звычай злучацца ў таварыствы (аднаму залішне цяжка было вясьці справу), і тая лёгкасьць, з якою друкары, часам з усім сваім тэхнічным апаратам, пераходзілі з аднаго месца на другое[2]). Аднак, трэба мець на ўвазе ў даным выпадку і люты цэнзурны ўціск, які бязумоўна перашкаджаў росту нават зусім жыцьцяздольных прадпрыемстваў падобнага роду, і ўплыў вайны 1812 г., калі па краі праходзілі войскі і Наполеона і Аляксандра.

Было-б памылкай лічыць на падставе вышэйпаданага, што вартасьць вытворства памянёных друкарань была нізкая, што гэтыя друкарні абмяжоўваліся толькі тымі аднымі выданьнямі, якія болей ці меней забясьпечвалі іх ад страт, і што толькі з гэтага погляду рабіўся падбор матар'ялу для друку. У выданьнях беларуска-яўрэйскіх друкарань ярка адбіўся дух таго часу, і тое соцыяльна-экономічнае змаганьне, што вылілася ў форму рэлігійнага руху—хасыдызму, і нават дзейнасьць піонэраў „асьветнага“ руху. З гэтага боку дзейнасьць яўрэйскіх друкарань на Беларусі заслугоўвае на асаблівую ўвагу. Не ўваходзячы ў падрабязны разбор гэнай дзейнасьці (гэта—справа хутчэй гісторыка культуры і літаратуры), пакажам толькі найвыдатнейшыя факты гэтага парадку. У нашых друкарнях друкаваліся найгалаўнейшыя творы правадыроў абедзьвюх старон, што вялі барацьбу—хасыдаў і міснагідаў[3]): творы віленскага „гаона“ Іліі і ягоных вучняў з аднаго боку, і Шнеур-Залмана Ляднянскага, ягонага заступніка і іхніх вучняў—з другога. Зварочваюць на сябе ўвагу два шклоўскіх выданьні: а) *Зехер рав*, перадрук з старога выданьня даволі нязначнай лексыкаграфічнай кніжкі, але з надзвычайна цікавым заклікам выдаўца—*аб стварэньні часопісу на гэбрайскай мове*[4]) *б) Кол шав'ат бат іегуда*, аўтарскі пераклад на гэбрайскую мову першага твору расійскага яўрэя на расійскай мове—„Вопль дщери иудейской“, які быў напісаны ў абарону сваіх братоў—родзічаў Лейбам Неваховічам (ра-

---

[1]) Гэткім зьяўляюцца: *Зогар* (Шкл., Коп.), *Талмуд Бабілёнскі* (кон.), *Талмуд Ерузалімскі* (Шкл., Кон.), *Алфасі* (Кон.), *Мішначот* (Дубр.), *Шулхан-Арух* (Шкл., Кон.).

[2]) Гэтак Ілія б. Самуіл з сынам і супольнік ягоны Барух—даволі выдатныя шклоўскія друкары—друкуюць у 1802 г. у Дуброўні, а Ісаак б. Іосыф пераносіць сваю друкарню з Шклова ў Магілеў, каб надрукаваць там „*Хэмдат-Цэві*“—адзіную яўрэйскую кнігу магілеўскага друку.

[3]) Цікаўны факт: піонэр яўрэйскага друкарства на Беларусі, успомнены Цэві-Гірш Маргаліот, яшчэ тады, калі быў друкаром у Алексінцы, надрукаваў там у 1772 г. кнігу—„*Земір арыцым ве-харбот цурым*“ баявы антыхасыдзкі памфлет, адзін з многіх у тыя часы (передрукаваны з надзвычайна рэдкага экзэмп. 1-га выданьня С. М. Дубновым у 2-м томе „Гевар“, у сэрыі „Chassidiana“).

[4]) Было перадрукавана Б. Кацам у ягонай „Истории просвещения евреев в России“, С. Цынбергам ды інш.

сійскі орыгінал перадрукаваны з уступнай зометкай Ю. І. Гесена ў „Научно-литературном сборнике Будущности" т. III. 1902. ст. 114—133; памянёны-ж пераклад, які быў выданы ў Шклове ў 1804 г. і зрабіўся бібліографічнай рэдкасьцю, вядомай усяго толькі ў 2-3 экзэмплярах,—перадрукаваны з уступам Б. Каца ў II томе гістарычнага зборніку на гэбрайскай мове *„Геавар"* Птгр., 1918, у выглядзе рэпродукцыі-факсіміле. Урэшце, нельга не зьвярнуць увагі яшчэ і на той факт, што вядомы легендарны жыцьцяпіс закладчыка хасыдызму Ізраіля Бешта „Шывхе Га-Бешт", які вышаў у сьвет адначасна на Валыні і ў Копысі, у розных рэдакцыях, якраз у Копыскай рэдакцыі зьявіўся ўзорам для ўсіх далейшых шматлічных выданьняў[1]).

У 1827 г. хрышчоныя яўрэі Зандберг і Фодэло ў сваіх паведамленьнях ураду паказваюць на тое, што „открылись-бы большие злоупотребления, еслн-бы сравнить вышедшие с 1811 г. из 20 типографий, ежедневно занятых, книги, с числом поступивших в Государственную Библиотеку", і што „еврейские и жидовские типографии, с дозволения правительства и *без оного* (падчыркнена намі Г. П.) существующие, находятся, сколько мне известно, в следующих городах... Что касается до типографии Хасидимов, то оне еще существуют в Жабренце и Могилеве (на Днястры. Г. П.). А потому сии типографии, *как уверяют, не имеют позволения от правительства* (падчыркнена намі. Г. П.) то и пишут они на заглавном листе вместо Жабриц, Остро, на тех же, кои печатаются в Могилеве, вовсе не означают места печатания"...[2]) Хоць гаворыцца тут, галоўным чынам, аб валынскіх і падольскіх друкарнях, і дух даказу ды „патрыятычнага" павялічэньня існуючай „небясьпекі" прасякае кожны радок, усё-ж частка праўды тут ёсьць, і прытым у адносінах да ўсіх яўрэйскіх друкарань у Расіі. Хочачы ўхіліцца ад цэнзуры [3]) (можа быць ня толькі ўрадавай, але і ўнутранай) альбо ашукаць яе, яўрэйскія друкары, у прыватнасьці беларускія, і запраўды вельмі шырака ўжывалі розныя спосабы: выпуск кніг з няправільным азначэньнем месца друку *(Амстэрдам* заміж Шклоў: *„Ор га-эвен"*, Прага заміж Шклоў: *„Бет мідот")*, без азначэньня месца і часу надрукаваньня, без азначэньня часу надрукаваньня і без азначэньня друкарні; у некаторых выпадках, аднак, можна падазраваць мотывы рэклямна-гандлёвага характару: напрыклад, калі на тытульным аркушы аднаго шклоўскага выданьня („Бет га-Леві") не азначана месца выданьня, і заміж яго надрукавана: „як у Дыгернфурце", дык гэта рэклямнае параўнаньне мясцовага продукту з работай гэткай слаўнай друкарні як Дыгернфурцкая. Што юрыдычная падстава існаваньня некаторых беларуска-яўрэйскіх друкарань была запраўды слабая, відаць з паведамленьня аб лёсе аднэй з іх (у памянёным артыкуле Ю. Гесена аб цэнзуры яўрэйскіх кніг: зданы рыскай экспэдыцыяй (цэнтральным органам цэнзуры яўрэйскіх ад 1797 да 1802 г.) у цэнзурны архіў 7 кніг, „принадлежащих еврею Шефтелю Бенциановичу в Шклове, которого мнимая типография белорусским губернским пра-

---

[1]) Наагул, Копысь быў асяродкам друкаваньня хасыдзкіх кніг, і ў агульным ліку копыскіх выданьняў яны складаюць ня меней 28%, у той час як у шклоўскіх іх каля 5%.

[2]) Ю. Г. К истории еврейских типографий. Крещеные евреи Зандберг і Фоделло: Еврейская Старина, 1909, IV, ст. 251.

[3]) Гл. Ю. И. Гессен. К истории цензуры еврейских книг в России: Научно-литературный сборник Будущности, т. II, ст. 58—76; тут выкарыстаны вялікі архіўны матар'ял.

влением яко незаконно существовавшая закрыты“ [1]). Пэрыод залежнасьці ад рыскай экспэдыцыі выявіўся звонку на тытульных аркушох выданьняў таго часу, у выглядзе няпісьменнага надпісу: [2]) „Mit bewiligung eine hechst macherordenen zensur zu kige“, альбо ў выглядзе надпісу на тытульным аркушы (па гэбрайску) наступнага зьместу: „Таму што кнігу... усю цалкам прачытаў склад экспэдыцыі, і не знайшоў у ёй нічога супроць законаў цэнзуры,—дазваляецца надрукаваць яе. Рыга... дня... году. Подпісы“ [3]).

У 1837 г. дзейнасьць яўрэйскіх друкарань на Беларусі была спынена. Разам з тым зьніклі і самыя друкарні, а хутка зьнікла і памяць аб іх. Прынамсі старыя жыхары Шклова ў 70-х і 80-х г. г. мінулага стагодзьзя альбо зусім нічога ня ведалі аб існаваньні ў сваім горадзе друкарань, альбо мелі аб гэтым „кніжныя“ паняцьці (паколькі ім прыходзілася бачыць кнігі шклоўскага друку). Зьнік, як відаць, бяз сьледу і тэхнічны апарат друкарань. Хочацца верыць, што мясцовыя жыхары патрапяць, аднак, выцягнуць што-колечы з багатай памяці мясцовых старых людзей, і што ў мясцовых архівах, дзяржаўных і прыватных, усё-ж захаваліся докумэнты аб яўрэйскім друкарстве на Беларусі.

---

[1]) Відавочна, Шэфтэль Бенцыяновіч—гэта Саббатай б. Бенцыон, аб якім была мова вышэй. Аднак, наколькі ёсьць ведама, ён быў у суполцы яшчэ з трыма друкарамі (Абрам б. Якоб Леві, Ар'е-Лейб б. Шнеур-Файвіш, Ар'е б. Менахем), а друкарня гэтай суполкі працавала і пазьней таго пэрыоду, да якога адносіцца данае паведамленьне. Чаму друкарня названа „*мнимой*“, калі яна была *зачынена*, незразумела.

[2]) У той-жа „нямецкай“ вэрсіі гэта нататка сустракаецца і на кнігах надрукаваных у Вільні, як напрыклад, „*Перуш ал Іона*“, Вільня 1800. Яна пісалася яўрэйскімі літарамі:

מיט בעווילליגונג איינר העכסט מכראָרדענען צענזור אין ריגע ע״י המדפיסים...

[3]) З іншых надпісаў на тытульным аркушы заслугоўваюць на ўвагу: а) „У друкарні Кароля Якубавіча Маёра Бергера. У новай друкарні, якую заклаў Ілія б. Самуіл і сын яго Барух“—друкарская фірма з хрысьціянінам на чале—фактычным удзельнікам у прадпрыемстве, ці офіцыяльным шэфам—няма ведама. б) „Пад уладарствам вялікага пана енарал-паручніка кавалера Сымона Гаўрылавіча Зорыча, няхай узвысіцца хвала яго“—надпісы аналёгічнага стылю і зьместу звычайна ўжываюцца ў адносінах да каранаваных асоб. С. Г. Зорыч, вядомы фаворыт Кацярыны II, быў уласьнікам Шклова.






Віт. Вольскі.

# Аб асаблівасьцях жывой мовы беларускіх татар і арабскай транскрыпцыі „Аль-Кітабаў“.

## I.

За час свайго шматвяковага прабываньня ў межах Беларусі, татары цалком страцілі цюрскую мову. Як слабы водблеск свайго ўсходняга паходжэньня, у сучаснай жывой мове беларускіх татар захаваўся рад слоў арабскага і турэцкага паходжэньня, якія сьведчаць аб тым, што ў сваім часе беларускія татары былі цюркамі ня толькі па крыві, але і па мове. Гэтыя словы, якія ў большай частцы належаць да рэлігійнай тэрмінолёгіі, альбо да хатняга ўжытку, што мае дачыненьне з рэлігіяй, татары перанесьлі з свае колішняй роднае татарскае мовы ў сваю новую родную мову—беларускую, падпарадкаваўшы іх, аднак законам беларускай фонэтыкі. У гэткім беларусізаваным выглядзе словы гэтыя захаваліся ў мове нашых татар аж дагэтуль.

Як прыклад ніжэй падаецца шэраг слоў з усходніх моваў, якія ўжываюцца ў сучаснай гутарцы татарскага насяленьня гор. Менску.

| | | | |
|---|---|---|---|
| Мізар | — магілкі | кафірскі | — хрысьціянскі |
| азáн | — хрышчэньне | намаз | — маленьне |
| суннэт | — абрэзаньне | дуá | — малітва |
| садагá | — міласьціна | себáх (сабàх) | — ранішняя малітва |
| абдзѐсь | — малое абмываньне | аллах | — бог |
| гўсель | — вялікае абмываньне | харàм | — забарона [1]) |
| кяфір | — хрысьціянін | хðджа | — настаўнік |
| куш | — птушка [2]) | іман | — вера |
| мячэць | — мячэць [3]) | шайтан | — шатан |
| малнà | — мус. духоўнік [4]) | ібліс | — д‘ябал |

Побач з асобнымі словамі, у мове беларускіх татар сустракаюцца і комбінаваныя выразы, якія складаюцца з двох слоў—беларускага і арабска-турэцкага. Напр.:

ісьці ў ходж — пілігрымнічаць
даць сялям — сказаў прывытаньне
рабіць курбан — прынасіць ахвяру.

Характэрна, што побач з арабскім словам ужываецца і слова аффіяра—азнака польскага ўплыву.

[1]) Параўн. гэбрайск. хэрэм.
[2]) Ужываецца толькі ў адносіных да райскіх птушак.
[3]) Сапсаванае мэсджыт.
[4]) Праўдападобна—сапсаванае тур. мòлна.

Асабліва цікавымі з філёлёгічнага боку зьяўляюцца „нацыяналізаваныя“ словы, г. зн. словы, у якіх захаваны арабскі альбо турэцкі корань, злучаны з чыста-беларускім канчаткам, прычым усё слова вывымаўляецца на беларускі лад. Яркім прыкладам гэтых словатвораў могуць служыць словы:

суннэдзей—той, хто ўчыняе рытуальны абрад абразаньня. У гэтым слове корань *суннэ* (ад слова суннэт—абразаньне) злучаны з беларускім *дзей* (ад дзеяньне, дзеяць);

харамны — забаронены [1])

рахманы — ужываецца ў тым сэнсе, як і пабеларуску [2]).

У цяперашні час, у сувязі з шырокім распаўсюджаньнем культуры ў масах, гэтыя словы пачынаюць патроху выходзіць з ужытку і забываюцца. Дзеля гэтага, запісваньне падобных слоў і выразаў было-б зусім на часе.

## II.

Яшчэ большае навуковае значэньне павінен мець другі жывы помнік, які сьведчыць аб цеснай духоўнай сувязі, што існавала ў мінулым паміж беларускімі татарамі і аднаверным Усходам—гэта арабскі шрыфт татарскай духоўнай літаратуры.

Карыстаючыся арабскім шрыфтам для перадачы беларускага тэксту, татары паступова прыстасавалі яго да асаблівасьцяй беларускае мовы. У некаторых выпадках яны часткова зьмянілі яго, альбо дапоўнілі свой арабскі альфабэт тымі значкамі, якіх не хапала. Шматгадовая практыка ўжываньня арабскага шрыфту пераатварыла гэтыя дапаўненьні і зьмены ў свайго роду сыстэму. Такім чынам, у такзваных „Аль-кітабах“ мы маем дачыненьне з рэформаваным, практычна прыстасаваным да беларускае мовы арабскім шрыфтам, падобна да таго як гэты шрыфт у сваім часе быў прыстасаваны да шэрагу моваў усходу, як цюрскіх, гэтак і арыйскіх (пэрсідзкая, турэцкая, татарская ды інш.).

„Аль-кітабы“ [3]) ці „Ай-кітабы“ [4])—гэта ёсьць рукапісныя зборнікі рэлігійнага характару, якія зьмяшчаюць у сабе выпіскі з корану і арабска-цюрскай духоўнай літаратуры, апісаньні рэлігійных цэрамоній і звычаяў, легенды, казкі, поэмы, загаворы і рэцэпты ад хвароб, гістарычныя зьвесткі, інакш кажучы—усё, аб чым толькі лічыў патрэбным успомніць аўтар гэткага рукапісу. Паданьні, казкі і да т. п., таксама, як і ўсе нататкі ад імя аўтара, напісаны (як агульнае правіла) пабеларуску або папольску, але арабскім шрыфтам. Загаворы і рэцэпты напісаны часткова пабеларуску, а часткова — як сьведчаць спэцыялісты — на арабскай і стара-турэцкай мовах. Малітвы напісаныя. паарабску, таксама як і вершы з корану, маюць пад радкамі пераклад і комэнтары на беларускай ці польскай мовах, але арабскімі літарамі.

Сыстэма ўжываньня арабскай транскрыпцыі кітабаў была выпрацавана, ях відаць, на працягу доўгага часу. Вызначыць месца і час паходжаньня гэтай сыстэмы немагчыма. Не захаваліся таксама і якія-колечы падручнікі, паказчыкі і альфабэты (іх пэўна што і ня было), якія-б паказвалі правілы ўжываньня арабска-беларускага шрыфту. Ён вывучваўся нашымі татарамі з роду ў род, ад бацькі да сына, а так-

---

[1]) Ад арабск. слова *харам*—забарона.
[2]) Параўн. гэбрайск. слова *рахмонэс*.
[3]) „Аль-кітаб“—кніга.
[4]) „Ай-кітаб“—сьвятая кніга.

сама ў так званых мектэбэ [1]), дзе ходжа [2]), сам без якой-колечы падрыхтоўкі і кваліфікацыі, побач з мэханічным завучваньнем напамяць тэкстаў корану, знаёміў сваіх вучняў з ужываньнем арабскага шрыфту па „кітабах“, якія былі пад рукою.

Дзеля гэтага, цьвёрда ўстаноўленых правіл транскрыпцыі, альбо аднае сыстэмы ня было. Часта адно і тое самае слова ў розных месцах аднаго „кітабу“ перадаецца парознаму.

Ужываючы арабскую транскрыпцыю, беларускія татары цалкам захавалі ў ёй тонкія адценьні і асаблівасьці пры перадачы зычных гукаў, гэтак характэрныя для арабскага шрыфту і зусім чужыя для лацінкі і кірыліцы. Гэтак, напрыклад, для азначэньня аднаго толькі гуку *С* у кітабах ужываецца, у залежнасьці ад вымовы і нацiску, чатыры самастойныя знакі. Для азначэньня *К*—два знакі (цьвёрдае-каф і мяккае-каф) для *З*—тры знакі. Для азначэньня *Т*—два знакі (цьвёрдае *т* і мяккае).

На асаблівую ўвагу заслугоўвае перадача гукаў характэрных для беларускае мовы. Дзеля таго, каб перадаць, напрыклад, беларускі гук *дз* (у арабскім шрыфце адпаведнага знаку няма), татары ўзялі арабскую літару *дал* (адпавядае нашаму *д*) і дадалі да яе зьнізу тры кропкі. Беларускае *ц* перадаецца праз арабскую літару *сад* (адпавядае нашаму *с*) з трыма кропкамі ўнізе. Гук *в* перадаецца праз арабскую літару *вав*. Гукі *о* і *у* (у арабскім альфабэце самастойных знакаў для іх няма) перадаюцца праз адну і тую-ж літару *вав*, але з значком (фатхой), які падобны да францускага accent aigu. Гэтак характэрнае для беларускае мовы *ў* перадаецца праз тую-ж літару *вав*, але ўжо з значком, які падобны да францускага accent grave.

Вялікую цікавасьць мае ўжываньне шэрагу комбінаваных апокрытычных знакаў для перадачы галосных гукаў (й, ю, je i да т. п.) і характэрных для беларускае мовы гукавых злучэньняў. Ужываецца напрыклад, скарочанае азначэньне для перадачы беларускага канчатку *ньне*. Уведзены таксама значок для зьмякчэньняў, які адпавядае нашаму *ь*.

Для азначэньня галосных гукаў, якія стаяць побач з сабою, ужываюцца скарочаньні. Напрыклад, каб перадаць канчатак слова *ішоў*, які складаецца з галосных *о* і *ў*, што маюць у арабскім шрыфце аднолькавае асноўнае напісаньне, пішацца адзін толькі знак *вав*, але над ім захоўваюцца абодва апокрытычныя значкі, якія ўжываюцца для азначэньня *о* і *ў*.

Разьмеры гэтага артыкулу не дазваляюць спыніцца болей падрабязна на ўсіх паасобных выпадках ужываньня таго ці іншага знаку,—гэта павінна стаць тэмай для асобнага дасьледваньня. Можна толькі адзначыць, што арабская транскрыпцыя з вялікім посьпехам перадае асаблівасьці беларускае мовы ў шмат якіх выпадках нават лепш за кірыліцу і лацінку.

Каб паказаць наколькі дакладна перадана ў „кітабах“ беларуская мова—падаю ніжэй некалькі прыкладаў беларускіх тэкстаў з кітабу, які я цяпер распрацоўваю. Арабскія знакі арыгіналу пераданы з магчымай дакладнасьцю адпаведнымі літарамі нашага альфабэту. Дзеля лепшага ўразуменьня сэнсу я паставіў знакі прыпынку, якіх у арыгінале няма.

Першыя 7 прыкладаў зьяўляюцца комэнтарамі да малітваў, што

[1]) Школа пры мячэці.
[2]) Настаўнік.

маюць значэньне загавораў. Апошні прыклад—адрывак з рэлігійнага апавяданьня, багатага полёнізмамі.

1. ...Магілу вадой паліваючы пець... [1]) (ст. VII, 3).

2. ...Гьдзе стаўшы на ноць, альбо на попаську, альбо на мейсьце, такьжа дьва рекеаты намаз [2]) пей і гэтую дуу [3]) пець... (ст. VII, 6-7).

3. ...Сьвечы зажыгаючы пець... (ст. VII, 9).

4. ...Седьмы раз пець і вуду дьмухаць, у той вудзе йесьць [4]) готоваць і те патьрава йесьць: паменьць добра будзе... (ст. VII, 14).

5. ...Йесьлі хьто яўне ведець, хорему те дуа напісаўшы на паперу, на вуда пусьціць; йесьлі до бьрегу пуйдзе—здароў будзе; йесьлі пусьрутку кьруціцьце—длуга хварець будзе... йесьлі на дьно пуйдзе, то умьре... (ст. VIII, 9-12).

6. ...Хьто гэтую дуа кожьдага дьня пеў—пан бог йего дом ад агьну обороні пеўне без похібы... (ст. IX, 12).

7. ...Йесьлі хьцеш заўжьды уд пана бога мець, у кождей себах [5]) по семь раз гэтую дуа пець... (ст. X, 3-4).

8. ...Алей [6]) науче цебе ў рымьскім паньстве. На газейсьтва [7]) ходзіл [8]) і там ў невуле ў зелі мьне і на мьне кавданы ўложылі. Ў яма ўруцылі мьне. Цалы рук там седзел. Йедней ноцы хоры был, уд пана буга прычыны просіл. Ў тым разе йеден пьтах пьрылецел і на дьреве сед і те дуа пеў, а я зьным пеў сабах. Стал пьтах тен, полецел. Те дуа полова научылсе і зноў плакоў, пана бога просіл. Зьноў ноць стала. Тен пьтах пьрылецел і пучуў пець і я зьнім пеў і веле пеў і научылсе те дуа.

Няма чаго і казаць, што вывучэньне тэкстаў „Аль-кітабаў" мае выняткова значэньне як для ўсходазнаўства, гэтак і для беларусазнаўства. Для ўсходазнаўства „кітабы" зьяўляюцца багатым мятар'ялам: 1) па выяўленьні тых пакрыжаваных і ўзаемадзеючых культурных уплываў Усходу і Захаду, об'ектам якіх на працягу доўгага часу былі беларускія татары; і 2) як гістарычны досьлед прыстасаваньня арабскага шрыфту да славянскае мовы—факт асабліва цікавы ў цяперашні час, калі арабскі шрыфт прыстасоўваецца да моваў (у тым ліку і арыйскіх), якія да гэтага часу ня мелі самастойнай пісьменнасьці.

Для беларусазнаўства „кітабы" даюць бліскучыя магчымасьці: 1) прасачыць разьвіцьцё жывой беларускай мовы, пачынаючы ад XVI-XVII стагодзьдзяў, і 2) выявіць ролю татар у стварэньні і ўзмацненьні вялікага княства Літоўска-Беларускага, аб чым ужо ёсьць некаторыя гістарычныя даныя.

---

[1]) Трохкроп'е пастаўлена заміж напісанага далей арабскага тэксту.
[2]) Малітвы ўкленчыўшы.
[3]) Характэрны выпадак скланеньня арабскага слова (дуа—малітва).
[4]) Й—ужыта для азначэньня знаку, адпавядаючага літары ёт.
[5]) Ранешняя малітва.
[6]) Арабская імя—Алі.
[7]) Подвижничество (ад арабскага корня „газі"—адважны, неперможны). Прыклад арабска-беларускага словатвору.
[8]) У многіх выпадках дзеясловы маюць на канцы ня *Ў*, як было-б трэба, а *Л*, як відаць пад уплывам польскае мовы.



Проф. П. Салаўёў.

# Аб баброх у Дрыбінскім раёне.

Некаторыя бакі пытаньня аб баброх у Дрыбінскім раёне, што дагэтуль былі спрэчныя, пачынаюць цяпер вызначацца зусім выразна.

Зьвесткі аб баброх у Дрыбінскім раёне мы знаходзім у *А. Фядзюшына* (А. В. Федюшин. О современном распространении бобра (Castor fiber L.) в Белоруссии и некоторые данные к его биологии. Бюллетень Московского О-ва испытателей природы. Отд. биологич. 1926, нов. сер. т. XXXV, вып. 1-2).

Аўтар піша: „У верхнім цячэньні Проні бабёр захаваўся ў надта абмежаванай колькасьці, адзінкавымі экзэмплярамі, якія выпадкова захаваліся каля пасёлку Чортаў Перавоз (за вёскай Будзіна). Што датычыць прысутнасьці бброў у раёне Дрыбінскага лясьніцтва, каля вёсак Галавічы, Халепы, Панечы і Карэбы (56°6' паўн. шыр. і 0°12' усход. д. ад Пулк.), аб якіх было паведамленьне проф. *П. Салаўёва* ў Менскай газ. „Звезда“ (№ 124 ад 31 траўня 1924 г.) і адносна якіх была пасьля ўзбуджана вялікая справа з боку Аршанскага Краязнаўчага Таварыства і Лясной Управы—Наркамзему БССР супроць Палескага Сярнічкавага Трэсту, які зьбіраўся сплаўляць дрэва міма бабровых будынкаў, у выніку якой, як я гаварыў аб гэтым у сэкцыі прыкладное зоолёгіі 2-га зьезду зоолёгаў у Маскве (1925 г.), была організавана асобная камісія, якая апрацавала на месцы правілы сплаву дзерава на гэтым вучастку, дык мне, калі я быў тут улетку 1925 г., не ўдалося знайсьці ніводнага доказу нядаўняй прысутнасьці баброў. Як відаць, справа была выразна раздута з добраю мэтаю аховы бабра, на жаль, ня там, дзе гэта трэба было-б зрабіць. Усё-ж кавалак зрэзанай бабром лазы, які тут знайшоў у 1924 г. проф. *П. Ф. Салаўёў* (як ён мне аб гэтым ветла пісаў), бяссумненна даказвае, што, болей ці меней выпадкова, бабры тут ёсьць, тым болей, што і ніжэй і ўгару ад гэтага месца на Проні бабёр жыве, і, зразумела, можа ад часу да часу зьяўляцца і ў памянёным раёне. Але рабіць тут бабровы ахоўнік, як аб гэтым было сказана ў пастанове камісіі дзеля агляду гэтых месц, няма сэнсу, бо мясцовасьць для гэтага тут зусім не падыходзіць, а з другога боку, у БССР ёсьць шэраг запраўды адпаведных для бабровага ахоўніку месц“. (Стар. 51).

Не зважаючы на рашучае пярэчаньне *А. Фядзюшына* што аб прысутнасьці баброў у памянёнай мясцовасьці, вясною 1927 г. у Аршанскае Акруговае Таварыства краязнаўства ізноў сталі прыходзіць з Дрыбіна зьвесткі, якія настойна сьведчылі аб тым, што ў спрэчным вучастку бабры жылі і жывуць. Паводле зьвестак Дрыбінскага Тава-

рыства Краязнаўства, „у лістападзе 1926 г. баброў бачылі на Проні двое вучняў Дрыбінскае сямігодкі недалёка ад Галавіч. А па Проні ў самых Галавічах, на пераезьдзе ад Галавіч на Хаміны, аднаго маладога бабра бачылі вучні Галавіцкае школы, аб чым паведамляе настаўніца. Бабёр ляжаў на пяску, але калі вучні сталі крычаць і кідаць у яго каменьні і палкі, бабёр схаваўся ў ваду. Самой настаўніцы прыходзілася бачыць на пяску сьляды баброў (яе словы: „сьляды пярэдніх лап як у качкі, задніх як у сабакі") у розных месцах недалёка ад Восава, куды яна сумысьля хадзіла".

Тут я лічу за неабходнае зрабіць маленькае адступленьне ад далейшай перадачы зьвестак з Дрыбіна, дзеля таго, каб спыніцца на сьлядох лап бабра.

Бабёр, як ёсьць ведама, мае ногі кароткія і вельмі моцныя, заднія трохі даўжэйшыя за пярэднія, на лапах пяць пальцаў; пальцы задніх лап злучаны шырокаю перапонкай да самых кіпцяў.

Падрабязныя ведамасьці аб сьлядох баброў дае *Л. Порценка* ў сваім артыкуле (Л. А. Портенко. Бобры на реке Тетерев в Киевской губ. 1926 г.). Ён піша:—„У часе сваіх дасьледваньняў я вельмі часта, і ў шмат якіх месцах, знаходзіў адбіткі лап бабра і дзеля гэтага не рэгістраваў іх. Нагляданьні дазваляюць зрабіць наступныя вывады. Бабёр, як відаць, бярэ пад увагу тое, што ён пакідае за сабою сьляды, якія паказваюць ягоную прысутнасьць, і стараецца альбо ступаць з большай асьцярожнасьцю, альбо меней таптацца на адным месцы. Сьляды часта нагэтулькі зблытаны, што ўзьнікае дапушчэньне аб жаданьні бабра сумысьля заблытаць свой ход. Сьлядоў уздоўж вады я спатыкаў вельмі мала; пэўна што ўздоўж берагу бабёр ідзе вадою. Звычайна сьляды вядуць простастаўна да вады ад месц пагрызаў. Тады калі на пярэдадні ішоў дождж, час праходжаньня зьвярка можна было вызначыць зусім дакладна, бо старыя сьляды змываліся дажджом і ў лепшым выпадку рабіліся нявыразныя. Часам адбіткі былі нявыразныя—як відаць замазаны хвастом. Болей таго,—відаць было, што хвост прыціскаўся да зямлі з прыметным высілкам. На пескавых грывах сьляды адбіваліся зьлёгка. Сьлед у такіх выпадках нагадваў сьлед гуся альбо бусла, бо былі прыметны толькі глыбокія адбіткі трох кіпцяў. На балоце выразна адбіваюцца пяткі і 3-4 пальцы задніх ног з кіпцямі. Берагі перапонкі паміж пальцамі не абрысоўваюцца ніколі. Пярэднія лапы адбіваюцца характэрнымі фігурамі ў выглядзе зорак. Пад кустамі бабёр прабіраецца па веццы, прыгібаючы яго да зямлі. У адным выпадку зьвярок, як відаць, аступіўся і пакінуў на густым балоце пад кустамі вельмі добры сьлед. *Адбіткі пярэдніх лап ляжаць то з бакоў задніх, то наперадзе ад іх;* часам заднія сьляды наступаюць на пярэднія. Аднаго разу адбіткі пярэдніх лап нагэтулькі далёка былі ад задніх, быццам бабёр бег прынамсі галёпам. Адбіткі лап даюць магчымасьць судзіць хоць часткова аб *колькасьці бабров*. Зьмераная даўжыня розных адбіткаў дае цыфры 9, 12, 17, 19, і 22 см. Такім чынам можна гаварыць аб бязумоўнай наяўнасьці 5 экзэмпляраў, а пэўна што шмат бабров могуць мець сьляды аднолькава доўгія, калі ўзяць пад увагу тэхнічную немагчымасьць зрабіць болей дакладныя памеры... Болей шырокія і болей вузкія сьляды тлумачацца, на мой погляд, палажэньнем ступаючай лапы".

Цяпер-жа зноў вернемся да матар'ялаў атрыманых з Дрыбіна:

„Адзін селянін з Галавіч расказаў, што ў лістападзе 1926 г. ён амаль ні злавіў жыўцом бабра на рэчцы Мураванцы, якая ўпадае ў

Проню з правага боку ў самым Восаве. Бабёр быў спатканы ім на няглыбокім месцы. Селянін доўга за ім гнаўся, пакуль бабёр не схаваўся на глыбокім месцы ў ваду.

Пры сплаве дзерава Сярнічкавы Трэст наняў 2 чалавек пільнаваць, каб плыты ня штурхалі ў бераг, дзе былі пячуркі баброў, але гэтае вартаваньне толькі пашкодзіла бабром. Бо гэтыя вартаўнікі расклалі каля самага берагу агонь і выпіўшы, як відаць,—зьбіралі навокал сябе разявяк і г. д., так што ў так званым ахоўніку бабры кідаліся ўва ўсе бакі, шукаючы прытулку і спакою. Дзе бабры затрымаліся на зіму, зараз адказаць цяжка. Ёсьць чуткі, што бабры затрымаліся на возеры Мураванцы, на ягоных верхавінах, па рэчцы Мураванцы, адзін бераг якой круты і парослы лесам.

Цяпер аб тым, ці былі бабры на Проні ў 1925 г.? Улетку 1925 г. шмат хто бачыў баброў у розных мясцох на Проні. У самым Восаве сябра т-ва Войтаў, касіўшы сена, чуў як плавалі і булдыхаліся ў вадзе бабры. Настаўнік Прыбускае школы, таксама косячы сена ўлетку 1925 г., бачыў штук 5 баброў на Проні супроць в. Хаміны, дзе ў Проню з правага боку ўпадае рэчка Азерня (вярсты тры ад Восава ўгару па Проні). Як відаць, Восава было месца зімаваньня баброў, а ў іншую пару бабры жылі і па другіх мясцох на Проні.

Пасьля закладкі ахоўніка ня была наладжана належная ахова баброў. Паводле неправераных даных вартаўнікам ахоўніку быў вызначаны грам. вёскі Палосак. Палоскі ад Восава знаходзяцца на адлегласьці 12 вёрст. А тымчасам, пасьля закладкі ахоўніку навокал гэтага пытаньня быў узьняты шум, асабліва сярод паляўнічых; і вось, калі ў 1924 годзе селянін з в. Галавіч, пэўна што несьвядомы і не паляўнічы, забіўшы бабра прадаваў скурку на Дрыбінскім рынку і трапіў у міліцыю і суд, дык у 1925 годзе, пасьля закладкі ахоўніку, баброў ужо забіваюць профэсыяналы-паляўнічыя. Так адзін селянін з вёскі Заложжа забіў у восень 1925 г. ў Восаве 5 баброў; зразумела, што на Дрыбінскім рынку бабровых скурак ён не прадаваў, бо ведаў, якая за гэта пагражала кара.

Трэба заўважыць, што сяляне з вёсак, што навокал Восава, асьцярожны ў гутарках наконт баброў, асабліва калі ў іх дапытваецца на іхні пагляд афіцыйная зацікаўленая ў гэтым асоба. Звычайныя адказы:—„ня бачылі, ды іх у апошнія гады зусім тут няма“. Два вучні Дрыбінскае сямігодкі паведамілі, што калі яны, убачыўшы баброў, сталі ў вёсцы Галавічах расказваць аб гэтым сялянам, дык апошнія казалі вучням, што гэта не бабры, і строга забаранілі ім расказваць дзеколечы аб тым, што яны бачылі.

Усе гэтыя факты, якія я тут падаў і іншыя, даводзіліся да ведама Аршанскага акруговага таварыства Краязнаўства. У віліку Акрвыканком арганізаваў камісію дзеля дасьледваньня гэтай справы на месцы.

Члены камісіі пасьля выкананьня ўскладзенага на іх даручэньня, па дарозе з Дрыбіна ў Воршу былі ў Горках, каб пабачыцца з *А. В. Фядзюшыным.* Але таму, што Фядзюшын жыве ў Менску, члены камісіі ветла перадалі мне як свае ўражаньні, так і вынікі абсьледваньня. З акту камісіі, які быў адданы ў маё распараджэньне, відаць наступнае.

„На шляху ад м. Дрыбін да м. Чавусы, пры сутоку дзьвёх рэчак—Шыпаўкі і Мураванкі, стаіць вадзяны млын. З правага боку млына, угару па цячэньні на захадзе ляжыць возера, якое займае плошчу каля 3,5 гэктараў; да возера з заходняга боку прылягае дрыгвісты аб-

шар, парослы вольхай, лазою, хвояй і рознімі дробнымі хмызьнякамі. Балота гэтае займае плошчу каля 4,5 гэкт. і даходзіць да вур. Табаліха Прылесьнінскае дачы Дрыбінскага лясьніцтва (агульная плошча якога—80 гэкт. буйнога лесу). Дзякуючы таму, што возера паднята грэбляй на 2 мэтры, рэчкі Мураванка і Шыпаўка, на працягу 0,75 кілёмэтра ўгару ад возера, маюць шырокае і глыбокае рэчышча (да 2-х мэтраў шырыні і каля 3 мэтраў глыбіні), прычым правы бераг рэчкі Шыпаўкі круты, высокі і парослы хмызьняком, а па левым беразе Мураванкі праходзіць дарога. Абедзьве рэчкі на адлегласьці 2 клм. ад воз. Мураванка маюць—першая Трылесьнінскае возера і вадзяны млын, а другая—Гаспадоўскі млын і возера. Да возера Мураванка і рэчак прылягаюць з абодвых бакоў сялянскія хутары. Возера вельмі багата рыбай і начовачкамі. Ад возера да хмызьняку цягнецца шырокая паласа чароту і іншых расьлін.

Пры аглядзе возера і рэчак камісія знайшла ў альховых і лазовых кустох на поплаве 3 сьвежых бабровых логава і каля іх у поплаве,—дзіры бабровых ходаў, якія злучаны з возерам. На логавах знойдзена шмат старога і зусім сьвежага памёту, частка якога ўзята камісіяй для дасьледваньня. Памёт, паводле папярэдняга агляду, складаецца з рэштак ракавай лупіны, рыбы, карэньняў, травы ды інш.

На падставе вышэйпамянёнага камісія лічыць, што ў возеры Мураванка і рэчках Шыпаўка і Мураванка, з прылягаючай да іх дрыгвою і хмызьнякамі, бязумоўна жывуць бабры, у ліку 2-3 сем'яў; гэта пацьвярджаецца таксама і шэрагам мясцовых грамадзян, якія кажуць, што бабры ў вурочышчы Мураванка жывуць здаўна, і што яны іх шмат разоў бачылі. Адзін селянін браўся нават прасачыць і злавіць бабра жыўцом на працягу 2-х дзён.

На рэчцы Проні, пры аглядзе берагоў, знойдзены размытыя вадою старыя бабровыя пячуркі. У вурочышчы Восава, на мялізнах паміж лазою, знойдзены каля самай вады выразныя сьляды бабровых лап (сьляды ідуць па мулу 0,25 мтр. ад вады, і зноў хаваюцца ў вадзе, ня выходзячы на бераг). Насупроць першай бабровай ямы, на адлегласьці 1/8 клм. ўніз ад б. царкоўнай сенажаці, на левым беразе Проні, у траве, на адлегласьці каля 20 см. ад вады, знойдзена логава бабра і адбітак ягонай лапы недалёка ад логава. Трэба заўважыць, што бабровымі ямамі завуцца шырокія і глыбокія месцы на Проні вышэй Восава; паводле заяў мясцовых сялян, тут часта бачылі баброў. Бачылі іх і ў гэтым годзе сяляне-рыбакі і вучні з вёскі Галавічы аб чым яны заявілі камісіі.

Левы бераг Проні ў вур. Восава вельмі высокі і круты, парослы хмызьнякамі, якія цягнуцца аж да дзяржаўнага лесу. Плынь рэчкі ў гэтым месцы павольная, а сама яна даволі глыбокая, дзякуючы таму, што Залажанскі млын (на 2 клм. ніжэй па рэчцы ад Восава, на Расьнянска-Магілеўскім шляху) падтрымлівае высокі ўзровень вады. На правым баку Проні і недалёка ад яе насупроць рогу вур. Восава, ёсьць вялікае старарэчча, парослае яварам (касачом) ды іншымі балотнымі расьлінамі, і праз увесь год запоўненае вадою. Усе гэтыя прыродныя ўмовы, узятыя разам, спрыяюць, па думцы камісіі, жыцьцю тут баброў.

На падставе ўсяго вышэйпаданага камісія знаходзіць, што ў вур. Восава на р. Проні, бязумоўна, жывуць бабры, частка якіх, дзякуючы непакою на Проні, перайшла ў воз. Мураванка па р. Шыпаўцы, якая ўпадае ў Проню вышэй вур. Восава і ніжэй бабровага азярышча".

Такія вынікі камісіі. Апрача гэтага, грамадзяне в. Галавічы запэўнялі, што яны знаходзілі сьляды баброў каля віру „Перакопішча" на Проні і ў іншым месцы, якое называецца „Папова Лука", ды што яны бачылі бабра, як той плыў у гэтых-жа месцах, на адлегласьці каля 200 саж. ад хутарскіх будынкаў.

Такім чынам цяпер, апрача розных зьвестак, атрыманых ад сялян, настаўнікаў, вучняў, членаў Таварыства краязнаўства, адносіцца да якіх з недавер'ем і цаніць іх меней, чым цаніў свае анкеты *А. В. Фядзюшын,* у нас няма падставы,—мы маем і болей конкрэтныя даныя, якія выключаюць дапушчэньне, што „справа была выразна раздута.

Усё гаворыць за тое, што бабры, ня глядзячы на перасьледваньне і нішчэньне іх, на Проні захаваліся. Калі прыняць гэта,—будуць зусім зразумелыя як знаходка мною лазы, што была зрэзана бабром, так і словы А. В. Фядзюшіна, „што і ніжэй і ўгару ад гэтага месца на Проні бабёр жыве". Аднак перасьледваньні прымушаюць бабра шукаць болей спакойнага месца, якім і зьяўляецца возера Мураванка.






Велішчанскі.

# Нашы машкаедныя расьліны.

Расьліны, як вядома, звычайна дастаюць кармленьне такім чынам: пры дапамозе гэтак званых хлёрофільных зерняў, якія знаходзяцца ў лісьцях, яны бяруць з паветра вугляквасны газ, а неабходныя матэрыі—мінэралы ў выглядзе соляў высмактваюць з глебы каранямі. Апроч гэтага спосабу кармленьня некаторыя расьліны ўжываюць другі, вельмі падобны да таго, якім жывяцца ўсе жывыя істоты і ў тым ліку і чалавек: тым ці іншым спосабам яны бяруць ужо арганізаваную матэрыю ў відзе якой-небудь жывёлы, казуркі, расьліны і пры дапамозе асаблівых г. зв. страўных сокаў раскладаюць гэтую матэрыю на больш простыя часткі і з апошніх будуюць свой організм, зьмяняюць сапсутыя часткі яго і г. д. Першым спосабам, паміж іншым, спосабам сынтэзу органічнай матэрыі з неорганічнай, жывёлы будаваць свой організм ня могуць.

Такіх расьлін, якія жывяцца казуркамі і наогул здольны папаўняць сваё цела з органічнай матэрыі, вядома досыць шмат: мухалоўка (Dionia muscipula) сарацэнія (Sarracenia). У Амэрыцы нэпэнтэс (Nepenthes на астравох Індыйскага акіяну і г. д. У нас на Беларусі да іх належаць плывунец звычайны (Urticularia vulgaris) і расіцы—доўгалістая і круглалістая (Drosera auglica et Drosera rotundifolia).

У чэрвені і ліпні на паверхні вадаёмаў з стаячай вадой, як напрыкл., у сажалках, прудох і г. д., часта можна ўбачыць вельмі прыгожыя кветкі жоўтага колеру, вельмі падобныя да кветак усім вядомай садовай расьліны—ільвінага зеву (Antirrhinum) альбо зарніцы звычайнай (Linaria vulgaris). Гэта і ёсьць плывунец звычайны (Urticularia vulgaris). Разгледзім яго дасканала (гл. малюнак). На досыць тонкім сьцяблі некалькі кветак, сабраных у гронку. Кожная кветка складаецца з жоўтага двугубага вяночка, у якого на зеве ёсьць дзьве палоскі цёмна-жоўтага колеру; дзьвюх тычак абапал падобнай да пляшкі верхняй плодазавязі; паміж іншым, вяночак вельмі лёгка адрываецца, чаму гэтую расьліну цяжка з кветкамі засушыць.

Як вы бачыце з малюнку, звычайнага выгляду лісьцяў—няма. Але тое, што вы напэўна прынялі за корані—гэта і ёсьць лісьце, а каранёў—няма. Самае цікавае ў гэтай расьліне—пляшачкі, якія раскіданы паміж долькамі лісьцяў. Гэтыя пляшачкі прадстаўляюць сабой апарат, прыладу для лоўлі рознай дробязі з насельніцтва стаячых вод—вадзяных блох, рачкоў, нават, як сьведчыць Кайгародаў—рыб'іх малькоў (моладзі) і апалонікаў На адным канцы пляшачкі ёсьць выйсьце, якое зачыняецца як-быццам дзьверцай. Гэтая „дзьверца“ ўсаджа-




а) цэльная расьліна; b) кветка; c) кветка без вяночка (плодазавязь); d) лоўчая пляшачка; е) долькі лісьцяў; f) павялічаны слупок з дзьвюма тычачкамі (к); g) павялічаны вяночак; h) павялічаная лоўчая пляшачка з волосікамі (i).

ная валаскамі, можа адчыняцца толькі ў сярэдзіну і такім чынам, калі якая-небудзь неасьцярожная жывёліна прыблізіцца да гэтай пляшачкі і даткнецца валаскамі на дзьверцы, пляшачка, як-быццам накідваецца на здабычу, якая трапіўшы ўсярэдзіну, вылезьці назад ня зможа. Там яно ад голаду, а можа і ад дзеяньня асаблівых сокаў, якія расьліна выпушчае ў гэтыя пляшачкі, гіне, яе труп разлагаецца і высмактваецца расьлінай.

Гэты цікавы процэс жыўленьня плывунца можна наглядаць і ў штучных умовах акварыума. У весну ў сажалцы альбо канаве можна ўбачыць пучкі велічынёй з гарошыну зялёнага колеру. З гэтых пучкоў,




Drosera rotundifolia-Расіца круглалістая

а) цэльная расьліна; b) кветка; c) ліст; d) корані; k) ліст у павялічан. відзе з злоўленай кузуркай (е) захопленай валаскамі (m); е) разрэз праз павялічан. кветку; відны тычачкі (f) і плодазавязь (g), h) павяліч. бутон.

у відзе якіх плывунец перазімоўвае, вырастаюць новыя расьліны плывунца. Калі ў акварыум палажыць некалькі такіх гарошын-пучкоў і кінуць туды ікры жабы альбо іншых дробных вадзяных жывёл, то можна будзе хутка наглядаць гэта надзвычайнае паляваньне расьліны за жывёлай.

А вось і другі прадстаўнік мошкаедных расьлін (гл. мал. № 2). Гэта расьліна завецца расіца круглалістная (Drosera rotundifolia). Яе можна досыць часта напаткаць пры вандраваньнях па сфагнавых балотах: росту яна малога 10—15 см. і сядзіць яна, абкружаная мохам, на якім раскінуліся яе цудоўныя лісьці-пасткі.

Расіца шматгадовая расьліна; лісьце яе прыкаранёвае, кветкі сядзяць гронкай па сьцяблі, белага колеру; тычачак, пялёсткаў па 5 шт. Самая цікавая частка гэтае расьліны—ліст. Пласток яго цёмназялёнага колеру, увесь утыканы нібы шпілечкамі чырвонага колеру; на канцох гэтых шпілечак празрыстыя кропелькі клейкага соку, якія вельмі падобны да звычайнай расы (адгэтуль і назва расьліны—„расіца"). Вось гэтыя кропелькі служаць прынадай для ўсялякіх дробных казюляк, якімі жывіцца расіца—камароў, дробных мух і г. д.

Вось як таленавіта апісвае працэс лоўлі камара расіцай вядомы

вучоны прыродазнаўца—Д. Кайгародаў: *) „...вось, адзін камарык, захоплены бліскучымі на сонцы кропелькамі лісьцяў расянкі, садзіцца на расьнічаты бераг ліста, думаючы задаволіць сваю смагу; але ў гэты момант ён чуе, што хтосьці яго трымае: яго лапкі і хобат вязнуць у клейкіх кроплях, якія ён прыняў за бліскучыя кроплі расы. Калі камар пачуў небясьпеку, то ён пачаў з усёй сваёй камарынай сілы вырывацца з бяды, але дарэмна! Высака паднятая кверху лапка толькі выцягвае клейкую кроплю навокал галоўчатага пончыка шчацінкі. І вось, ліст расянкі прыходзіць у нейкае дзіўнае беспакойства: шчацінкі яго пачынаюць паволі выпрастацца, па чарзе адна за аднэй, пачынаючы з бліжэйшых да таго месца, на якім знаходзіцца бядак-камар. Бліскучыя кропелькі таксама пачынаюць расьці і хутка павялічвацца. Затым шчацінкі пачынаюць згібацца пры сваёй аснове і нахіляць свае клейкія галоўкі ў напрамку да трапіўшага ў бяду камара, які ў сьмяротным страху ўжывае надзвычайныя, але дарэмныя патугі дзеля свайго вызваленьня. Ужо адна з шчацінак захапіла ахвяру за шыю, другая прыціскаецца да яе сьпіны... яшчэ некалькі хвілін і камар-бядак ужо абхоплен дзесяткам шчацінак; яшчэ нямногого—і ён заліт іх клейкім сокам—задушаны і патоплены...“

Калі асьцярожна выкапаць расіцу з мохам і пакласьці ў талерачку з вадой, дык можна доўга назіраць за ёй і карміць яе мухамі, камарамі: можна нават „пакрыўдзіць“ яе, прапанаваўшы ёй замест казуркі кавалачак шкла, каменчык альбо яшчэ што-небудзь.

*) „Мухоеды“.



# МАТАР'ЯЛЫ З МЕСЦ.

В. А. Самцэвіч і П. С. Стрыгуцкі.

## Папяровая фабрыка „Профінтэрн“ у Нова-Барысаве*).

### I. Кароткая гісторыя фабрыкі і яе месцапалажэньне.

Папяровая фабрыка „Профінтэрн“ (да 1923 г. „Папірус“) пабудавана ў 1902 г. кампаніяй беларускіх купцоў—Чорным, Вільгушэвічам і Данішэўскім, якія да гэтага часу займаліся эксплёатацыяй лесу на Барысаўшчыне. Адчуваючы патрэбнасьць пераапрацоўкі сырога ляснога матар'ялу на месцы дзеля атрыманьня большага прыбытку кампанія рашыла адчыніць папяровую фабрыку, бо іншыя прадпрыемствы па апрацоўцы дрэва ўжо былі. Фабрыка была пабудавана на правым беразе р. Бярэзіны ў адлегласьці 1,5 клм. ад вакзалу Барысаў Маск.-Белар.-Балтыцк. чыгункі ўніз па цячэньні ракі і побач з дрэваапрацоўчым заводам „Комінтэрн“. Такое месцапалажэньне фабрыкі было досыць выгодным: па рацэ дастаўляўся лес, як сыравіна і апал, па чыгунцы дастаўлялася ўсё патрэбнае для абарудваньня фабрыкі і адпраўляўся апрацаваны продукт.

Фабрыка знаходзілася ў руках прадпрыемцаў да канца нямецкай окупацыі. У 1919—21 г.г. фабрыка працавала вельмі слаба з прычыны адсутнасьці сыравіны для вырабу. Становішча рабочых было вельмі цяжкае. З 1922-23 г. праца на фабрыцы пачынае разгортвацца і ў 1925 г. фабрыка працуе ўжо поўным тэмпам.

### II. Рэволюцыйныя моманты.

Рэволюцыя 1905 г. амаль што зусім не закранула жыцьця рабочых, якія ў большасьці складаліся з мясцовых сялян, але частка рабочых усё-ж прымала ўдзел у агульных дэмонстрацыях рабочых. У 1906 г. група больш сьвядомых рабочых наладжвае ў лесе сход рабочых прадпрыемства, дзе абгаварваліся пытаньні павялічэньня зарплаты, памяншэньня рабочага дня і розныя організацыйныя пытаньні. Імпэрыялістычная вайна 1914 г. вырвала лепшую частку рабочых фабрыкі, што вызвала паніжэньне самай вытворчасьці фабрыкі і адбілася на далейшым росьце рабочага руху. На фабрыцы ўжо працуе значны % падлеткаў і жанчын з нізкай заработнай платай (падлеткі атрымлівалі 7-8 рубл. у месяц). У часы лютаўскай рэволюцыі настрой рабочых падымаецца, рабочыя прымаюць удзел у дэмонстрацыях, ставяць

*) Артыкул зьяўляецца вынікам дасьледчай экскурсіі з настаўнікамі—курсантамі летніх Барысаўскіх настаўніцкіх курсаў у 1927 г. на фабрыку „Профінтэрн“.

пытаньні аб павялічэньні зарплаты, але становішча не паляпшаецца, а ў часы нямецкай окупацыі яшчэ пагаршаецца з прычыны ўціску рабочых прадпрыемцамі.

### III. Рабочая сіла.

У першыя гады пасьля адчыненьня фабрыкі на ёй працавала 80 рабочых, жанчын было вельмі мала. Рабочыя набіраліся пераважна з мясцовых сялян, вельмі танна прадаваўшых сваю рабочую сілу. У сучасны момант на паперні працуе 189 чал., з якіх рабочых 167 чал. і служачых 22 чал. Рост рабочае сілы можна бачыць з наступнае табліцы:

| Час | Лік рабочых | Лік служачых | Усяго |
|---|---|---|---|
| 1/X 1924 г. . . | 132 | 12 | 144 |
| 1/X 1925 г. . . | 142 | 12 | 154 |
| 1/X 1926 г. . . | 154 | 15 | 169 |
| 1/IV 1927 г.. . | 165 | 22 | 187 |

З агульнага ліку рабочых на фабрыцы працуе 34 жанчыны, якія, галоўным чынам, працуюць у сартыровачным і ўпаковачным аддзяленьнях, а таксама і на іншых больш лёгкіх работах.

У вытворчасьці рабочая сіла разьмяркоўваецца наступным чынам: на вытворчасьці працуе 49%, на падсобных работах 28%, малодшага абслугоўваючага пэрсоналу і на гаспадарчых работах 15% і служачых 8%.

### IV. Зарплата.

У дарэволюцыйныя часы сярэдняя зарплата раўнялася 30 руб. у месяц за 12-гадзінны рабочы дзень. У сучасны момант зарплата рабочым выдаецца па 10-разраднай тарыфнай сетцы, а служачым па 17-разраднай сетцы. Зарплата выдаецца выключна грашыма адзін раз у месяц. Ніжэйшы заробак рабочага за апошні квартал быў 25 руб. 80 к. (па 1 разр.), сярэдні (6 разр.)—45 руб. 80 кап. і вышэйшы (9 разр.)—60 р. 20 к. павялічэньне зарплаты ішло наступным чынам:

| Час | па 1 разр. | па 6 разр. | па 9 разр. |
|---|---|---|---|
| 1924—25 г. . . . | 23 р. 04 к. | 37 р. 50 к. | 48 р. — к. |
| 1925—26 г. . . . | 24 р. — к. | 41 р. 28 к. | 56 р. 80 к. |
| 1926—27 г. . . . | 25 р. 80 к. | 43 р. 80 к. | 60 р. 20 к. |

З ліпня месяца 1925 г. на фабрыцы ўведзены прэміі з выработкі тавару, што значна павысіла заробак рабочых і зацікавіла іх у павышэньні продукцыйнасьці працы. За першы квартал 1926-27 бюдж. году (кастрычнік—сьнежань) прэміяльны заробак рабочых дасягнуў 40% усяе зарплаты.

Павялічэньне выдачы зарплаты ва ўсім прадпрыемстве характарызуецца ніжэйпаданымі лічбамі:

| Час | Рабочым | Служачым. |
|---|---|---|
| Кастр.—Сьнежань 1924 г. . | 13.413 р. | Вестак няма |
| Кастр.—Сьнежань 1925 г. . . | 19.175 р. | 3.864 р. |
| Кастр.—Сьнежань 1926 г. . . | 27.425 р. | 3.135 р. |
| Студзень—Сакавік 1927 г. . . | 31.416 р. | 3.768 р. |

Павышэньне продукцыйнасьці працы на фабрыцы ў значнай меры павышае і зарплату рабочых, асабліва, калі прыняць пад увагу ўвядзеньне прэміяльных выдач.

## V. Умовы працы і ахова здароўя.

Рабочыя і служачыя на фабрыцы працуюць па 8 гадзін, а броня па 6 гадз. У аддзяленьнях кохарным, шлейфэрным, рольным, папяровым і сарфазарным працуюць у 3 зьмены, у мэханічным цэху ў 2 зьмены, у астатніх—у адну зьмену. Санітарныя ўмовы працы нельга прызнаць здавальняючымі. На фабрыцы ёсьць толькі 2 вэнтылятары, з якіх адзін ужо нікуды не гадзіцца. Адсутнасьць вэнтыляцыі асабліва адчуваецца ў машынным і кохарным аддзяленьнях і найбольш у г. зв. „шкодным" аддзяленьні, дзе перабіраецца розны папяровы хлам. Асаблівая патрэбнасьць у вэнтыляцыі на фабрыцы адчуваецца ўлетку, калі з прычыны вялікай гарачыні прыходзіцца адчыняць вокны, што вызывае скразьнякі. Адносна іншых умоў справа абстаіць лепш: у кожным аддзяленьні ёсьць рукамыйнікі, мыла, кіпячоная вада, для рабочых і служачых ёсьць лазьня.

У дарэволюцыйныя часы мэддапамогі на фабрыцы амаль што зусім ня было. Цяпер пры заводзе „Комінтэрн", які знаходзіцца побач з фабрыкай „Проф'інтэрн", ёсьць амбуляторыя, якая абслугоўвае рабочых і служачых фабрыкі і заводу. Пры амбуляторыі з 5/VI—26 г. адчынены зубны габінэт. За тэрмін травень 1926 г.—сакавік 1927 г. (год) амбуляторыю наведала 944 чал. (альбо па 2,6 чал. у сярэднім у дзень); дома аказана дапомога за той-жа час 19 чал. (сем'і карысталіся галоўным чынам дапамогай Н.-Барысаўскай амбуляторыі). Зубная дапамога аказана 132 ч. Найбольш пашыранымі хваробамі сярод рабочых былі: грып, малярыя і кішачны тыфус.

## VI. Энэргія.

Фабрыка абслугоўваецца двума паравымі рухавікамі. Адзін з іх сыстэмы „Тандэм" (Нямеччына) у 450 конскіх сіл, працуе з 1907 г., выкарыстоўваецца на 80%. Рухавік абслугоўвае машыны і станкі ўсіх аддзяленьняў за выключэньнем папяровага аддзяленьня, рухавік прышоў ужо амаль што ў поўную няпрыгоднасьць і патрабуе замены. На фабрыку ўжо дастаўлен новы рухавік сыстэмы „Зульдэр" (Швэцыя) у 575 конскіх сіл, які быў устаноўлен к 1 жніўня бягучага году. Другі меншы рухавік мае 40 конскіх сіл і абслугоўвае машыны папяровага аддзяленьня. Машыны (рухавікі) перадаюць мэханічную энэргію пры дапамозе трансмісій да станкоў усіх аддзяленьняў. Абодва рухавікі прыводзяцца ў рух сілай пары 3-х паравых катлоў сыстэмы Бабкок-Вількос (Англія). Вада для паравых катлоў па трубе падаецца з р. Бярэзіны пры дапамозе насоса. Катлы апальваюцца дровамі. У суткі

патрабуецца 10 куб. саж. дроў. Замена дроў апілкамі, якіх ёсьць у значнай колькасьці пры фабрыцы на заводзе „Комінтэрн“ немагчыма з прычыны непрыстасаванасьці топак катлоў да апалу апілкамі, а такая замена дала-б значную экономію сродкаў.

Для асьвятленьня фабрыкі электрычнасьцю ёсьць дынама-машына, якая спэцыяльна дзеля гэтага і ўстаноўлена. Дынама-машына пастаяннага току ў 220 вольт; сіла машыны (току)—32 ампэра. Мэханічную энэргію ў 6,6 конскіх сіл машына атрымоўвае ад паравой машыны. Дынама-машына дае сьветлавую энэргію прыблізна на 4500 сьвечак.

## VII. Сыравіна.

Для вырабу паперы фабрыцы неабходна належная колькасьць яловай драўніны, старая няпрыгодная для ўжываньня папера і дрэва для апалу. Яловая драўніна (сырэц) і дровы для апалу набываюцца фабрыкай ад Лесбелу і Барысаўскага Гарадзк. Камбінату. Дастаўляецца матар'ял па р. Бярэзіне і р. Сха і грунтовых дарогах. Увесь лясны матар'ял захоўваецца на дварэ фабрыкі. Архіўны брак набываецца і прывозіцца з Масквы і Менску па чагунцы; захоўваецца на дварэ ў асобным дашчатым складзе.

На 1 красавіка запас сыравіны для фабрыкі быў наступны: яловай драўніны 400 куб. саж., няўжыткоўнай паперы (архіўны брак) 3660 пуд. і дроў для апалу 2100 куб. саж.

Расход сыравіны можна бачыць з наступнае табліцы:

| Назва сыравіны | 1924—25 г. | 1925—26 г. | Кастрычнік 1926 г.—сакавік 1927 г. |
|---|---|---|---|
| Яловай драўніны . . | 793 куб. саж. | 869 куб. саж. | 355 куб. с. |
| Папяровага браку . | 8000 пуд. | 22326 пуд. | 11102 пуд. |
| Дроў . . . . | 3288 куб. саж. | 3688 куб. саж: | 1789 куб. с. |

Сырцом фабрыка забясьпечана. Лясныя багацьці Барысаўшчыны на працягу бліжэйшых год могуць забясьпечыць фабрыцы належную колькасьць драўніны і дроў для апалу.

## VIII. Процэс вытворчасьці.

*Падрыхтоўка матар'ялу для масы.* Матар'ял для масы, з якой робіцца папера, падгатаўляецца ў двух аддзяленьнях: кохарным і сартыровачным. У першым падгатаўляецца драўніна, а ў другім папяровы брак.

*У кохарным аддзяленьні* распарваецца драўніна, якая дастаўляецца па рацэ Бярэзіне. На беразе бярвеньні разразаюцца ручным спосабам на роўныя кавалкі даўжынёй у 13 вяршк. і наёмным рабочым падвозяцца на кані да аддзяленьня. Драўніна (цурбанкі) кладзецца клеткамі ў катлы (у адзін 1,75 куб. саж. і ў другі 1,5 куб. саж.), катлы шчыльна зачыняюцца і туды праз трубы з паравога катла пускаюць пару для распарваньня гэтай драўніны. У катлох драўніна распарваецца 10—12 гадз. у залежнасьці ад таго, сухая ці сырая драўніна. Сухая драўніна патрабуе большага часу для распарваньня. Калі драўніна распарыцца, пару выпускаюць і ў катлы напускаецца цёплая вада

з ціскам у 5 атмосфэр працягам на 2 гадз. для разьмякчэньня драўніны. Ціск вадой пачаў ужывацца 6-7 месяцаў таму назад, а раней драўніна толькі распарвалася. У тыдзень распарваецца 14 куб. саж.

Ад якасьці драўніны і ад належнай распаркі залежыць якасьць паперы: напр., гнілаватая драўніна ці слабая распарка дае горшай якасьці паперу. У аддзяленьні неабходна ўстаноўка душніка (вэнтылятара). У аддзяленьні працуюць 3 пастаянныя рабочыя ў 3 зьмены. Калі матар'ял паступае неабкораны, тады 3-4 рабочыя абкорваюць кругляки пасьля распаркі і выхаду з катлоў.

*Сартыровачнае аддзяленьне* знаходзіцца на другім паверху памяшканьня фабрыкі. Папяровы брак і непатрэбны архіўны матар'ял спачатку складаецца ўнізу пад паветкай, адкуль, па меры патрэбнасьці, падаецца на другі паверх на тачцы (пуд. па 20) у сартыровачнае аддзяленьне, дзе спачатку адбіраецца папера, а розныя драцінкі, шпагат ды інш. адкідваюцца ў асобную скрынку. Тут-жа пападаюцца косьці і бінты, часамі заразьлівыя і з вельмі няпрыемным пахам. Гэтыя непатрэбныя адкіды па 3-4 пуды выносяцца на насілках ды выкідваюцца ў балота. Вельмі патрэбна ручную працу ў гэтым аддзяленьні як найхутчэй замяніць машынай. Умовы працы рабочых надта цяжкія, вэнтыляцыя адсутнічае, паветра цяжкае, асабліва летам. У аддзяленьні працуе 8 чал., зарплата 1 р. 50 кап. у дзень.

Адсартаваная рукамі папера—брак — паступае далей у сарфазарнае аддзяленьне.

*Падрыхтоўка масы* для вырабу паперы адбываецца ў шлейфэрным і сарфазарным аддзяленьнях. У першым прыгатаўляецца драўняная маса, а ў сарфазарным—маса з папяровага браку.

*Шлейфэрнае аддзяленьне.* Пасьля ачысткі круглякоў ад кары ў кохарным аддзяленьні, апошнія па ваганэтках перавозяцца к шлейфэрам, якіх ёсьць два (паземны і старчаковы) пры адным камені. У абодва шлейфэры закладваюцца распараныя кругляки, якія прыціскаюцца да каменя гідраўлічным прэсам. На працу шлейфэраў затрачваецца 300 конскіх сіл. У шлейфэрах драўніна ператвараецца ў драўняную масу, якая сьцякае ў басэйн, куды пры дапамозе насосаў наліваецца вада з ракі і дзе маса перамешваецца з вадой.

*Сарфазарнае аддзяленьне.* Ачышчаная ад усякіх непатрэбных прымесяй бракоўная папера ў сартыровачным аддзяленьні кладзецца рукамі ў асобную скрынку (лябёдка), якая на рэйках дастаўляе паперу ў асобны чан, які зьмяшчае 10—20 пуд. паперы (гледзячы па якасьці паперы). Чан напаўняецца пры дапамозе помпы ґарачай вадой, якая распарвае паперу. Для распарваньня мяккай паперы патрэбна каля 5 мін. часу, для больш цьвёрдай—да 1 гадзіны. Распараная папера віламі перакладаецца ў бракамолку (сарфазару), дзе папера пры дапамозе двух валоў з асобымі нажамі (валы верцяцца) расьціраецца ў масу. Гэтая маса ручным спосабам асобным каўшом перакладаецца рабочым у спэцыяльны засек, а адтуль маса па меры патрэбы дабаўляецца да драўлянай масы і зьмешваецца з апошняй у ролах.

Праца ў аддзяленьні ручная ў 3 зьмены па 2 рабочых (сарфазаршчык і памоцнік). Умовы працы ў аддзяленьні вельмі цяжкія і шкадлівыя для здароўя. Замяніць ручную працу машыннай пакуль што немагчыма.

*У рольным аддзяленьні* ёсьць адно амэрыканскае сіта і 3 ролы. Драўняная маса з шлейфэраў насосамі падаецца да сіта, дзе яна прачышчаецца (аддзяляюцца ня зусім раздробленыя кавалкі драўніны) і ад-

сюль пападае ўніз на барабан (лавушку). З барабана маса двума насосамі падаецца ў ролы. Кожны насос у мінуту падае 25 кілёгр. У ролах маса канчаткова раздрабляецца сыстэмай нажоў. Для атрыманьня паперы грубых гатункаў маса перамалваецца 15—20 мін., а калі трэба атрымаць паперу больш лепшых гатункаў, маса перарабляецца 25—30 мін. У ролы падаецца маса на 20 пуд. паперы (у большы на 8 пуд., сярэдні на 7 пуд. і меншы на 5 пуд.). Апрача таго, у ролы дабаўляецца:

Ў большы: браку ў сырым відзе 24 пуд., клею 4 вядр., квасцоў 3 вядр. і каоліну 1 вядро; у сярэдні: браку ў сырым відзе 16 пуд., клею 3 вядр., квасцоў 2 вядр. і каоліну 1 вядро; у малы: браку ў сырым відзе 8 пуд., клею 2 вядр., квасцоў 3 вядр. і каоліну 1 вядро.

Брак дадаецца дзеля скарыстаньня розных адкідаў і дзеля палепшаньня якасьці паперы (папера робіцца цяжэйшай і тлусьцейшай). Клей і квасцы дабаўляюцца пры вырабе абойнай паперы.

З ролаў маса ўжо ў гатовым для вырабу паперы відзе паступае ў рэзэрвуар, адкуль гэтая маса наліваецца на папяровую машыну.

У аддзяленьні неабходна перамяніць нажы ў ролах. Працуе 3 рабочых: ролшчык і 2 памоцнікі.

*Папяровае аддзяленьне.* У папяровым аддзяленьні з гатовай масы выпрацоўваецца папера на папяровай машыне, якая складаецца з наступных частак: 1) чану з чарпакамі для падачы масы, 2) пясочнай, 3) чысьціцеля (рашоткі), 4) сеткі, 5) сыстэмы прэсаў (гальпрэс, прэс першага сукна, прэс другога сукна), 6) сушыльных цыліндраў і 7) накату. Маса з ролаў пападае ў асобны чан, адкуль яна чарпакамі падаецца ў пясочную і ачышчаная там ад пяску, пападае ў чысьціцель (рашоткі), дзе застаюцца розныя прымесі (ня зусім перамолатая драўніна і інш.); далей маса праходзіць праз сетку, астаўляе там значную частку вады і праходзіць поступова праз два прэсы, якія прасуюць масу і яшчэ больш адымаюць вільгаць. З другога прэсу маса ўжо ў відзе вільготнай паперы падаецца на гарачыя цыліндры з сукнамі, дзе яна канчаткова прасушваецца і ідзе для накатваньня ў ролькі, а далей глазіруецца на каландры (8 валікаў).

З каландраў глазіраваная папера ідзе для рэзкі на асобны станок і адтуль кіпамі адносіцца ў упаковачна-сартыравальнае аддзяленьне. У аддзяленьні ёсьць таксама перакатны станок, на якім перакатваецца папера для абояў, якая ня ідзе для рэзкі. Папяровая машына лічыцца зношанай і патрабуе замены новай.

Таўшчыня паперы залежыць ад колькасьці масы, якая падаецца з чану чарпакамі, дзеля чаго пры чарпаках ёсьць рэгулятар. На фабрыцы выпрабляецца жоўтая абвёртачная (глазіраваная і неглазіраваная) і жоўтая абойная папера.

Праца ў папяровым аддзяленьні ідзе ў 3 зьмены па 10 чалавек.

*Упаковачнае аддзяленьне.* У ўпаковачна-сартыравальным аддзяленьні прынесеную ад рэзнага станка паперу сартыруюць: папера першага, другога і трэцяга гатунку. Да 3-га гатунку адносіцца папера нягладкая і няплотная (дзіркаватая). Адсартаваная папера складаецца ў кіпы па 4-5 пуд., прасуецца на асобным станку і кожная кіпа перавязваецца дротам. На ваганэтках гэтыя кіпы адвозяцца на склад пры фабрыцы.

Пры фабрыцы ёсьць мэханічны цэх—кузьня і сьлясарная майстэрня, якія абслугоўваюць фабрыку і выпаўняюць неабходны бягучы рамонт некаторых частак машын.

### IX. Продукцыя вытворчасьці.

Продукцыя вытворчасьці фабрыкі характарызуецца лічбамі наступнай табліцы:

| Кварт. | 1924—25 г. Выраб у тонах | 1924—25 г. Сабекаштоўн. у рубл. | 1925—26 г. Выраб у тонах | 1925—26 г. Сабекаштоўн. у рубл. | 1926—27 г. Выраб у тонах | 1926—27 г. Сабекаштоўн. у рубл. |
|---|---|---|---|---|---|---|
| I | 390 | 125196 | 479 | 158091 | 520 | 176220 |
| II | 371 | 118856 | 426 | 142007 | 540 | 187321 |
| III | 460 | 147655 | 454 | 149664 | — | — |
| IV | 492 | 157799 | 498 | 164323 | — | — |
| Усяго | 1713 | 549506 | 1857 | 614086 | — | — |

Выконваньне вытворчай програмы наступнае: у 1924—25 г. програма выканана на 141% (1713 тон замест 1207 тон), у 1925—26 г.— на 121% (1857 тон замест 1531 т. па заданьні). Якасьць тавару паступова паляпшаецца, брак памяншаецца; так, напр. у 1925—26 г. у I і II квартал браку было 22%, а к канцу году ён паменшыўся да 7%.

Каля 5% выробленай паперы рэалізуецца на месцы (прадаецца мясцовым організацыям), а 95% паперы накіроўваецца па нарадах „Белбумтрэстаў“ у Менск, Маскву, Бабруйск ды інш. гарады СССР. Адзін кілёгр. паперы ў апошні час прадаваўся па 32 к.

### X. Кіраўніцтва фабрыкай.

Фабрыка „Профінтэрн“ уваходзіць у трэст папяровай прамысловасьці Беларусі („Белбумтрэст“) і зьяўляецца вытворчай адзінкай трэсту, які падлягае ВСНГ БССР. Трэст забясьпечвае фабрыку сыравінай, здае заказы. Непасрэдна працай фабрыкі загадвае кіраўнік фабрыкі.

### XI. Склад і організацыя рабочых.

Нацыянальны склад рабочых фабрыкі наступны: беларусаў 52%, расійцаў—7%, палякаў—9%, яўрэяў—22% і іншых—10%. Партыйны склад: членаў КПБ(б)—20,5% (42), кандыдатаў—2,5%, сяброў ЛКСМБ—12,3% (25 ч.) і беспарт. 64,7% (132 ч.).

Усе рабочыя фабрыкі зьяўляюцца членамі саюзу папернікаў. Фабком складаецца з 5 чал. і клапоціцца аб палепшаньні ўмоў працы рабочых, абараняе іх інтарэсы перад адміністрацыяй, а адначасна з гэтым прыймае ўдзел у падняцьці вытворчасьці фабрыкі. Для разьвязваньня конфліктаў паміж адміністрацыяй і рабочымі існуе РКК, якая за апошнія 8 месяцаў разабрала 27 конфліктаў (19 адносна павялічэньня зарплаты, 2 аб звальненьні рабочых за прагулы і інш.). На фабрыцы існуе каса ўзаемадапамогі, якая аб'ядное 92 сябры саюзу. За мінулае паўгодзьдзе касай выдана беззваротная дапамога ў 10 рубл. і розных пазык на суму 600 р. Для аховы здароўя і працы рабочых існуе адпаведная камісія. Конфліктаў паміж адміністрацыяй і рабочымі з-за невыпаўненьня ўмоў аховы працы ня было. Рабочым выдаецца спэцвопратка, мыла, прыймаюцца меры да палепшаньня саніт-гігіенич-

ных умоў і г. д. Коопэратыву пры фабрыцы няма, рабочыя ў ліку 135 чал. зьяўляюцца членамі Барысаўскага ЦРК. Крамная камісія праводзіць пэрыодычныя абсьледваньні адносна зьніжэньня розьнічных цэн на тавары і робіць справаздачы па агульных сходах рабочых.

У мэтах падняцьця вытворчасьці фабрыкі на апошняй праводзяцца вытворчыя нарады раз у месяц. Абгаварваюцца наступная пытаньні:

1) тэхнічнае становішча і магчымыя палепшаньні на фабрыцы;
2) забясьпечаньне фабрыкі сыравінай;
3) палепшаньне якасьці продукцыі і сабекаштоўнасьць апошняй;
4) становішча мэханічнага цэху.

Падрыхтаўчая праца праводзіцца ў вытворчай камісіі, якая складаецца з прадстаўнікоў адміністрацыі, спэцыялістых прадпрыемства, прадстаўнікоў партыі і фабкому. Рабочыя паступова ўцягваюцца і прымаюць актыўны ўдзел у павышэньні вытворчасьці і палепшаньні ўмоў працы. Так, па прапанове саміх рабочых на фабрыцы досыць дарагі дрывяны апал заменены больш танным—абрэзкамі з дрэваапрацоўчага заводу „Комінтэрн“, намечаны шэраг і інщых мерапрыемстваў.

## XII. Бытавыя рысы.

Быт рабочых паступова мяняецца. Перш за ўсё трэба адзначыць вызваленьне рабочых ад розных рэлігійных забабонаў. Рэлігійных зусім мала сярод рабочых. Царкоўныя абрады за апошнія два гады амаль што зусім ня мелі месца ў жыцьці рабочых. Паляпшаюцца ўзаемаадносіны рабочых паміж сабой і паміж членамі сям‘і; лаянка, п‘янства паступова зьмяншаюцца; паляпшаюцца таварыскія адносіны.

## XIII. Культасьветная праца.

Пры фабрыцы ёсьць чырвоны куток, дзе праводзіцца масавая і гуртковая праца сярод рабочых. У бібліотэцы пры чырвоным кутку налічваецца 507 кніг: па беларускай мове 47 кн., яўрэйскай—41 кн., расійскай—419 кн.; па аддзелах літаратура разьмяркоўваецца наступным чынам: кніг па прыгожым пісьменстве — 408, па фізкультуры—10 кн., профэсійнай літаратуры—55 кн. і кніг агульнага аддзелу—34. Сталых чытачоў 90 чал. Пры чырвоным кутку працавалі гурткі: вайсковы, профэсійны, драматычны і спортыўны. Найбольш праца праводзілася ў вайсковым і спортыўным гуртках. Рабочыя ўваходзяць у наступныя таварыствы: Авіяхім (68 чал.), Мопр (75 чал.). Праца ў таварыствах наладжана слаба. Сходы адбываюцца ня зусім акуратна з тае прычыны, што рабочыя ў большасьці жывуць далёка ад фабрыкі.

Сувязь рабочых з сялянамі выяўлялася ў шэфстве над Перасацкім сельсаветам, куды рабіліся выезды ў часы розных кампаній; для сялян выпісваліся газэты: „Бедната“ 1 экз. і „Крестьянская газета“ 2 экзэмпл.

Пры фабрыцы ёсьць гурток рабкораў у 18 ч., якімі выпускаецца штомесячная насьценная газэта „Ільлічоўка“, якая на раённай выстаўцы атрымала прэмію.

Рабочымі і служачымі фабрыкі выпісваецца пэрыодычная літаратура: за студзень м-ц 92 экз., за люты—111 экз. і за сакавік 115 экз.: „Правда“—18 экз., „Рабочая газета“—28, „Известия“—1 экз., „Комсомольская правда“—6 экз.; „Звезда“—39, „Савецкая Беларусь“—1 экз., „Юнгер-арбайтер“—1; „Комуніст“ 1 экз. і г. д. Як бачым, беларуская

літаратура (47 кніг з 507) і беларуская газэта пашыраны вельмі слаба.

## XIV. Магчымыя палепшаньні і пэрспэктывы фабрыкі.

Выгоднае месцапалажэньне фабрыкі і магчымасьць поўнага забясьпечаньня фабрыкі ў належнай колькасьці сыравінай і магчымасьць поўнага збыту вырабаў ствараюць умовы для далейшага росту і разьвіцьця фабрыкі. На бліжэйшы час намечана правядзеньне наступнага рамонту: рамонт паравой машыны, ролаў, папяровай машыны, шлейфэра, каландра і інш. усяго на суму прыблізна каля 200.000 рубл.

Дзеля пашырэньня вытворчасьці фабрыкі намечаны наступныя мерапрыемствы: 1) устанавіць бягуны для размолу архіўнага браку; 2) устанавіць 4 ролы для размалваньня масы; 3) каландр для глазіроўкі паперы; 4) пабудаваць электрастанцыю сілай у 150 кілёват; электрастанцыя будзе прыводзіць у рух усе новыя машыны і станкі. Ёсьць на ўвазе ўстанавіць 2 цыліндры для сушкі паперы. Усё гэта пераабсталяваньне павялічыць вытворчасьць да 3600 тон у год без павялічэньня ліку рабочых.

---




В. Самцэвіч.

# Вёска Дакудава (Крупск. р., Аршанскай акр.).

*(Культурна-гістарычны нарыс).*

### I. Кароткая гісторыя і месцапалажэньне вёскі.

Аб гісторыі вёскі Дакудава мала што вядома.

Упачатку XVIII ст. в. Дакудава ўваходзіла ў склад Барысаўскага староства і перажывала ўсе асноўныя моманты экономічна-гістарычных падзей, якія мелі месца на тэрыторыі Барысаўшчыны: барацьбу Польшчы і царскай Расіі, прыгоннае права, барацьбу праваслаўя з каталіцтвам, нямецкую і польскую окупацыі.

Да часоў утварэньня Савецкай Беларусі в. Дакудава ўваходзіла ў склад Менскай губ., Барысаўскага павету, Лошніцкай воласьці. Пасьля раёнаваньня 1923 г. вёска Дакудава ўваходзіла ў склад Крупскага раёну Барысаўскай акругі. Цяпер уваходзіць у Аршанск. акругу.

Вёска знаходзіцца ад Менску на адлегласьці 105 вёр. ад Барысава ў адлегласьці 27 вёр. З гэтымі гарадамі яна зьвязана гасьцінцам і чыгункай. Да бліжэйшай чыгуначнай станцыі 7 вёр.; раённы асяродак (м. Крупкі) знаходзіцца ў адлегласьці 17 вёр. У Крупках адбываюцца кірмашы, ёсьць агрономічны і вэтэрынарны пункты, пошта, больніца. Аднак-жа трэба сказаць, што сяляне в. Дакудава з часу раёнаваньня ніяк не прызвычаіліся наведваць м. Крупкі; іх больш прыцягвае г. Барысаў, дзе адбываюцца больш багатыя кірмашы, ёсьць больш багатыя коопэратыўныя крамы з вялікім выбарам розных тавараў, сельска-гаспадарчыя склады; туды-ж аддаюць некаторыя сяляне і сваіх дзяцей вучыцца ў гарадзкія сямілеткі і тэхнікум. Слаба зьвязана вёска з Крупскай поштай і больніцай. У гэтай справе вёска мае большую сувязь з с. Лошніцай, быўшым валасным асяродкам (10 вёр.). Вёска зьвязана з Лошніцкай поштай лістаносцам, які 2 разы ў тыдзень прыносіць і адносіць паштовыя корэспондэнцыі.

У $2^1/_2$ вяр. ад вёскі праходзіць М.-Бел.-Балт. чыгунка. Бліжэйшая чыгуначная і паштовыя станцыя Прыяміна знаходзіцца ў 7 вёр.

На працягу каля 2-х вёр. з паўднёвага ўсходу на паўночны захад уздоўж балота з паўночнага боку расьцягнулася вёска. Балота і далей агібае вёску з усходн. і заходняга канцоў вёскі. На паўднёвым баку вёскі раскінуліся вясковыя палеткі. З трох бакоў вёску абкружаюць лясы, дзе яшчэ нядаўна было шмат дзікіх зьвяроў: ваўкі, лісіцы, мядзьведзі і інш. Зараз лясы ў значнай меры ўжо зьнішчаны.

Шляхі зносін вёскі з суседнімі вёскамі надзвычайна дрэнныя. Мясцамі праз самую вёску ў дажджлівую восень і раньнюю вясну нельга

ня толькі праехаць, але нават і прайсьці. Вясной на вуліцы гразнуць каровы. Дарогі ў трох кірунках (на паўн., паўн. усх. і паўн. зах.) ідуць праз балоты, найлепшыя шляхі зносін магчымы толькі зімой, калі моразы моцна закуюць балоты. Летам прыходзіцца рабіць вялікія аб'езды ў некалькі вёрст, каб выбрацца на гасьцінец ці на больш буйную дарогу, асабліва ў паўн. і паўн.-зах. кірунку. Дарогі на Вялікія Жаберычы, Ратуцічы, Начу на балотах маюць грэблі, якія праложаны невядома калі. У час вайны 1914—17 г. г. гэтыя грэблі папраўляліся, а цяпер вельмі сапсуліся. Папраўкі дарогі і грэбляў ня робіцца. Толькі ў паўднёвым кірунку магчым праезд ва ўсе пары году бяз значных перашкод. Наогул-жа дарогі знаходзяцца ў вельмі дрэнным становішчы.




## II. Насельніцтва вёскі.

Вёска да Кастрычнікавай Рэволюцыі падзялялася на дзьве часткі: „мужыкоў“ і „шляхту“. „Шляхта“ была экономічна больш моцнай групай, але і кожная з гэтых груп была неаднолькава па сваім соцыяльным складзе: некаторыя „мужыкі“ былі багацей за сярэдняга „шляхціца“ і некаторая частка „шляхты“ ня мела хлеба на цэлы год. У часы паншчыны „мужыкі“ належалі спачатку да Радзівіла, а потым (з 40-х гадоў XIX ст.) да б. в. кн. Мікалая Мікалаевіча. Адбываць паншчыну хадзілі вярсты за $4^1/_2$ у фольв. Валянцінава (цяпер „Галубы“). Пры вызваленьні ад прыгону сяляне в. Дакудава атрымалі зямлю ў розных кавалках.

„Шляхта“—ранейшыя арандатары зямлі ў таго-ж Мікалая Мікалаевіча. Мясцовыя старажылы апавядаюць: пры царыцы Ганьне (якой— ня ведаюць) быў нейкі прыдворны дваранін Ходасаў, які з цягам часу абяднеў і распрадаў сваю маемасьць. Патомкі яго, ня маючы сродкаў на пражыцьцё, сталі арандаваць у памешчыкаў фольваркі і сваімі

ўласнымі рукамі апрацоўвалі зямлю. Адзін з іх заарандаваў зямлю ў Радзівіла па суседзтву з вёскай Дакудава, Вёска ў той час знаходзілася ў іншым месцы (цяпер уроч. „Старае сяло“). Патомства разрасталася, зямля драбілася. З цягам часу патомкі Ходаса згубілі сваё дваранства і сталі называцца „вольнымі хлебаробамі“. Іх паселішча звалася „хутар Дакудава“. Замест грашовай платы за арэнду яны хадзілі адбываць некалькі дзён у месяц паншчыну ў той-жа самы фольв. Валянцінава. Але неяк, прыблізна каля 1855 г. яны сталі дамагацца, каб зьвярнуць сабе зноў дваранства і ў 1861-2 г. ім удалася гэтага дабіцца. Але з боку экономічнага становішча жыцьцё іх не зьмянілася: яны засталіся арандатарамі ў Мік. Мік. аж да самай лютаўскай рэволюцыі 1917 г. Мік. Мік альбо яго намесьнікі ў любы час маглі адабраць ад іх зямлю з будынкамі, выкінуць іх з наседжанага гнязда. Такія выпадкі ня раз мелі месца ў іх жыцьці.

У свой час несельніцтва вёскі складалася з некалькіх „фамілій“, з якіх першае месца займалі Хадасевічы і Бараны. З цягам часу насельніцтва павялічвалася, наяжджалі новыя гаспадары.

У сучасны момант маем такі склад вёскі:

| УЗРОСТ | Мужчын. | Жанчын |
|---|---|---|
| Да 7 год . . . | 38 | 24 |
| Да 10 „ . . . | 24 | 17 |
| Да 16 „ . . . | 25 | 28 |
| Да 55 „ . . . | 119 | 129 |
| Старэй . . . | 18 | 14 |
| Усяго . | 224 | 212 |

## III. Зямлябудаўніцтва і зямлякарыстаньне.

Насельніцтва вёскі займалася і займаецца пераважна сельскай гаспадаркай і мае ў сваім карыстаньні 300 дзес. пахаці, 88 дз. сенажаці, (на 60 % балотнай), і 50 дз. выгану. Рэволюцыя зямлі сялянам не дала з тае прычыны, што паблізу ня было ні зямель памешчыкаў, ні запасных.

Зямля разьмяркоўвалася і разьмяркоўваецца наступным чынам:

| Насельніцтва | Душ | Дз. пах. зямлі | Сенажаці | Выгану | Усяго дз. на адну душу |
|---|---|---|---|---|---|
| „Шляхта“ . . . | 208 | 160 | 36 | 40 | 1,13 |
| Сяляне . . . . | 228 | 140 | 52 | 10 | 0,9 |
| Усяго . . . | 436 | 300 | 88 | 50 | |

Калі мы паглядзім, як разьмяркоўваецца зямля паміж паасобнымі групамі насельніцтва, дык убачым наступную карціну:

| Катэгорыі сялян | Лік двароў | Лік едакоў | Зямлі ўсіх відаў | Прыходзіцца ўсяго дз. на 1 душу | Коняй | Кароў |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Безьзямельных . . . | 2 | 5 | — | — | — | — |
| Ад 1 да 2 дз. . . . | 19 | 84 | 36 | 0,43 | 17 | 24 |
| „ 2 „ 3 „ . . . | 12 | 41 | 28 | 0,68 | 13 | 18 |
| „ 3 „ 5 „ . . . | 43 | 196 | 199 | 1,00 | 48 | 96 |
| „ 5 „ 8 „ . . . | 19 | 91 | 137 | 1,50 | 41 | 41 |
| „ 8 „ 16 „ . . . | 3 | 19 | 38 | 2,00 | 8 | 11 |
| Усяго . . . . | 98 | 436 | 438 | | 127 | 190 |

Такім чынам бачым, што вёска мае пераважна серадняцкі склад насельніцтва (61,2%) і ў значнай частцы—бядняцкі (30%). Досыць яскравы малюнак клясавай розьніцы вёска мела да часоў рэволюцыі. Пасьля рэволюцыі частка зямлі ад найбольш заможных перайшла да малазямельных. Экономічная няроўнасьць паступова зьнішчаецца, але „шляхта“ яшчэ не пазбавілася сваіх „шляхоцкіх“ дробна-буржуазных поглядаў і ня зусім зьліваецца з „мужыкамі“ ў агульна-грамадзкіх справах.

Зямлякарыстаньне як у „шляхты“, так і ў „мужыкоў“ цераспалоснае. Але „шляхта“ перад вайной 1914 г. правяла нейкае зямлябудаўніцтва: усё поле разьбілі на чатыры зьмены, паменшыўшы лік і павялічыўшы велічыню палос. Тут на аднаго гаспадара прыходзіцца ад 6 да 8 кавалкаў пахаты і 3-4 кавалкі сенажаці. Велічыня розная: нарэзы („разы“)—ад ½ да 3 дз. і „наддаткі“— ад ¹/₁₀ да ½ дз.

Другі выгляд у „мужыкоў“: тут пануе трохпалёўка. Некаторыя гаспадары, маючы 4 ½ дз. зямлі, маюць да 20 кавалкаў пахаты і 12 кавалкаў сенажаці. Велічыня таксама ад ¹/₄₀ да 1 дз.

Але ня гледзячы на тое, што ў „шляхты“ чатырохпольле,—пладазьмен вядзецца ў іх па сыстэме трохпольля, нават, як самі яны кажуць, горш: 1—папар; 2—жыта; 3—яр і 4—яр. Правільнага севазвароту завесьці ня можна па тэй прычыне, што кожны гаспадар, які захоча завесьці на сваім палетку той ці іншы пладазьмен,—залежыць ад сваіх суседзяў, бо згаварыцца ўсе адразу ніяк ня могуць. І ці можна завесьці шматпольле з правільным пладазьменам на 3-х дз., якія раскінуты ў 20 кавалках. І ў зьвязку з гэтым—апрацоўка зямлі вядзецца падзедаўску. Пераважна сеюць: жыта, авёс, бульбу, ячмень, гарох, грэчку. Толькі ў апошнія гады зьявілася канюшына, віка, лубін; некаторыя асобныя гаспадары прабуюць сеяць сэрадэлю, але няўдала; кармавыя буракі, турнэпс пачынаюць займаць досыць значнае месца ў гаспадарцы. З гэтай прычыны, дзеля падняцьця сваёй гаспадаркі, некаторыя гаспадары маюць вялікае жаданьне аддзяліцца на хутары, каб можна было весьці гаспадарку паводле ўсіх правіл агрономіі.

Большая палова насельніцтва вёскі, чуць ня ўсе „мужыкі“ маюць жаданьне правесьці зямлябудаўніцтва, але дзякуючы таму, што іх не

набіраецца $^2/_3$, і зямлі ў кожнага з іх вялікая нястача,—справа гэта ня можа крануцца з месца. „Шляхта“-ж, якая мае больш і лепшую зямлю, злучыцца з „мужыкамі“ для зямлябудаўніцтва ня хоча. Яна лічыць „мужыкоў“ мужыкамі, галыцьбой, з якімі зьвязвацца можна тады, калі ад гэтага ім бывае яўная выгода. І ў зьвязку з гэтымі анормальнасьцямі ў зямлякарыстаньні, дзякуючы вялікаму недахопу зямлі, некаторыя сяляне імкнуцца перасяліцца на Кубань. Яшчэ раней, задоўга да вайны, некаторыя сяляне прадавалі свае палеткі, маемасьць і пераяжджалі ў Сібір, на Каўказ. З трох двароў, якія перасяліліся ў Сібір, не вярнулася ніводнага. На Каўказ перасяліўся адзін гаспадар, які праз нейкі час вярнуўся назад.

## IV. Тэхніка сельскай гаспадаркі.

Першы плуг зьявіўся на сяле, прыблізна, гадоў трыццаць-трыццаць пяць таму назад у досыць багатага селяніна з „шляхты“. Гэтая „машына“ зразу зацікавіла ўсю вёску, і калі запрэглі каня ў плуг, зьбеглася паўвёскі глядзець, як урачыста гаспадар гэтай „машыны“ прагнаў баразну на гары ў самым сяле. У пряцягу 10-15 год саха ўжо скарыстоўвалася толькі ў асобных гаспадароў. І яшчэ гадоў каля 12-15 таму ў вёсцы быў гаспадар, які зусім не хацеў прызнаць плуга і выводзіў свае роўныя баразёнкі сахой. Цяпер-жа сохі сустракаюцца досыць рэдка. На ўсё сяло ёсьць 9 сох, якія скарыстоўваюцца толькі для абкопваньня (падмешваньня) бульбы, дый то саха пачынае замяняцца асыпнікам. Тып плугоў, якія сустракаюцца ў сялян—звычайны аднаконны плуг, якія робяць саматужнікі-кавалі. Вельмі рэдка сустрэць плуг фабрычнага вырабу тыпа „Сухені“. Звычайна за работу плуга з матар‘ялам плоцяць 10-12 руб.

Бароны ўжываюцца свайго вырабу: рамы драўляныя, а зуб‘і жалезныя. Дзе-ні-дзе сустракаюцца бароны з драўлянымі зуб‘ямі, якія скарыстоўваюцца для скараджэньня бульбы. І толькі, як сьведка мінуўшчыны,—у аднаго гаспадара ў хлеве вісіць продак бараны—смык. Звычайна кожны гаспадар мае столькі барон, колькі мае і коняй.

Больш багатыя гаспадары маюць веялкі, саламарэзкі, малацілкі з прыводамі. Іншых машын, дзякуючы малазямельлю і вузкапалосіцы,—няма.

Усяго ёсьць:—веялак—3, саламарэзак—5, малацілак—2, прыводаў—2.

Усе іншыя сельска-гаспадарчыя прылады, як: косы, сярпы—усё гэта здабываецца ў сельска-гаспадарчым складзе НКЗБ у Барысаве.

## V. Аграномічная дапамога.

Аграномічны вучастак знаходзіцца за 17 вёрст у м. Крупках. Сяляне агранома ў вёсцы амаль што ня бачаць. Аднак, нельга сказаць, каб гэтая вёска адставала ў сельскай гаспадарцы ад іншых. Хаця аграном бывае досыць рэдка, працы амаль што ніякай не праводзіць, тым часам сярод самаго насельніцтва прыкмячаецца імкненьне да лепшага зямлякарыстаньня і апрацоўкі зямлі. Выдзяляюцца асобныя гаспадаркі і гаспадары, якія робяць розныя досьледы з розным угнаеньнем (штучнае, тарфяное, попел) і рознай апрацоўкай глебы, пасеваў.

У 1926 г. некаторыя сяляне пасеялі жыта радавой сеялкай. У аднаго гаспадара ёсьць пладовы выхавальнік, у якім у гэтым годзе налічваецца да $4^1/_2$ тысяч дрэўцаў. Прабуюць разводзіць племяны скот,

асабліва сьвіней. Праўда, усё гэта робіцца без усялякай сыстэмы, выпадкова, бо сталых кіраўнікоў у гэтай справе няма. Але і гэта выпадковасьць дала свае вынікі як па палепшаньні глебы, гатунку скаціны, так і разьвядзеньні пасяўных траў (канюшына, віка), карань-плодаў (буракі, турнэпс, нават марква), лубіну і інш.

У гэтым годзе арганізавалася мэліорацыйнае Т-ва, якое задалося мэтай асушыць каля сотні дзесяцін балота пры самай вёсцы. У склад яго ўвайшлі карэнныя сяляне. Праца яшчэ толькі распачынаецца.

## VI. Коопэрацыя і гандаль.

Аб коопэрацыі насельніцтва мала чаго ведае. Ніякіх коопэрацыйных установ ня было і няма. У спажывецкіх таварыствах няма ніводнага члена з сялян. Толькі ў выпадку вострай патрэбы той ці іншы селянін зварочваецца да раённага (у Крупках) сельска-гаспадарчага таварыства, запісваецца ў лік сяброў. Такім чынам, з вёскі запісалася ў сябры с.-г. Т-ва ў м. Крупкі 8 сялян вёскі. Усе тавары, патрэбныя для сваёй гаспадаркі, купляюць на рынку ў прыватных гандляроў. Часта прыходзіцца чуць скаргі на коопэратывы за іх высокую цану на тавары.

Камітэту сялянскай дапамогі, як асобнай адзінкі, ня існуе ў вёсцы, а пры сельсавеце ў сяле Нача (за 7 вёрст). Сярод насельніцтва Камітэт мала заслужыў увагі, бо нічым сябе ня выявіў, ніякай працы не вядзе і імкненьне да яго вельмі нязначнае. З усяе вёскі сябрамі камітэту толькі 23 чал., галоўным чынам серадднякі. Бедната ня можа ўступіць у члены, бо ня мае сродкаў на ўступленьне, багатыя-ж зусім ня хочуць запісвацца, бо, як яны самі кажуць, камітэт ім не патрэбен.

## VII. Народнае здароўе.

Вёска пабудавана пры самым балоце. Адным канцом яна ўразаецца проста ў балота. Дзякуючы блізкаму суседзтву балота, блізкасьці грунтоўных вод, студні сустракаюцца вельмі часта. Праўда, абсталяваньне іх кепскае; драўляны, абросшы мохам зруб глыбынёй ад $1^{1}/_{2}$ да 3 арш., вілы каля студні, перасьвер з крукам—вось і студня. Вада аддае балотам, глеем. Вуліцы мятуцца досыць рэдка, бо большую частку году на вуліцах гразь. У той-жа час, калі суха, сьмяцьцё ссоўваюць у груд, пераносяць і скідаюць у дрыжніку. Апошні займае значную частку двара; на яго скідаюць усялякае сьмяцьцё, памыі і г. д.

Памяшканьні трымаюцца брудна. Падлогу звычайна мыюць к такім рэлігійным сьвятам, як Каляды, Вялікдзень, Тройца, Пакроў. Праўда, у апошнія часы сяляне свае хаты будуюць на дзьве паловы, з якіх першая зьяўляецца „чорнай“, дзе сьпяць, працуюць, кормяць сьвіней і інш. дробную жывёліну, а другую палову трымаюць больш чыста.

Ня гледзячы на такія ўмовы жыцьця, насельніцтва вёскі досыць здаровае. Пошасных хвароб бывае вельмі мала, асабліва сярод дарослых. Сухотнікаў мала. Увесь цяжар хвароб выносяць на сваіх плячох дзеці, за якімі дагляду няма амаль ніякага, асабліва летам. І розныя хваробы на жывот, скураныя, прастуда, кохлік (коклюш) зьяўляюцца прычынай сьмяротнасьці дзяцей. Ёсьць выпадкі прыпадачных хвароб. Калецтва дзіцяці ад недагляду, рахіт (крываножжа, крываручча) досыць частае зьявішча.

Лекавай дапамогі на месцы няма. У тым выпадку калі з чалаве-

кам бывае сур'ёзная хвароба (гарачка, калецтва)—зьвяртаюцца да доктара ў Крупкі ці ў Лошніцу (17 і 10 вёр.) Дактары наогул вельмі рэдка бываюць у вёсцы. За гэты 1926 г. ні фэльчар, ні доктар ні разу сюды не заглядваў. Лякарстваў адчуваецца недахоп, лекарскія сілы слабыя, а ў зьвязку з гэтым сялянства слаба верыць у моц мэдыцыны. Часта сяляне зварочваюцца да мясцовых лекароў-шаптух і шаптуноў. І якія толькі хваробы ня лечуць шэптамі?! Якіх спосабаў няма! І ў карыце, і на лаўцы пад сукам, і на зачынку, і пад прыпечкам... і чаго, чаго ні выдумае цёмны селянін, а яшчэ больш—хітры шаптун! Праўда, у вёсцы былі выпадкі, калі шаптун на ўсё жыцьцё застаўляў дзіця калекай, але вера ў іх яшчэ не пагасае. Не малую ролю ў жыцьці вёскі іграюць „бабкі“ (павітухі). Звычайна ў бабкі бяруць тых кабет, якія самі мелі некалькі дзяцей, а цяпер па старасьці, ці па іншай якой прычыне, згубілі надзею мець дзяцей. Да акушоркі, якая знаходзіцца ў Крупках і ў Лошніцы, ніколі не зьвяртаюцца.

### VIII. Народная асьвета.

Да 90-х гадоў мінулага сталецьця граматныя людзі ў вёсцы былі рэдкім выключэньнем. У пачатку 90-х гадоў у вёсцы адчынілася школа граматы, дзе вучылі няўдачнікі-паповічы самымі архаічнымі мэтодамі. Псалтыр ды эвангельле былі асновай усёй навукі. Некаторыя сяляне пасылалі ў школу дзяцей толькі вучыцца маліцца богу. На гэтым часамі навука іх і канчалася.

К сучаснаму моманту мы маем наступную граматнасьць у вёсцы:

| Узрост | Мужчын | Жанчын | Усяго | % |
|---|---|---|---|---|
| Ад 7—16 г. . | 23 | 23 | 46 | 49 |
| Ад 17—25 г. . | 28 | 9 | 37 | |
| Ад 26—55 г. . | 26 | 8 | 34 | |
| Вышэй . . . | 1 | — | 1 | |
| Усяго . . . | 78 | 40 | 118 | |

Якасьць гэтай граматнасьці вельмі нізкая, бо пераважная большасьць граматных ня скончыла нават школы граматы, ці сучаснае аднакамплектнае школы.

Школа знаходзілася і знаходзіцца ў наёмных будынках, пераносіцца кожны год з аднае хаты ў другую. Абсталяваньне школы надзвычайна дрэннае, дзецям няма на чым сядзець. Настаўнікі амаль штогод мяняліся і мяняюцца з прычыны дрэнных умоў працы. За ўвесь час існаваньня школы ў вёсцы сяляне ня бачылі ніводнага добрага настаўніка.

Ні нардому, ні хаты-чытальні, ні бібліотэкі, ніякіх гурткоў у вёсцы няма. Насельніцтва слаба ўцягнута ў культурнае жыцьцё і савецкае будаўніцтва. Няма каму павесьці працу, паставіць яе на належны шлях, а запатрабаваньні да лепшага новага жыцьця адчуваюцца, асабліва сярод моладзі.

Часопісаў ніякіх не атрымліваецца. Газэты выпісваюць мала:

„Крестьянская газета"—3 экз., „Правда"—1, „Зьвязда"—1, „Гудок"—1. Дзе-ні-дзе можна сустрэць яшчэ эвангельле, маліцьвеньнік, але рэдка. Культурныя мерапрыемствы прышчэпліваюцца слаба. Толькі асобныя гаспадары пачынаюць уводзіць у сваю гаспадарку тыя ці іншыя зьмены.

У гэтым годзе 4 гаспадары пасеялі жыта радавым сеўнікам. Ёсьць спробы ўжываньня тарфянага і попельнага (зольнага) угнаеньня, разьвядзеньня кармавых караньплодаў (буракі, турнэпс, марква), пасеву лубіну. Настаўнік П. Самцэвіч разьвёў невялічкі (у 4 з паловай тысячы) пладовы выхавальнік.

Краязнаўчай працы і краязнаўцаў сярод насельніцтва няма. Ёсьць тры сябры членаў ячэйкі ЛКСМБ (ячэйкі знаходзяцца ў с. Нача), 2 кандыдаты КПБ, піонэраў няма.

## IX. Вясковыя забавы і звычаі.

Вясна, лета і восень праходзяць у напружанай працы на гародзе, полі, сенажаці. Працуюць ад усходу і да захаду сонца мужчыны, жанчыны і дзеці. Нядзеля—дзень адпачынку. Зрэдка хто наведаў царкву (за 7 вёрст), дзе можна было сустрэць знаёмых, пагаварыць. Маліцца, мала хто маліўся, нават ня ўсе і ў сподведзь хадзілі. Мужчыны лічылі за лепшае сабрацца ды выпіць па паўбутэльцы. Зараз ужо і ў нядзелю працуюць, калі ёсьць сьпешная работа.

Узімку калядамі моладзь зьбіраецца на вечарынкі, наладжвае ігрышчы. Наймаецца хата, гарманісты і пачынаюцца танцы, з якіх першае месца займаюць „вальць", полька. Раней вельмі пашырана была „кадрыль". Вечарынкі не абыходзяцца бяз выпіўкі; досыць часта вечарынкі заканчваюцца бойкамі. Варожымі лягерамі раней у большасьці былі „шляхоцкія" і „мужыцкія" хлопцы.

Вечарынкі з танцамі зьяўляюцца адзінай забавай для вясковай моладзі. Ніякіх іншых забаў няма. Ні спэктакляў, ні хору, ні літаратурных ці палітычных вечароў вёска амаль што і ня бачыла.

„Шляхоцкія" хлапцы, часамі ня меўшыя ў гаспадарцы хлеба да новага ўраджаю, часта няпісьменныя, хацяі гулялі з „мужыцкімі" дзеўкамі, але ніколі на іх не жаніліся. Лепш жаніўся які-небудзь захудалы „шляхцюк" на зусім няўдалай „шляхцянцы", чым на аднэй з лепшых „мужыцкіх" дзяўчат. Так і мяняліся дзьве суседнія вёскі і паасобныя сем'і „шляхты" жанчынамі, з прычыны чаго амаль усе сем'і „шляхты" знаходзіліся паміж сабой у сваяцтве. Гэтай замкнутасьці ў „мужыкоў" зусім ня было. Гэтыя перажыткі мінулага, выкліканыя ўсё-ж нейкімі саслоўнымі прывілеямі „шляхты" (дваран), засталіся ў значнай меры і цяпер.

Рэлігійныя забабоны ў вёсцы глыбокіх каранёў ня мелі. Насельніцтва к часам рэволюцыі да царквы і папоў адносіліся больш формальна. Моладзь яшчэ і раней досыць крытычна глядзела на ўсе абрады і падсьмейвалася над старымі, якія сьлепа верылі папом.

Увага: Лічбовыя даныя сабраны і прадастаўлены ў карыстаньне П. Самцэвічам.



Д. Васілеўскі.

# З гісторыі Аршанскага друку.

Краязнаўчыя організацыі зараз старанна вывучаюць гісторыю сваіх раёнаў і акруг. Мясцовыя краязнаўчыя музэі захоўваюць у сабе найбольш цікавыя помнікі старажытнасьці і мастацтва данай мясцовасьці. Старадрукаваныя кнігі зьяўляюцца найбольш цікавымі паказчыкамі ня толькі культурных дасягненьняў роднае культуры ў даны час, але сваім зьместам сьведчаць аб барацьбе станаў, клясаў гэтае мясцовасьці, а загэтым вывучэньне гісторыі друку на Беларусі дае вельмі цікавы матар'ял для ўразуменьня ўзаемаадносін насельніцтва данага гораду ці мясцовасьці ў пэўны час гістарычнага жыцьця. Мясцовыя краязнаўчыя організацыі праз вывучэньне гісторыі друку змогуць часткай высьветліць некаторыя куткі з мінулага сваёй акругі, а з другога боку—адшукаць вельмі каштоўны матар'ял для вывучэньня і дасьледваньня сваёй мясцовасьці.

Летам 1926 г. Аршанскае Акруговае Таварыства Краязнаўства пачало вывучаць і зьбіраць аршанскія старадрукі. Выдзеленая гісторыка-этнографічнай сэкцыяй бібліографічная камісія ў кароткі час адшукала досыць каштоўны матар'ял па гісторыі мясцовага друку, аб якім дасюль ня было пэўных вестак.

Друкарская справа на Аршаншчыне шырака разгарнулася толькі ў першай палове XVII сталецьця. Аб кнігах, якія пісаліся ў Воршы да гэтага часу, няма пэўных вестак. Так званае „Аршанскае Эвангельле“ XIV сталецьця, якое было адшукана пасьля францускай навалы ў Кутэінскім манастыры і захоўвалася ў бібліотэцы Кіеўскай духоўнай акадэміі, хутчэй за ўсё пісалася ў Смаленку, бо ў Воршы ў XIV сталецьці ня было значных асяродкаў для перапісу багамольных кніг, бо весткі аб праваслаўных манастырох у Воршы сустракаюцца толькі ў матар'ялах па гісторыі гораду з XVII сталецьця. Іншых рукапісных кніг, апрача гэтага Эвангельля, дасюль у межах сучаснай Ашанчыны ня знойдзена. XVII сталецьце ў гісторыі Воршы адзначаецца буйным узростам каталіцкіх кляштараў і ўпартай барацьбой паміж шляхецтвам і заможнымі слаямі гораду за перамогу на ўнутраных і замежных рынках. Беларуская шляхта імкнецца падначаліць свайму ўплыву гарадзкое насельніцтва, і гарадзкія магістраты вядуць упартае змаганьне за свае прывілеі. Усё гэта адбываецца на фоне рэлігійнай барацьбы. Каталіцкія кляштары, пры падтрыманьні апалячаных магнатаў і з дапамогай каралеўскага ўраду, пачынаюць дружны націск на экономічныя інтарэсы праваслаўных цэркваў і мяшчанства. Гараджане даюць моцны адпор праз свае брацтвы і поплеч з каталіцкімі кляшта-

рамі ўзрастаюць праваслаўныя манастыры і пры іх брацкія школы ў Воршы, Магілеве і другіх гарадох. Фундатар беларускай лаўры ў Кутэйне, Багдан Сьцяткевіч у сваім фундашным запісу 1623 г. абавязваў манахаў Кутэінскага манастыру мець друкарню і школу. Каля 1630 году ў Кутэйне была заснавана 3-яя друкарня Сьпірыдона Собаля, мешчаніна гораду Магілева, якая друкавала кнігі на беларускай, славянскай, польскай і лацінскай мовах. Кутэінскіх старадрукаў на польскай і лацінскай мовах да нас не дайшло. Мажліва, што іх і зусім ня было. Затое шырака разгарнуўся друк багамольных кніг на беларускай і славянскай мовах. Апрача гэтага, друкаваліся падручнікі для брацкіх школ і кнігі навучальнага зьместу для чытаньня праваслаўным парахвіянам. Рынкам для збыту кніг Аршанскае друкарні была Ўсходняя Беларусь і Масковія. Беларускія кнігі прадаваліся ў Маскве пад назовам „літовскіх“. Гандаль „літоўскімі“ кнігамі вёўся так шырака, што маскоўскія папы не змаглі конкураваць з беларускімі друкарамі і пачалі дамагацца ад маскоўскага царя забароны на продаж кніг беларускага друку. Такая забарона была выдадзена царскім урадам у 30-х гадох XVII сталецьця, але значнага ўплыву на пашырэньне кніг беларускага друку ў Масковіі яна не зрабіла. Кутэінскія выданьні выходзілі, пачынаючы з 1630 г. па 1654 г. у Воршы, а пазьней перадрукоўваліся ў Маскве. З аршанскіх кутэінскіх выданьняў найболш вядомы „Часаслоў альбо шастоднеў“, які вышаў першым выданьнем у 1632 г., а другім выданьнем—у 1646 г. ў аднолькавым формаце 4⁰. „Новый Завет“ з „псалтыром“ вытрамаў 4 выданьні—1632 г., 1642 г., 1651 г. і 1652 г. У выданьні 1642 г. ёсьць прысьвечаньне гэтага выданьня Багдану Сташкевічу ад імя першага ігумена Кутэінскіх манастыроў Іоіля Труцэвіча. „Буквар, сірэч начало учэнія детям, начынаюшчым чтенію ізвыкаці. У Кутэйне ізобразіся 1631 г.“, 12⁰. Гэта былі найболш пашыраныя падручнікі ў брацкіх школах. Апроч падручнікаў, друкаваліся кнігі для навучальнага чытаньня праваслаўных:

Брашна духоўнае, 1630, якое выдадзена было 2-ма выданьнямі—1630 і 1639 г.

„Дідаскалія альбо навука о седмі сакраментах“—1637, 1653 г. — другім выданьнем, формату 4⁰.

„Малітвы паседнеўныя ў общую пользу сабраны і із друку выданыя ў Кутэйне 3-й друкарні Спірідона Собаля“ 1631 г.

„Цветаслоў 1654 г.“.

„Діоптр, альбо зерцало“, 1651 г., 12⁰; другое выданьне 1654 г., 4⁰.

Гэтыя кніжкі мелі на ўвазе здаволіць патрэбу беларускага насельніцтва ў ведах па рэлігійным змаганьні з каталіцтвам. Найболш характэрнае па духу часу выданьне ў Кутэйне была *„История альбо правдивое выпісаньне сьвятога Іоана Дамаскіна о жыцыі прападобных атец Варлаама, Іосафа* і о наверненьню індіан. Стараньнем і коштам інакаў общежительнага манастыра Кутэінскага Новазгрэцкага і Словенскага на рускі язык прэложана“, 1637 г., 4⁰. Уціск шляхты над беларускім сялянствам і гвалты над мяшчанствам, відаць, адпавядалі жыцьцю гэтых індыян, аб якіх пісала выданая „праўдзівая гісторыя“. Само собой зразумела, што экономічная барацьба і перамога шляхты ў гандлі над мяшчанствам прымушала беларускае гандлярства зварачаць свае надзеі на суседнюю Масковію, у якой у гэты час шырака разьвіналася сяброўства гадлёвага капіталу з царскім урадам, і па некаторых падзеях 1654 г. можна думаць, што Кутэйна мела падтрыманьне з боку маскоўскіх цароў.

Кутэінскі друк не абмяжоўваўся толькі рэлігійнымі пытаньнямі. Разыходзілася выданьне па мовазнаўству. У 1653 г. быў выдадзены „Лексікон Славена-расійскі—імен талкаванія“. Гэта быў першы славена-беларускі слоўнік, які вытрымаў некалькі выданьняў. Складзены ён быў кіеўскім вучоным Панвай Бериндай і ў першым выданьні надрукаваны ў Кіеве. Лексыкон гэты быў надрукованы ў формаце 4⁰ і на 324 балонах зьмяшчае тлумачэньне славянскіх слоў пабеларуску. У свой час гэты слоўнік меў такое-ж значэньне, як „Расійска-Беларускі Слоўнічак“ Байкова і Гарэцкага ў нашыя дні. Аршанскія выданьні былі вядома ня толькі па ўсёй Беларусі, але і ў Масковіі, так што маскоўскі духоўны ўрад, зараз-жа па захапленьні гораду Воршы маскоўскім войскам, паклапаціўся забраць з Воршы Кутэінскую друкарню і друкароў. Патрыярх Нікан, прачуўшы пра Кутэінскую лаўру, загадаў аршанскім манархам з друкарняй выехаць у толькі што пабудаваны Іверскі Спаскі манастыр у горадзе Валдаі. У 1655 г. Іоіль Труцэвіч забраў з Кутэйны друкароў-манахаў, друкарню і ўсю маемасьць беларускае лаўры, абразы і накіраваўся ў Наўгародчыну. У горадзе Валдаі Аршанская друкарня пасьпела перадрукаваць некаторыя з сваіх выданьняў, як „Брашна духоўнае“, „Новы Завет“ з псалтыром, але патрыярх Нікан так даражыў беларускімі друкарамі, што ў 1655 г. перавёў іх пад Маскву ў зноў заснаваны манастыр „Новый Іерусалим“. Далейшых ведаў аб кнігах Аршанскае друкарні няма, але ў Кутэінскім манастыры летам 1926 г. экспэдыцыя Інбелкульту ў складзе профэсароў Сербава і Даўгялы адшукала некалькі кніг, якія друкаваліся ў Маскве ў часы Аляксея Міхайлавіча і якія па сваім выглядзе і малюнку літар дужа падобны да аршанскіх выданьняў, так што З. Даўгяла адразу палічыў іх за кутэінскія выданьні. І толькі пры некаторым разглядзе ўдалася выявіць, што гэтыя кнігі друкаваліся ў Маскве пасьля 1655 г. Зараз гэтыя кнігі захоўваюцца ў Аршанскім акруговым музэі.

Далейшых вестак аб беларускіх старадруках па Аршаншчыне няма. На працягу XVIII і першай паловы XIX сталецьця на Аршаншчыне друкаваліся яўрэйскія рэлігійныя кнігі, і Аршанская езуіцкая калегія выдавала вучнёўскі часопіс на лацінскай мове. Беларускае насельніцтва было паднявольным, а ўніяцкіх выданьняў на Аршаншчыне не ўдалося адшукаць. На працягу XIX сталецьця ў межах Аршанскае акругі досыць шырака разгарнулася выданьне кніг на расійскай мове. „Запіскі“ Горацкага Земляробскага Інстытуту даюць досыць цікавы, каштоўны краязнаўчы матар'ял, але польскае паўстаньне ў 1863 г. і ўзмацненьне русыфікацыі ў краі спыніла краязнаўчы кірунак тутэйшых выданьняў і накіравала грамадзкую думку ў бок набліжэньня да Вялікай Расіі. Вялікаруская культура праз школу і ўрадовыя ўстановы пачала прасочвацца ў гарады і мястэчкі, і сярод яўрэйскіх буржуазных мас запанавалі імкненьні хутчэй аўладаць расійскай мовай, каб вырвацца з мяжы аселасьці.

Першая газэта на Аршаншчыне „Оршанский Вестник“, які выходзіў з 1915 г. па 1918 г., часткова адбіваў гэтыя настроі. Газэта выходзіла штодзённа пад рэдактарствам *Іоселевича.* Хроніка мясцовага жыцьця ў газэце досыць падрабязна высьвятлялася. Часам у некаторых артыкулах праглядвалі сыоніцкія настроі, адчуваецца значны бундаўскі ўплыў.

Шпаркае разьвіцьцё друку ў Воршы пачыняецца пасьля Кастрычнікавае Рэволюцыі. Кастрычнік усхваляваў жыцьцё і экономіку

акругі. У вагні клясавых змаганьняў друк зноў набывае вялікую вартасьць, і ў 1918-19 г. адразу можна заўважыць траякі кірунак аршанскіх выданьняў. Яўрэйская дробная буржуазія гуртуецца каля „Оршанского Вестника“, працоўныя школы на чале з павятовым саветам выдаюць газэту „Известия Совета Рабочих, Крестьянских, Батрацких и Красноармейских Депутатов“. У 1919 г., замест гэтай газэты, выдаецца Аршанскім Павятовым Выканкомам газэта „Набат“. У пачатку жніўня 1918 г. адбылося паўстаньне левых эсэраў. Быў організаваны ваенна-рэволюцыйны камітэт Аршанскага павету, які выдаў адзін № „Бюллетень № 1 Военно-революционнаго комитета Оршанского уезда“ 8-га жніўня 1918 г.

Народніцкія і соцыял-дэмократычныя настроі мясцовага дробнабуржуазнага насельніцтва знайшлі выяўленьне сваіх думак у часопісу паўночнага аб‘яднаньня коопэратываў Мігілеўскай і Гомельскай губэрні—„Новая жизнь—Социалистический журнал учительства и кооперации“. Гэты часопіс выдаваўся на працягу 1918-19 г. У часопісу шмат увагі аддавалася пытаньням асьветы і коопэрацыі на вёсцы. Паўночнае аб‘яднаньне выдавала некалькі асобных кніг: 1) МДРОМ Классовая или единая потребительская кооперация. Вопросы взаимоотношения рабочей и общегражданской кооперации, 1919 г.; 2) проф. Виноградов. Аграрный вопрос в России. Орша, 1919 г.; 3) отчет о 2-ом учительском с‘езде 1920 г.

З 1921 г. пашыраецца савецкі друк. Аршанскім Аддзяленьнем аб‘яднаньня настаўнікаў-інтэрнацыяналістых быў надрукаваны „Отчет о 1-ом с‘езде учителей-интернационалистов Оршанского уезда 1921 г.“.

З 1922 г. пашыраецца выдавецтва Аршанскага Павятовага Аддзелу Народнае Асьветы. У лютым г. г. выдадзены № 1 часопісу „Вестник Просвещения“. У тым-жа годзе аддзел кіраўніцтва Аршанскага Павятовага Выканкому выдае „Справочник Оршанского уезда Витебской губернии“, у якім даюцца сьпісы паселішчаў павету, лік насельніцтва вёсак, мястэчак, гарадоў павету, лік двароў, зямлі, плошча вазёр, тарфянікоў.

У 1922 г. павятовы выканком выдаў „Протоколы, резолюции и постановления 10-го и 11-го Уездных С‘ездов Советов Рабочих, Крестьянских, Красноармейских и Батрацких Депутатов Оршанского уезда“. Таксама выдаваўся профэс. орган „Рабочая жизнь“.

У гэтыя-ж часы, пасьля доўгага перапынку, пачынаюць выходзіць „Записки Горецкого Сельско-Хозяйственного Института“.

У 1923 годзе працягваецца выданьне Аршанскага Павятовага Аддзелу Народнае Асьветы. Перадрукоўваецца „Букварь“ Вахтерова, выдаюцца „Программы для 4-летней школы 1-ой ступени. Программы летних экскурсий в школе“.

Беларускія выданьні на Аршаншчыне зноў уваскрасаюць пасьля далучэньня Аршаншчыны да Савецкай Беларусі. Пачынае выходзіць газэта, два разы ў тыдзень, „Камуністычны Шлях“. У друкарні імя Ф. Скарыны выходзяць непэрыодычныя выданьні—„Аршанскі Маладняк“, 5 нумароў, „Аршаншчына“ № 1; апроч таго, выдаецца некалькі брошур Акруговым Камітэтам КПБ і да 2-га зьезду саветаў Акруговым Выканкомам выдадзена досыць поўнае апісаньне Аршаншчыны пад назвай „Оршанский округ“.

У 1926 годзе зьявіўся з друку том I „Прац Навуковага Таварыства па вывучэньні Беларусі пры Беларускай Дзяржаўнай Акадэміі сельскае гаспадаркі ў Горках“. Зараз ужо вышаў другі том гэтых

прац. Гэтыя выданьні Навуковага Таварыства адкрываюць новую старонку ў гісторыі друку Аршаншчыны. Зьмешчаныя ў 2-х томах „Прац Навуковага Таварыства“ артыкулы маюць вялікае значэньне ня толькі для БССР, але вельмі карысны для гаспадаркі ўсяго нашага Саюзу.

Беларуская навуковая думка на Аршаншчыне знаходзіць сабе шырокае выяўленьне ў друку. Беларускі працоўны люд разгортвае вялікую ўпартую працу па адраджэньні беларускае культуры.

На жаль, вывучэньне друкарскае сравы на яўрэйскай і польскай мове ў межах Аршаншчыны толькі пачынаецца і загэтым ня можна даць малюнку друкарскае справы на гэтых мовах.

Неабходна ўпарта даведвацца і рэгістраваць усе выданьні мясцовых друкарань і зьбіраць іх у раённыя і акруговыя музэі. Такое зьбіраньне з працягам дзесяткаў гадоў дасьць пэўны малюнак гісторыі грамадзкай думкі на Беларусі.





Д. Васілеўскі.

# Беларускія чараўнікі і іх зельле.

Летам 1926 году дасьледчая экспэдыцыя Аршанскага Акруговага Таварыства Краязнаўства па апісаньні Дубровенскага раёну, у вёсцы Мардашэвічы, быўшай Тухінскай воласьці, напала на вельмі цікавы помнік чараўнічай літаратуры. У сялянкі Ганны Шаранда, 50 год, студэнтам Рабфаку ўдалася здабыць „лячэбнік", па якім мясцовыя чараўніцы лячылі насельніцтва на працягу некалькіх дзесяткаў гадоў. Самы „лячэбнік" напісаны на тоўстай пажоўклай паперы з вадзяністымі рыскамі, на адным з лісткоў можна ў прасьвеце бачыць лічбіну 8. „Лячэбнік" мае ў сабе 30 лісткоў у адну восьмую аркуша. Напісан ён рукой ня зусім пісьменнага ў расійскім правапісе чалавека, для якога, відаць, гэтая мова была навіной, і за гэтым літары „у" ставяцца бяз усякага разбору, то асобна ад слова, то сумесна з другім словам. Атрамант і папера, на якой напісаны „лячэбнік", парыжэлі ад часу, крайкі пасьціраліся так, што цяжка прачытаць. Судзячы па паперы і пісаньні можна думаць, што „лячэбнік" пісаны ў пачатку XIX ці ў канцы XVIII сталецьця і захоўваўся з вялікім стараньнем. Усё-ж такі адзін лісьцік страціўся, так што згубілася апісаньне 4-х траў: залатушнай, „Рамашкі, завалка і веліша". „Лячэбнік" зьмяшчае ў сябе апісаньне 77 лекавых траў. Кожная трава запісана пад асобным нумарам і ў канцы складзены рэестр назваў траў, у якім травы напісаны пад такімі-ж №№, як і ў самым тэксьце „лячэбніку". „Лячэбнік" напісаны на расійскай мове, у якой сустракаецца шмат беларускіх слоў і канчаткаў.

Вёска Мардашэвічы, дзе быў знойдзены гэты „лячэбнік", ляжыць на правым беразе Дняпра, вярстах у 7-мі ад м-ка Дуброўна і мяжуе з вядомымі Верацэйскімі, або Асінаўскімі балотамі. На гэтых балотах ёсьць выспы з паселішчамі, куды лёгка дабрацца толькі зімой, калі балота троху падмерзьне. Гэта спрыяла захаваньню сярод насельніцтва розных старасьвецкіх забабонаў і прыкмет.

Аб старадаўнасьці запісаў „лячэбніка" сьведчаць тыя меркі вышыні, якімі „лячэбнік" вымярае ўзрост траў. Пераважна такімі меркамі даўжыні зьяўляецца: страла, локаць, калена і пядзь. Гэта сьведчыць аб вялікай старадаўнаўсьці складаньня „лячэбніку", калі ў нашай краіне мерылі толькі гэтымі меркамі; і з усіх 77 траў толькі адна трава пад № 9 „Адамава галава" бывае ростам у 4 вяршкі, а трава „Сузак" № 40 ўзрастае ў аршын. Трава „Ковыка", пад № 33, расьце ў „человека". Рэшта траў вымяраецца на локці і стрэлы. Адна трава, пад № 62 па „лячэбніку", „на юнь" адзначаецца ростам „у калена".

Такім чынам, запісы ў „лячэбніку“ паказваюць некаторую розначасовасьць напісаньня. Самыя старэйшыя апісаньні траў можна аднесьці на пачатак пісьменнасьці ў нашым краі. Такія-ж запісы, у якіх трава вымяраецца вяршкамі і аршынамі, пазьнейшага часу і, мажліва, носяць на сабе ўплыў Смаленшчыны і Маскоўшчыны. Самы зьмест „лячэбніку“ носіць сьляды гэтага ўплыву.

Травы разьлічаны на дапамогу не селяніну-земляробу, а воіну, гандляру і авантурніку. Такіх чараўнічых сродкаў, якія-б дапамагалі лепшаму ўраджаю хлеба, прыросту збожжа, зусім няма. З заняткаў чалавека ахоплены дапамогай „валхавіта“: гандаль, будаўніцтва, паляўніцтва, пчалярства, гародніцтва. Найбольш чараўнічых дапамог прыходзіцца на розныя людзкія адносіны. Цэлы шэраг траў памагае чалавеку вывярачвацца ў цяжкіх абставінах жыцьця, і „лячэбнік“ старанна зазначае, ад якога ліха вызваляе тая ці іншая травіна. Калі чалавек ведае і носіць пры сабе траву „Цепь“ (№ 1), то ён не баіцца ніякага злога чалавека, дабіваецца пачоту, чыноў. Корань травы „кудрявый дягил“ (№ 15) здабывае яго насіцелю спагаду ўсіх людзей, якія патрэбны яму для справы ў сучасны момант. Трава „Царевы Очи“ (№ 2), калі яе насіць пры сабе, вызваляе ад раны і робіць чалавека ў часы падарожы лёгкім і адважным. Пад уплывам гэтае травы ў часы падарожы робіцца адважным ня толькі сам чалавек, але і яго конь. Трава „Петров крест“ (№ 19) вызваляе ў дарозе ад раптоўнай сьмерьці. Трава „Собою мала“, калі яе мець пры сабе, замыкае шлях злому чалавеку, зганяе яго з таго шляху, па якім ён можа спатыкацца і нарабіць шкоды. Трава „Змоща“ (№ 27) дапамагае безадказна прасіць пазычыць хлеба ці грошы. Калі прасіць, маючы гэтую траву, то ні ў чым перашкоды ня будзеш мець, толькі трэба ведаць, дзе трымаць траву, калі просіш у мужчыны, ці ў жанчыны. Гэтай-жа травой можна сапсаваць усю ігру скамароха: трэба толькі кінуць ім пад ногі гэтую траву і паміж імі пачнецца разлад... Трава „Ревка“ (№ 55) дазваляе плаваць па вадзе і засьцерагае ад патапленьня. Гэтая-ж трава, калі палажыць яе ў голавы соннаму чалавеку, прымушае яго гаварыць, што ён думае пра цябе: худое ці добрае, а няверную жонку прымушае высьведчыць свайго палюбоўніка. Трава „Перенос“ (№ 72) дае свайму ўладару моц усыпляць чалавека, гадаў і зьмей. Заснуўшы, яны будуць спаць датуль, пакуль ня возьмеш з-пад галоў іх траву. Гэтая-ж трава дзеліць ваду папалам і дазваляе прайсьці праз рэчку па сухім дне. Трава „Сова“ (36) дае мажлівасьць варочаць назад злодзеяў: стоіць толькі на месца пакрадзенай рэчы палажыць гэтую траву і злодзей згубіць сьцежку і вернецца к месцу пакражы. Трава „Остр“ (№ 34) дае знаючаму яе чалавеку розныя таленты: сталую ўдачу ў гандлі, дапамагае набыць вялікія грошы і павагу сярод суседзяў.

Корань травы „Конус“ (№ 68) дае любоў нядружнай пары а корань „Лаперта“ ці „Папер“ (№ 69) здабывае яго ўласьніку ласку ўсякага чалавека. Трава „Бель“ (№ 13) дае мажлівасьць загадзя пазнаваць сваіх злосьнікаў, перамагаць супраціўнікаў і адганяе проч злых людзей і звяроў.

Такім чынам, блізкае знаёмства з гэтымі травамі дае чалавеку надзвычайную моц над людзьмі і прыродай. Але ёсьць яшчэ больш мацнейшыя травы, якія даюць уладаром перамогу над чарцямі і ерацікамі. Трава „Адамова голова“ (№ 9) дае мажлівасьць бачыць чарцей паветраных і вадзяных. Трава „Растрел“ (№ 20) адганяе чорта

ад чалавека, які мае пры сабе гэтую траву, на 12 крокаў. Трава „Муравей“ (№ 59) разрывае ўсе замкі, укрэпы, ланцугі, калі ўрэзаць гэтую траву пад скуру рукі чалавека; а калі насіць траву за шчакой, то ня зможа задавіць пятля. Трава „Железка“ № 50 варочае мужчыне страчаную палавую сілу і даводзіць яе да надзвычайнай трываласьці. Без травы „Іван“ (№ 25) ніякі валхвіт ня можа быць. Ад ерацікa дапамагае трава: „Бель“ (№ 13), „Петров крест“ (№ 19), „Кудрявый дягиль“ № (15).

Гэтае пералічэньне моцы траў у ўзаемаадносінах паміж людзьмі і прыродай даюць нам ключ да разуменьня таго, у які час пісаўся гэты „лячэбнік“ і якімі людзьмі ён ужываўся. Процэсы чараўнікоў і асабліва чараўніц на Беларусі займалі значную ўвагу судзей XVII і пачатку XVIII сталецьцяў. „Археографические сборники документов“, выданых Віленскай камісіяй, зьмяшчаюць некалькі судовых спраў аб чараўнікох. Цікава, што, да ўзмацненьня каталіцкай рэакцыі на Беларусі, мы не сустракаем у актах судовых спраў аб чараўніцтве і толькі ў выніку пэдагогічнай дзейнасьці езуітаў мы маем некалькі спраў 2-й паловы XVII сталецьця. Вядома справа пападзьзі—Грамычынай Раіны, якая была спалена ў 1631 годзе ў Навагрудку за ачараваньне маршала Яна Сапегі („Археографический сборник, том 3-й“, ст. 107-165). Раней-жа была спалена ў Слонімскім павеце сялянка Кароткая Ганна, таксама за спробу падчараваць таго-ж самага Яна Сапегу і за ачараваньне жонкі Слонімскага мешчаніна Кугельскага і карчмара яўрэя Лейбы. („Археографичный сборник“, т. III, ст. 99-103). У Полацку ў гэтыя-ж часы абвінавачваўся мешчанін Брыкун, які таксама павінен быў адбыць кару на вогнішчы, але ён сам сабе зарэзаў, не чакаючы паленьня на гарадзкой плошчы. („Археографичный сборник“, том І, ст. 345-346). Рандантар Аршанскай карчмы яўрэй Яскевіч-Гошка ў гэтыя-ж самыя часы абвінавачвае ў чараўніцтве селяніна на тэй падставе, што будучы ў карчме ён прывітаў Гошку гарэлкай, пасьля чаго ў яго сталі трэсьціся рукі і ногі і хутка захварэў сын. („Археографический сборник“, том І, ст. 295-296). Полацкі мешчанін Павук жаліцца ратушы, што нехта ў знак чараў у ночы абліў яго хату і вароты вадой. Тамжа пан падваявода жаліцца ратушы, што ў яго маёнтак нейкая баба прынесла ад вядомага пану чараўніка гарнец тараканаў, пусьціла іх, ад чаго стаў дохнуць скот у маёнтку (Ibidem, т. I, ст. 323-324).

Профэсар Доўнар-Запольскі, разглядаючы гэтыя судовыя процэсы, зазначае, што „ўжываньне розных траў пры чараваньні было вельмі пашырана, але, на жаль, захавалася вельмі мала дакладных вестак аб назвах і спосабах ужываньня гэтых траў пры чараваньні“ („Исследования и статьи“, том I, ст. 229). Пры старанным вывучэньні процэсаў чараўніўкоў профэсару ўдалася выявіць, што ў якасьці чароўных сродкаў ужываліся хлебныя расьліны; маладое жыта, ячмень, авёс, ліпавы цьвет, табак, дзівітэрнік, ярая рута, цантаўра, алосьнік. Шэйн у сваіх „Матар‘ялах“ (т. III, ст. 271) у шэрагу лекавых расьлін знаходзіць толькі: бабоўнік, крываўнік, сок рэдзькі, палын, сонішнік і смалу жывіцу.

Знойдзены „лячэбнік“ дае шмат новага матар‘ялу ў гэтай галіне. У ім прыводзіцца ня толькі назва расьлін, але даецца яе кароткае апісаньне і спосабы ўжываньня. Моцная вера ў рэальнасьць чарцей, вялікая асьцярога перад ерацікамі, надзвычайная вера ў цудоўныя ўласьцівасьці траў даюць мажлівасьць аднесьці складаньне гэтага „лячэбніка“ да 1 паловы XVII сталецьця. Гэта быў ня толькі час вялікае цемры на Беларусі, але і пара значнага разгортваньня пан-

скага земляробства. Селянін быў мала зацікаўлены панскай запашкай, а паном заўсёды хапала хлеба з вялікіх палёў іх маёнткаў. І вось, у шэрагу розных цудоўных мер да павялічэньня дабрабыту чалавека, мы не сустракаем у „лячэбніку“ сродкаў для павялічэньня ўраджайнасьці палёў. Гэта таксама дае некаторыя рыскі да адзначэньня таго асяродзьдзя, у якім складаўся і ўжываўся гэты „лячэбнік“. Такім асяродзьдзем можна лічыць мястэчка ці места. Па самым складзе „лячэбніка“, зварот мовы, добрае веданьне сьвятцаў, бо „лячэбнік“ заўсёды паказвае ў які дзень м-ца трэба рваць траву, ці ўжываць яе, каб мець карысьць, трэба думаць, што гэты „лячэбнік“ складаўся ў блізкім суседзтве з духоўнымі асобамі ці імі перапісваўся. Так, для ўжываньня травы „Погубенсы“ (для зацяжарваньня) указваецца 5 дзень сакавіка, сьвята „Конона Градаря“. Траву „Растрел“ трэба рваць на другі і трэці дзень сакавіка, красавіка і траўня, а ня ў іншыя дні. Такія звароты, як „оная трава“, „ежелі“, „сей“ паказваюць на блізкае знаёмства аўтара „лячэбніка“ з мовай славянскай, а самы стыль „лячэбніка, у наварачваньні на расійскую мову бяз добрага знаёмства з ладам гэтае мовы, паказвае, што ў больш блізкія да нас часы „лячэбнік“ перакладваўся на расійскую мову, але большасьць назваў траў засталіся мясцовыя, беларускія. Можна думаць, што „лячэбнік“ складаўся сярод праваслаўнага духавенства і брацтваў у XVII-XVIII сталецьці. Думцы аб тым, што „лячэбнік“ складаўся ў Масковіі і толькі ў сьпісах дайшоў да ўсходніх межаў Беларусі, супярэчаць назьве значнае часткі траў, якія застаюцца пераважна мясцовымі: Дубровенскімі. „Покутник“—трыпутнік, „рябінка“—піжма, „чарнабыльнік“, „сузак“, „залатуха“, „завалк“ і г. д. У расійскай народнай мове гэтыя травы завуцца інакш, але частка траў завецца парасійску. „Петров крест“—таемнік лускаваты, „царевы очи“—камняломнік балотны, „богородицкая“—чабор і г. д.

Гэтаму дапушчэньню расійскага пахаджэньня „лячэбніка“ не адпавядаюць і тыя хваробы, ад якіх дапамагае большая частка апісаных у „лячэбніку“ траў. Першае месца ў ліку гэтых хвароб займаюць нэрвовыя хваробы: вар‘яцтва, розныя порчы. Тут, у залежнасьці ад уласьцівасьці нэрвовай хваробы, прыкмячаюцца і розныя травы, але іх цэлы шэраг: „Иван“ (25), „Сова“ (36), „на юнь“ (62), „Адамова голова“ (9), „Воронец“ (11), „Кудрявый дягиль“ (15), „Цэпь“ (1), „Чапь“ (18), „Богородицкая (13). Калі прыняць пад увагу надзвычайную небясьпеку жыцьця ад частых войнаў XV-XVII сталецьцяў на ўсходзе Беларусі, то робіцца зусім зразумелым такое багацьце на лекавыя травы ад нэрвовых хвароб—порчы. Кожная вайна пакідала ў гарадох і мястэчках Беларусі шмат душэўна-хворых людзей. Другая немач, ад якой таксама сустракаецца шмат лекавых траў—раны; тут дапамагаюць: „синяворот“ (65), „Адамова голова“ (№ 9), „Покутник“ (№ 22), „Собачи листочки“ (№ 32), „Семя крапивы“ (№ 47), гародны „Дивисил“ (№ 31). Хвароба жывата, зрушэньне пупа і кіла, аб якіх у „лячэбніку“ шмат гаворыцца, таксама пашыраны ў нас сярод рамесьнікаў і земляробаў. Хвароба вачэй вылечваецца таксама цэлым шэрагам траў: „Царевы очи“ (№ 2), „воронец“ № (11), „покутник“ (№ 22), „богородицкая“ (23), „земозен“ (№ 39), „цвет“ (№ 42), „сорочка“ № (52), „земляница“ (№ 56). Калі прыняць пад увагу пашыранасьць трахомы ў нашых мястэчках і вёсках, то робіцца зразумелым гэтае багацьце лекавых сродкаў.

Здабывальна-прамысловы харахтар гаспадаркі ў прыдняпроўскіх

країнах Беларусі таксама знаходзяць сабе адбітак у „лячэбніку“. З рамесьніцтваў, якім дапамагае лячэбнік можна адзначыць: пчалярства, тут паказваюцца цудадзейныя травы, якія дапамагаюць у пчалярстве; „маточник“ [№ 7], „верас“ [№ 41], „измоден“ [№ 49], „пырей“ [№ 66] дапамагае ад укусу пчол. Паляўніцтва робіцца здабытным, калі насіць з сабой траву „царевы очи“, тады наловіш шмат птушак, зьвяроў і рыбы. Маючы траву „Адонен“ [№ 8], прылучыш зьвера к сабе. Трава „Гнида“ [№ 67] абараняе ад укусаў зьвяроў і браханьня сабак. Будаваць млыны дапамагае „Адамова голова“, хаты і цэрквы—„ростред“ [№ 20], варыць піва „репей“ [№ 75] і цэлы шэраг траў дапамагае разводзіць хатнюю жывёлу і птушак. Каб у пастухоў ня губляўся скот дапамагае трава „Одонен“ [№ 8], ад круцячкі авец—„плакун“ [№ 10], вуткі, гусі і куры вядуцца, калі даваць ім „Завень“ [№ 37], „земляницу“ [№ 56]. Быдла добра вядзецца пры ўжываньні травы „чапь“ [№ 18], „Иван“ [№ 25], „Ушко“ [№ 35], „ковыки“ [№ 33], „цьвета“ [№ 42]. Каровы робяцца малочнымі, калі ім даваць „матицу“ [№ 52]. Раны і балячкі ў каня хутка зажываюць ад „зиновека“ [№ 21], „чернобыльника“ [№ 58], „рябинка“ [№ 26]. Калі прыняць пад увагу, што ў часы войнаў коні беларускай шляхты часта бывалі ранены, то зразумела цікавасьць „лячебніка“ да хутчэйшага вылячэньня каня ад ран. Да гэтага трэба дадаць яшчэ зацікаўленасьць „лячэбніка“ да зьнішчэньня ў хатах цыркуноў, тараканаў і клапоў. Тут памагаюць „варахня“ [№ 16] і „бучан“ [№ 63].

Усё гэта прымушае думаць, што знойдзены „лячэбнік“ складзены ў нас на Беларусі ў шляхоцка-мяшчанскім асяродзьдзі пад значным уплывам духавенства. Трэба лічыць, што „лячэбнік“ зложаны ў XVII і XVIII сталецьцях. У Масковіі таго часу рэлігійная барацьба ня мела такое войстрасьці і шырыні, як у нас на Беларусі, і спатканьне з гэрэтыкамі, якіх так баяўся аўтар „лячэбніка“, там не насіла за сабой такое бяды, як у нас на Ўсходзе Беларусі, дзе было так многа кляштараў розных вызнаньняў, якія вялі паміж сабой бязупыннае змаганьне. З земляробскіх галін траўнік дапамагае толькі гародніцтву: „измаден“ [№ 49] зганяе чарвей з капусты і дае добры плод усялякай гародніны.

Тут мы даем урывак з „лячэбніка“ дзеля азнаямленьня з яго мовай і стылем, а таксама рэестр траў у такім парадку, як яны запісаны ў канцы „лячэбніка“. Орыгінал „лячэбніка“ знаходзіцца цяпер у Навуковым Таварыстве пры Беларускай Сельска-Гаспадарчай Акадэміі, дзе ботанікі вывучаюць гэтыя расьліны.

---

## ЛЕЧЁБНИК *).

I.

„Есть трава на земле именем цепь, листки малы, ростом в локоть, тонка, родом синя, а на сторонах по 9 листков, вверху 4 цвета: червоны, сини, зелены і...... ксемцы оная трава добра носіць пры себе і тот человек не боится діавола ни в день, ни в ночь никаго человека неорптика, когда на суд войдет одолеет—сопротивником, ц(вет и к(орень) любят всякий чин, почитает, оная трава при больших реках и талышках, а корень ее добр. У которой женщины детей нет, то оный корень истолочь, просеять, настоять на молоке и употреблять

*) Намі пастаўлены знакі прыпынку і словы замест шматкроп'я, якое сустракаецца ў тэксьце. Гэткія словы ўзяты ў дужкі. Д. В.

натощак, а ежели у кого порча, то заутра выведет; принимать золотой цепью и перстнем или листовым золотом.

№ 2. Есть трава „царевы очи“ собой весьма мала растет, тонкости в иглу, а цвет как золото багровый и в ней кажутся всякие узоры, когда станешь смотреть против солнца, листьев нет, растет кусточками, и та трава весьма полезна у кого болят очи—держать при себе; а когда надобно итти на бой, то имея оную с собой хранит Бог от напрастной раны. А при от‘езде человек в дорогу бывает легок, не боится на коню; ни сам, ни конь, или кто хочет много ловить зверей, птиц, рыбу, то в то время носит при себе; ежели жена не любит мужа, то также надобна иметь оную при себе.

№ 3. Есть трава железница, и оная растет по пригоркам, верхним концом к низу корчится, и ту траву кто дает скоту, то поветрием не мрет, и телята станут, а птиц в велики четверг станет поить, от того никогда ни рушится и звери никакие не прикасаются, сию же траву в пищу скоты не употребляют по причине ее горести.

№ 4. Есть трава измаден, растет в стрелу, цвет синь при темных местах листочки вороны, маленькия, собой кругленькия, как разцветет кувшинчиками и оная трава весьма полезна от грыжи и от щекоты, кушать на молодике м-ца в уксусе и в молоке, или у кого пуп рушится, то пить по утрам отчего оздоровеет.

№ 5. Есть трава „п а р е м о н“ в листу ручной волос, возле земли кустами, і та трава весьма удобна от нечистого духа и от черной болезни, на ней листочки маленькия, как железный руд, кой принимают от болезни на молодике м-ца и по исходе.

## НАЗВЫ ТРАЎ У „ЛЯЧЭБНІКУ“.

1. Цепь
2. Царевы очи
3. Железница
4. Измаден
5. Паремон
6. Измаден
7. Маточник
8. Одонен
9. Адамова голова
10. Плакун
11. Воронец
12. Бронец
13. Бель
14. Курен
15. Кудрявый дягил
16. Варахня
17. Лиса
18. Чапь Бектанія
19. Петров крест
20. Рострел
21. Зиновек
22. Покутник—Трыпутнік
23. Богородицкая—Чабор
24. Котовые ядра
25. Иван
26. Рябинка—Піжма
27. Змоща
28. Ужик—Дубраўка лесавая
29. Золотуха
30. Рясна
31. Дивисил
32. Сабачьи листочки
33. Ковыка
34. Остр
35. Ушко
36. Сава
37. Завень
38. Собою мала
39. Земозенъ
40. Сузак
41. Верес
42. Цвет
43. Золотушная*
44. Ромашка*
45. Завалк*
46. Велиш*

*) Апісаньне гэтых траў страчана.

47. Крапива
48. Свут
49. Измоден
50. Железка
51. Сорочка
52. Матица
53. Полевой хмель
54. Сорочье щековичье
55. Ревка
56. Земляница
57. Перевязка
58. Чернобыльник
59. Муравей
60. Вороново око
61. Погубенса
62. Наюпь
63. Бучан
64. Осока
65. Синеворот
66. Пырей
67. Гнида
68. Канус
69. Лаперт или папер
70. Зверобой
71. Трапучка
72. Перенос
73. Вороньяк
74. Талый пупутник
75. Репей
76. Субинка
77. Дербушка.





В. Д. Глацёнак.

# Асьвейскае возера.

Чуць на поўнач ад асяродку Асьвейскага раёну раскінулася Асьвейскае возера. Па сваёй велічыні яно займае другое месца сярод галоўных вазёр Беларусі. Паводле вастках Галоўнай Рыбнай Гаспадаркі пры Наркамземе БССР, найбольшая даўжыня яго з усходу на захад даходзіць да 13 км. (12 вёр.), найбольшая шырыня—-6,5 км. (6 вёр.). Плошча возера раўняецца амаль што ня 5680 гэктар (ці 50 кв. вёрст.).

Каля заходняга боку з возера высоўваецца ў відзе скалы востраў; прастора якога займае 456 гэктар. (ці 418 дзес.) зямлі. У географіі Беларусі Смоліча гэты востраў названы востравам Ду. Але, трэба адзначыць, што апошняя назва, як сярод насельніцтва востраву, так і прылеглых пунктаў зусім ня ўжываецца і завецца ён звычайна проста Востравам. На ім знаходзіцца вёска, якая таксама завецца Востравам і складаецца з 59 гаспадарак і 282 душ. Насельніцтва вострава займаецца земляробствам і рыбацтвам.

Берагавая лінія досыць простая, бяз значных завілін, за выключэньнем паўвострава з паўднёвага боку і аднэй затокі. Правы паўднёва-ўсходні і паўночны бераг узгоркаваты і мае ўзвышша; левы-ж паўднёва-заходні і заходні—балоцісты і топкі. Бераг вострава амаль што ня ўвесь цьвёрды і высокі. Асабліва высака падымаецца паўднёва-ўсходні бераг востраву, па якім раскінуты цэлы шэраг узгоркаў, як „Гарадок“, „Пярунаўка“ і інш. Найбольш цікавымі з іх будуць вышэйпамянёныя.

Пра „Гарадок“ існуе ў насельніцва паданьне, што ён насыпаны ў час піраваньня, якое было падрыхтавана французамі пасьля аднэй удачлівай бойкі 1812 г. Легенда-ж перадае наступнае: „На Гарадку, у самым асяродку, дзе цяпер толькі невялічкая ямка, калісьці даўно пасьвіў пастушок скаціну і праваліўся. Зваліўшыся ў нейкую яму, ён там убачыў старую, старога дзеда і на прывязі сабаку. Старая і стары насыпалі хлопчыку поўны кішэні золата і вывелі яго на волю. Хлопчык прышоў да хаты, расказаў бацьком аб усім, што з ім здарылася і паказаў золата. Даведаўшыя аб гэтым, суседзі паслалі туды сваіх ужо двух хлопчыкаў, але ўжо гэтыя як пашлі, дык і не вярнуліся. Цяперашняя ямка на Гарадку і сьведчыць аб гэтым. „Пярунаўка“ ня мае за сабой многа легенд. Паводле слоў адных яна свой назоў атрымала ад таго, што ў гэта месца заўсёды б‘е пярун. Паводле другой вэрсіі—яна завецца „Лемяшоўкай“, бо ў 1812 г. французы з гэтай горкі стралялі лемяшамі.

Грунт правага берагу возера і грунт берагавой лініі востраву

пяшчаны, левы-ж—у пераважнасьці балоцісты. Дно вельмі няроўнае, зрэзана як-бы рэчкамі і мае многа глыбак і мялізны. Найбольш выдатныя з іх маюць назвы, як напрыклад глыбкі: Хвост, Сталюціха, Бык, Кароўніца; мялізны—Асімаўская, Царкаўнянская, Канчанская і




інш. Цікава тое, што возера зьяўляецца ня звычайным возерам са стаячай вадою, але вада ягомае рух, цячэньне. „Глыбкі“ складаюць якбы шлях гэтых цячэньняў. Пачынаецца цячэньне прыблізна з канца хваста, потым праходзіць адложак, Сталюціху, ідзе вакол вострава да Кашалёўкі, дзе рашчапляецца на дзьве часткі: адна ідзе ў Бык, а другая паварачвае налева ў Падгорацкую глыбку, адсюль у Дубкавую, Біруліну, Шырокую, Бярозаўку і да пачатку хваста. (Глядзі карту). Самая вялікая глыбіня ў глыбках даходзіць да 10 мэтр. і самая мен-

шая на мелі—1 мэтр. Сярэдняя глыбіня возера чуць толькі перавышае за 1 мэтр. Наогул, возера лічыцца мелкім. Амаль што ня ўсё яго дно заслана тоўстым пластам глею, у якім часам шост лезе глыбей, чым у павярхоўным слоі вады. Па глыбках звычайна дно крэпкае і цьвёрдае. Ёсьць такія месцы, у якіх немагчыма заякарыць лодкі. З дна ў такіх мясцох дастаецца сіняя гліна, як прасаваная. З боку глыбкі Сталюціхі, прыблізна ў 300 мэтр. ад Пярунаўкі знаходзіцца затопленая вадой каменная горка, плошчай каля 400 кв. мэтр. Завецца яна Ісоп. Вышыня яе пад вадой каля 2-х мэтраў і павярхоўнага слою вады над ёй $^1/_2$ мэтр. Улетку лодка прайсьці праз Ісоп ня можа.

Возера праточнае, на ўсходзе з яго выцякае рэчка Дзехцяроўка (ці Ігналінская) у 4 км. даўжыні і на захадзе—кошава Поцінка. Дзехцяроўка злучае Асьвейскае возера з возерам Ормія, а Поцінка— з р. Сінюхай. Злучэньне з возерам Ормія ўключае Асьвейскае возера ў водны шлях Заходняй Дзьвіны*). Робіцца яно праз наступныя рэчкі і вазёры: Дзехцяроўка (ці Ігналінская р.), воз. Ормія, Красілаўская (ці Прыпеская р.), воз. Лісна, р. Свална, р. Дрыса і Заходняя Дзьвіна. (Гл. схэму). Спачатку гэты шлях даходзіў галоўным чынам толькі да возера Ормія. Мялізнасьць і маласьць Дзехцяроўкі зьяўляліся перашкодай у праезьдзе ў Асьвейскае возера. Вось чаму з часам было зроблена паглыбленьне гэтай рэчкі, а месцамі пракопан занава абвод у відзе канала. З гэтага часу прыблізна пачынаецца сплаў лесу з Асьвейскага возера ў З. Дзьвіну. У сучасны момант апрача сплаву вада рэчкі скарыстоўваецца пабудаваным на ёй млынам. Уцякае ў возера на поўначы невялічкая Красоўская рэчка і шмат інш. дробных ручаёў. Усе яны вясной прыносяць шмат вады і глею. Але ня гледзячы на гэта, дзякуючы адсутнасьці больш буйных крыніц, папаўняючых яго воды, возера ўлетку вельмі мялее.

Берагавая расьліннасьць ня дужа багата і разнастайна. Пачынаючы амаль што не ад самай вёскі Канчаны і да вёскі Поціна прылягае да возера ў 6.500 дзесяц. тарфянае балота, засланае імхом з паросшай на ім дробнай хвояй, елкай і месцамі кажанавацістай дярозкай. Далей балота пераходзіць у хваёвы лес, які і ўпрыгожвае паўночны бок возера. На ўсходзе і поўдні бераг у большасьці прадстаўляе балатняны луг з паросшай: Асакой звыч. (Carex Vulgaris), Чорнагалоўкай (Eriophorum polistahym), Хвашчом (Eguisetum palustre), бабоўнікам (Menyanthes trifoliata), валяр'янкай (Valeriana officinalis), мятлой і інш.

Мялізнасьць возера дала поўную прастору падводнай расьліннасьці. Шырокае месца тут сабе заваявалі наступныя расьліны: 1) асот (Stratiotes aloides), 2) гарохаўка (Potamogeton), 3) елец (Utricularia wulgaris), 4) лапух (Nuphar luteum), 5) трасьнік (Phragmites Communis), 6) аір (Acorus Calamus), 7) пухоўка (Typha angustifolia), 8) вадзяная лілія (Nymphea alba), 9) зелень, 10) падмошніца і інш.

Распаўсюджаная па возеры расьліннасьць складае спрыяючыя ўмовы для разьвіцьця яго фаўны. Асабліва славіцца возера сваёй рыбнасьцю. З рыб тут водзіцца: 1) лешч (Abramis brama), 2) шчупак (Eson lucius), 3) плотка (Feucisus rurilus), 4) вокунь (Perca feuniatilis), 5) ерш (Acerina cernua), 6) язь (Idus melanotus), 7) мянтуз (Lota vulgaris), 8) краснапёрка (Scardinius erythrophtalmus), 9) карась (Carassius vulgaris), 10) лускера (Abramis blicca), 11) уклея (Leuciscus alburnus),

*) Ёсьць думка, што першыя жыхары Асьвейск. возера прышлі з Заходняй Дзьвіны гэтым водным шляхам.

12) курмель (Leuciscus gobio), 13) піскун (Cobitis fossilis, 14) Жывецвоўк (Cobitis taenia) і інш. дроб. рыба. З іншых прадстаўнікоў фаўны сустракаюцца: п'яўкі (Lymneus stagnalis, Planobris corneus, Unio pictorum, Aulastomum gulio), сьлімакі, прудавікі і інш.




Па якасьці вады па досьледу проф. Е. Леонскага возера найбольш прыгодна для разьвядзеньня ляшча і зусім не падыходзіць для сіга, якому ў вадзе не хапае тлёну.

Для лову рыбы ўжываюцца розныя прылады: невады (да 450 мэтр. адно крыло), сеткі, падвалокі, брэдні, мярожы, нераты, шнуры, вуды. Апрача гэтага вясной яшчэ б'юць рыбу васьцямі з дапамогай ліхтароў. Цана дробнай рыбы на месцы м. Асьвея ад 2-5 кап. фун.

Буйная-ж адпраўляецца, згодна дагавору, Полацкаму Сельсаюзу. Старыя рыбаловы расказваюць, што раней рыба лавілася значна болей, і рыба была больш буйная. Бывалі выпадкі, калі ўзімку аднэй тоняй

## Схэма
### шляху з Асьвейскага возера у Заходнюю Дзьвіну.




выцягвалі 3000 пуд. рыбы. Але і цяпер яшчэ ня згінулі зусім удачлівыя тоні. Так, летняя тоня 1924 г. дала 1000 пудоў амаль што ні адных ляшчоў, а зімняя 1926 г.—500 пуд. Буйнейшы лешч і цяпер яшчэ даходзіць да 7 кл., а шчупак да 17 кл. Яшчэ і цяпер яно

прыносіць дзяржаве штогодна 5000 р. арэнды. Каля 17—25 чалавек ўзімку і каля 40 ўлетку бывае заняты ловам рыбы. Да апошняга году аранадавалася яно прыватнай асобай, але з 1927 перайшло ў рукі рыбацкай арцелі ў 17 рыбаловаў.

З птушак, якія выводзяцца на возеры сустракаюцца: 1) чайка (Larus ridibundus), 2) бакас (Scolopax gallinago), 3) вадзяны бык (Ardea stellaris), кракавіц, чыранка, нырэц, кулік і вадзяная курачка (Fulicide).

Вясной-жа і ў восень на ім застанаўліваюцца лебедзі, гусі і журавы.

Сваім мінулым, як відаць, возера ўпіраецца ў старадаўнюю севіну. Цэлы шэраг раскіданых па акружаючых палёх вялікіх каменьняў, якія захаваліся і да сучаснага моманту сярод насельніцтва—каменныя сякеры [1])—усё гэта зьяўляецца як-бы жывым сьведкай далёкага часу яго нараджэньня. Рыбалоўная Гаспадарчая Экспэдыцыя адносіць яго да вазёр ледавіковага пахаджэньня.

Назва возера зьвязана з пахаджэньнем назвы мястэчка Асьвеі, якое знаходзіцца на паўднёвым беразе возера і зьяўляецца раённым цэнтрам [2]) Асьвейскага раёну. Легенд аб назьве існуе некалькі, але многія з іх супярэчаць ці самі сабе, ці гістарычным даным. Агульнае між імі будзе тое, што ўсе яны адзначаюць, што спачатку назву атрымала возера, а пасьля яна перайшла і на мястэчка.

Даем адну легенду аб Асьвеі:

„У даўнія часы, калі яшчэ нікога каля возера ня жыло і калі ўсё месца, якое акружае возера, было паросшы непралазным лесам, ішоў адзін чалавек, спазьніўся і ў начы заблудзіўся. Месца, дзе ён заблудзіўся, было якраз недалёка ад возера, дзе цяпер знаходзіцца мястэчка Ня ведаючы куды ісьці, стаў ён на калені і пачаў маліцца: „Господзі, асьвяці мяне“. Праз некалькі хвілін ён знайшоў дарогу. Як выбраўся і думае: як яму назваць тое месца, дзе заблудзіўся. Уздумаўшы, што яго там асьвяціла, ён і даў возеру назву Асьвея ад слова асьвяціць, а ад возера было названа і мястэчка Асьвея“ [3]).

Яшчэ з жыцьця возера трэба адзначыць цяжкі для яго 1901 год, калі пасьля прарыцьця канаў на блізкім балоце, амаль што ня ўся рыба была атручана ржаўкай. Чатыры гады пасьля гэтага зусім не лавілі рыбу. Адзін толькі ёрш мог жыць тут.

У сучасны момант таксама вядзецца падрыхтоўка да асушкі вышэйпамянёнага (6.500 дзес.) тарф. балота. Апошняе мерапрыемства бязумоўна зробіць вялікі ўплыў на абмяленьне возера, яго звужэньне і забалачваньне.

---

[1]) У мясцовым музэі ёсьць вялікая колекцыя гэтых сякер.
[2]) У часы Полацкага кн. Асьвея зьяўлялася прыгарадам г. Полацку.
[3]) Легенда расказана гр-ам м. Асьвея Стаеўскім І. Ф., 80 год.



Т. Гаўрыловіч.

# Лясныя формацыі вышнявіны р. Нёмна.

У сучасны момант Нёман знаходзіцца ў межах БССР на працягу каля 40-50 кілёмэтраў і толькі галіны яго: р. р. Вуса з Перапуцьцю, Лоша, Тур'я і інш. меншыя рэчкі і ручаі поўнасьцю знаходзяцца па гэты бок дзяржаўнай мяжы.

З адзначаных прычын і разгляданы раён будзе невялікім. Ён мае сваімі канцавымі пунктамі на поўнач вёску Ракашыцы, на поўдзень м. Пясочна, на ўсход м. Вузду, а на захадзе мяжуецца з зарубежнай Заходняй Беларусьсю.

Гэты раён зьяўляецца заходняй канцовасьцю вадападзелу Балтыцкага і Чорнаморскага вадазбору, дзе прайшлі, праўда, ужо значна паніжанымі, і Вілейска-Нёманскія ўзгор'і. Гэта ў значнай меры зрабіла ўплыў на глебу раёну,— у большасьці сваёй яна пяшчаная, бо вада рашчыняла і зносіла драбнейшыя часьціны і матар'ялы, а буйнейшыя, як жарства і пясок, заставаліся. У дадатак да сказанага Нёман пры формаваньні свайго рэчышча шмат нарабіў выдмаў, якія ветрам разьдзімаліся, пераносіліся з месца на месца і значна пашыраліся, а тым самым яшчэ больш аб'ядналі глебу. Шмат гэтых выдмаў ёсьць і цяпер як у натуральным відзе, так і замацаваных лазой, а часам ужо і засеяных хвойкай.

З адзначанага ўжо відаць, што тут мы ня сустрэнем разнастайных дрэвастанаў,—беднасьць глебы ня дасьць ім магчымасьці разьвівацца. І зусім правільна. Пры разглядзе дрэвастанаў, якія займаюць тут плошчу каля 10000—12000 гэктараў, іх можна разьбіць на тры формацыі:

1) Хваёвую, 2) яловую і 3) чарналесіцу.

1. Хваёвая формацыя тут галоўная. Яна займае 80% усёй лясной плошчы. На працягу ўсяго Нёмна, абапал яго раскінуліся чыстыя хваёвыя дрэвастаны. У большасьці сваёй яны маюць закамелістыя і значна сукаватыя дрэвы,—гэта дрэвастаны з нязначнай вытворчасьцю, а тым самым і нязначнай вартасьцю, яны амаль што не даюць будаўнічага матар'ялу.

Глебы таксама бедныя. Яны складаюцца галоўным чынам з апалых шыпуляк, сучкоў і лішая (Cladonia), адзіночна сустракаецца ястрабок (Hieracium), верас (Calluna), Festuca і інш.

Адным прыхіляюць гэтыя дрэвастаны да сябе чалавека,—гэта добрым (чыстым) паветрам і добрымі грыбамі (баравікі).

Далей ад Нёмна, дзе лятучыя пяскі даўно замацаваны, альбо

куды яны не дасягнулі, гэта формацыя прадстаўлена шмат лепшымі дрэвастанамі з добрым ня толькі будаўнічым, але нават і экспортным матар'ялам як, напрыклад, вурочышча Карыціна, Нізаўская дача, Буднікоўская дача.

Глеба тут ужо мяняецца, зараз за выдмамі берагоў Нёмна пачынаецца верасавы бор, а далей акрыцьцё яшчэ пышнейшае, усюды брусьніца, чарніца, некалькі відаў Pirola, па самай глебе замест лішая разрасьліся зялёныя імхі (Hypnum, Hylocomium), якія ўтвараюць прыгожы зялёны дыван. Тут прытуліліся хваёвыя дрэвастаны з каштоўным матар'ялам, што ў мінулыя часы сплаўляўся па Нёмане ў чужыя краі, асабліва ў Нямеччыну.

2. Яловая формацыя—мала значная, яна займае толькі 10% лясной плошчы і знаходзіцца далей ад Нёмна, займаючы астраўныя раўніны сярод хваёвых дрэвастанаў з глыбокай супяшчанай глебай. Дзякуючы багацьцю глебы дрэвастаны маюць добры ўзрост. Тут часам да елкі падмешваецца крыху асіна, часам дуб, граб, клён і інш., як, напрыклад, гэта можна бачыць у вурочышчы Тоўсты лес,—гэта магутныя яловыя дрэвастаны вялікай каштоўнасьці.

У падлеску значна разрастаецца арэшнік.

Глебавае акрыцьцё ўтвараюць ягаднікі, гарэлачкі або майнік (Majantemum), баршчоўка (Oxalis) і шмат інш., так званых шыракалісных траў. Зялёныя імхі ўтвараюць дыван (Mnium, Hypnum, Hylocomium, Ricidiadelfus, Dicranum), па якім то тут, то там прыгожа раскінуляся дзераза (Lycopodium annotinum).

3. Чарналесіца таксама займае толькі 10% усёй лясной плошчы. Яна прадстаўлена найбольш чыстымі, альбо з прымешкай бярозы, ці елкі,—вольхамі—альховымі дрэвастанамі. Яны прытуліліся да крынічак і ідуць уздоўж іх, стужкамі. У тых месцах, дзе вада не застойваецца, альховыя дрэвастаны адчуваюць сябе добра і даюць каштоўны матар'ял,—фанеру, а там дзе вада застойваецца, паверхня глебы парушаецца пашай жывёлы, дрэвастаны адчуваюць сябе дрэнна і даюць у большасьці матар'ял на дровы.

Апрача чорнаальховых дрыгваў, з іншых дрэвастанаў гэтай формацыі можна адзначыць невялікія астраўкі дубу на лугавой тэрасе Нёмна. Дуб расьце на нявысокіх грудох, але гэты дубовы тып нязначны, дратуецца быдлам, дрэнна расьце і гаварыць аб яго якой каштоўнасьці ня прыходзіцца. Дае ён толькі селяніну добрыя бічы для цапоў.

З усяго тут адзначанага відаць, што багацейшаю лясной формацыяй вышнявіны р. Нёмна, як па плошчы, так і па сваёй каштоўнасьці, зьяўляецца хваёвая формацыя— хваёвыя дрэвастаны. Трэба іх толькі паступова палепшыць: замацаваць лятучыя пяскі, аблясіць замацованыя, забараніць пашу жывёлы на ўсіх такіх выдмах і зьмяніць сыстэму рубкі, перайсьці ад лесасечнай да дабравольна выбарчай, так званага „dauerwald". Апошняя сыстэма патрабуе значнага догляду і сродкаў, але павінна даць у будучыне добрыя карысныя вынікі. Пры гэтай сыстэме ў першую чаргу прымаюцца крокі да паляпшэньня глебы (уводзяцца ў падлесках розныя шыракалісныя дрэвы і хмызьнякі), а з вышэйадзначанага відаць, што глеба тут бедная і вельмі патрабуе паляпшэньня, каб даць лепшы рост дрэвастанам.

---

# Анкеты, програмы і інструкцыі.

Власт.

## Інструкцыя

### для зьбіраньня рэчаў у этнографічныя аддзелы музэяў.

Адна з наймалодшых галін гісторыі—этнографія—на працягу XIX ст. заняла пачэснае месца ў навуцы. Об‘ектам вывучэньня этнографіі сталася культура тых народаў і слаёў насельніцтва, якія ня ўходзілі ў закрэс вывучэньня афіцыяльнай гісторыі, бо ў пісанай форме помнікаў сваёй культуры не захавалі. У дадатку гэта народная творчасьць не паддаецца хронолёгічнаму ўпарадкаваньню. Песьня, якая сягоньня пяецца з памяці вясковай дзяўчынай, здараецца часам тысячалетняй даўнасьцю; гэтак сама ўзор на дрэве ці тканіне, які аздабляе прасьніцу ці вопратку вяскоўца, бывае равесьнікам найстарэйшых усясьветных культур і па сваёй даўнасьці ня ўступае асыра-бабілёнскаму клінопісу і егіпецкім пірамідам. Гэтая асобнасьць здабыткаў народнай творчасьці, а ласьне—іх бясспрэчная сівая мінуўшчына, і, адначасна, жывая актуальнасьць здольная да далейшага разьвіцьця, паводле законаў заложаных глыбака ў інтэлект данага народнага колектыву было прычынай таго, што этнографія з пабочнай галіны гісторыі выдзелілася ў самастойную навуковую дысцыпліну. Гэтая дысцыпліна адразу-ж разлучылася на дзьве асноўныя часткі з уласнымі пад‘аддзеламі: *этнолёгію*, якае абыймае славесную народную творчасьць і *этнографію*, якая вывучае матар‘яльныя помнікі народнай творчасьці.

І так, у аснову будаваньня этнографічных музэяў павінна быць паложана культура народнасьці, выражаная ў матар‘яльных помніках. Але з ліку матар‘яльных помнікаў, з аддзелу этнографіі, выключаюцца помнікі перадгістарычных часоў, прыкл., каменныя прылады, курганныя знаходкі і інш.,—яны становяць аб‘ект вывучэньня архэолёгіі. У этнографічны музэй павінны паступаць толькі *рэчы жывой старасьветчыны,* г. зн. рэчы якія перахаваны бытам народу ці гэта ў забытках, ці гэта ў жывой народнай творчасьці. Спаміж помнікаў матар‘яльнай культуры гарадзкога насельніцтва і пануючай клясы, у этнографічны музэй могуць уваходзіць толькі тыя, якія маюць на сабе выразныя азнакі народнага орнамэнту ці стылю.

Народная творчасьць дае, *быт, мэханіку* вытворчасьці і народнае *мастацтва.* Але на практыцы ўсе тры гэтыя праявы народнай творчасьці не паддаюцца распадзелу, а наадварот часта ўзаемна пакрываюцца, пажадана, каб рэч, якая паступае ў музэй, зьяўлялася тыповай для данай мясцовасьці, мела на сабе адзнакі найбольшага дасягненьня народнай тэхнікі і, адначасна, была мастацкай формы або аздоблена

ўкрасамі. Толькі гэткім чынам укомплектаваны этнографічны музэй будзе мець навуковую і культурную вартасьць.

Кожны зьбірач рэчаў у этнографічны музэй павінен добра знаць тып тэй культуры, да зьбіраньня помнікаў якой ён приступае. Без належнай падгатоўкі зьбірача ў апошнім кірунку, работа яго ня будзе продукцыйнай: ён будзе блутацца ў падборы рэчаў, ня ўмеючы акрэсьліць, што да якога тыпу культуры належыць, як пры зьбіраньні, так і пры расстаноўцы рэчаў у музэі.

Перш чым перайсьці да падробнага выкладу, што трэба зьбіраць, мы дамо яшчэ некалькі агульных уваг. А ласьне. Кожны этнографічны музэй у першую чаргу павінен зьвярнуць увагу на рэчы быту, распашыраньня ў народзе ў цяперашні момант, якія зьяўляюцца вырабам рук мясцовага насельніцтва. Рэчы фабрычнай вытворчасьці, прывозныя, вырабы адукаваных майстроў з этнографіі выключаюцца. З распашыраных рэчаў мясцовай продукцыі, на першую ўвагу заслугоўваюць, як вышэй сказана, тыя рэчы, якія маюць на сабе адзнакі народнай творчасьці, выражанай у сьціпнасьці выкананьня або ў аздабленьні рэчы. Рэчы, якія вызначаюцца індывідуальным няўмецтвам, або неахайнасьцю ў выкананьні, — ня могуць служыць экспонатамі ў музэі.

Побач з новачаснымі, па магчымасьці найбольш тыповымі і сьціпнымі рэчамі мясцовай вытворчасьці, трэба зьвяртаць пільную ўвагу на зьбіраньне старасьвецкіх народных вырабаў. Гэта каштоўна таму, што шляхам параўнаньня даўнейшага з цяперашнім выяўляюцца напрамкі органічнай эволюцыі данай рэчы, або навейшыя запазычаньні ў тэхніцы вырабу і здабленьне яе. Апрача таго, сучасны хуткі пераход насельніцтва да фабрычных вырабаў, які адбываецца ў нашы часы на Беларусі, прымушае заміраць некаторыя ўмецтвы і рамёслы, якія, у параўнальна яшчэ нядаўнія часы, былі ўсеагульнымі і далёка пашыранымі. Да гэткіх, прыкладам, належаць: набойка, разьба па дрэве, орнамэнтыка на бяроставых вырабах і інш. У кожным з вышэйназваных народных умецтваў было праяўлена многа ўмысловага высілку і доўгалетняй колектыўнай творчасьці і была дасягнута свая ступня дасканальнасьці, і, нават, часам даволі высокая мастацкасьць. Рэчы гэтай катэгорыі павінны заняць пачэснае месца ў этнографічным музэі, бо яны характарызуюць народную культуру ў нядаўна мінуўшай яго эволюцыйнай стадыі. Старасьвецкія здабыткі народнага мастацтва—гэта карані, з якіх павінны вырасьці новыя расткі новага народнага мастацтва.

*Вырабы з дрэва.* Беларусы, спакон вякоў жывучы ў лясох, мелі дрэва галоўным матар'ялам, на якім разьвівалася іх мастацкая творчасьць. Найпершыя будынкі былі бясспрэчна ў нас з дрэва. Асноўнай адзінкай беларускага будаўніцтва была „клець“, г. зн. чатырохкутны зруб, на якім будавалі „горніцу“. Ніз—„клець“, служыў для складаў, а верх „гара“ да жыцьця людзей. Гэткія будынкі бачым мы на гравюрах XVI ст. беларускіх гарадоў Вільні і Горадні. Стрэхі на будынках былі двохспадныя—„будай“, двохспадныя з заламанымі на сьцены канцамі—„дамаром“, двохспадныя з заламанымі на шчыт канцамі—„лобаком“, чатырохспадныя, пірамідай—„капяжом“. Здабыткі народнага стылю ў будаўніцтве, захаваліся ў стылі драўляных царковак, капліц, сынагог і часам у некаторых прыватных будынках. Гэтыя будынкі трэба зарысоўваць і фотографаваць. На некаторых паасобных часьцях будынкаў, мастацкая ўвага старасьвецкіх будаўнічых „дойлі-

даў“ любіла больш спыняцца і лепш іх выконаваць. Да гэткіх часьцей належаць дзьверы, вокны і вароты. Цікавыя сваёй формай і аздобамі вароты, дзьверы і наваконьнікі, асабліва здобленыя наскрознай разьбой, „начолкі“ наваконьнікаў, трэба зарысоўваць і фотографаваць. А некаторыя „начолкі“ пераносіць нават цалком у музэй.

Далей, усё бытавое акружаньне беларуса,—ад калыскі і дзіцячай цацкі, да труны і намагільнага знаку, мела сваім амаль выключным матар‘ялам дрэва. Дрэва іграла і іграе дагэтуль ролю хлеба ў гаспадарча-бытавым жыцьці беларуса: хата, вазы і павозкі, сані і санкі і ўся хатняя абстаноўка—сталы, ложкі, услоны, зэдлі і зэдлікі; прылады працы—прасьніцы, валкі да качаньня бялізны, пральнікі, грабяні да лёну і трапалкі; судзьдзё—дзежы, кадкі, балеі, ражкі, баклажкі, начоўкі; конаўкі, салёнкі, лыжкі, а таксама аздобныя рэчы—бажніцы, лыжнікі і ручнічнікі—выраблялiся дый цяпер вырабляюцца з дрэва. З тысячаў усялякіх вырабаў з дрэва на месца ў музэі заслугоўваюць толькі тыя, на якіх найбольш характэрна, найбольш поўна адбілася народная творчасьць.

З орнамэнтыкі вырэзанай на драўляных вырабах, асабліва характэрны для Беларусі, а) разьба трохкутна-ўглыбістая і б) прарэзная. Але гэтымі двума тэхнікамі наша народная разьба не адмяжоўваецца. Ёсьць прыклады многіх іншых тэхнік уключна да мастацкай скульптуры.

Трохкутна-ўглыбістая разьба перахоўвае і выяўляе сабой вялікую і доўгую культуру высокай мастацкай вартасьці. Простая форма ўглыбленага трыкутніка ўстаноўлена была не адразу, а пасьля доўгага шуканьня людзкой думкі.

Аснаўныя элемэнты драўляных орнамэнтаў—трыкутнік, а аснаўныя фігуры—круг і розэтка. Каля гэтых галоўных геомэтрычных фігур будуецца народная орнамэнтыка на дрэве ў яе рознаякіх угрупаваньнях і злучэньнях.

### Тканіны.

Край наш шырака праславіўся сваімі слуцкімі ткальнямі. Праўда, золататканыя слуцкія паясы і кілімы не зьяўляюцца беспасярэдным вытворам народнага колектыву беларускіх працоўных мас і ўмецтва гэта было ў свой час прыносным. Але ня менш цікавы, ня менш каштоўны беларускія тканіны шырокай народнай продукцыі. Нашы ткачы і ткачыхі спакон вякоў вытыкаюць многа ўсякіх палоцен—ад дробнай радніны да тонкага кужалю. На бялёвыя гладкія тканіны ўмелыя ткачыхі пры дапамозе нітоў кладуць усялякія ўзоры, ад простых „елачак“ і „аконцаў“ да вельмі складаных 12-ці нітовых композыцый. Гэта становіць адзін аддзел народнага ткацтва: па белым белы ўзор.

Другі аддзел народнага ткацтва становяць узоры вытыканыя чырвонымі (рэдка іншага колеру) ніткамі. Да гэтых тканін тасуецца іншая ткацкая тэхніка. Тут ужо іграюць галоўную ролю ня ніты, а лучынкі і пруткі, якія закладаюцца ў аснову за нітамі. Гэтым спосабам вытыкаюць украсы на „набожніках“, фартухох, рукавы і каўняры да кашуль. Узор пераважна мае ў сваёй аснове ромб, які сымболізуе сабой той самы круг, аб каторым гаварылі мы вышэй, кажучы аб разьбе па дрэве. Гэтыя тканіны, таксама сьведчаць аб тысячалетняй культуры; кожная фігура, кожны знак меў свой зьмест і значэньне. Дармо, што сучасная ткачыха не разумее таго, што яна вытыкае. Ад гэтага цэннасьць вытыканых украс ня меншая. Найбольш характэр-

нымі зьяўляюцца для Беларусі ўзоры тэй ткацкай тэхнікі, якія маюць на абедзьве стараны гладкі, выразны ўзор, дзе і аснова і ўток укладаюцца геомэтрычнымі ўкрасамі.

Да гэтай адмены тканін блізка прымыкаюць паяскі сваімі ромбічнымі, паўромбічнымі і кручкавымі фігурамі-ўкрасамі,—яны становяць адну з вышэйсказанымі тканінамі групу ў культуральным і орнамэнтальным значэньнях. Колекцыямі вышэйазначаных тканін і паяскоў павінен быць аздоблены кожны краязнаўчы музэй. Вывучэньне паасобных фігур гэтых украс, фотографаваньне і зарысоўка іх павінна заняць паважнае месца ў краязнаўча-дасьледчай працы, бо гэта орнамэнтыка зьяўляецца аднэй з дужа характэрных рысаў беларускага народнага аздобніцтва.

Трэцюю групу становяць тканіны т. зв. гобэленавай тэхнікі, якія таксама даволі ў нас пашыраны. Гэтыя тканіны ткуцца ў два ніты, але ў некалькі чаўнакоў, у кожным чаўнаку—іншага колеру нітка. Тканіна атрымліваецца на абедзьве стараны гладкая, узорныя композыцыі яе на абедзьве стараны аднастайныя. Такім спосабам ткуць суконныя кілімы, дываны і, радзей, палатняныя тканіны. Гэта тэхніка дае магчымасьць вытыкаць ня толькі геомэтрычныя фігуры, але ўсялякія композыціі, уключна да краявідаў, бытавых сцэн і букетаў. Яна вельмі каштоўна для будучага росквіту нашага народнага мастацтва.

### Вышыўкі.

Вышыўкі „крыжыкамі“ для беларускай этнографіі не зьяўляюцца характэрнымі. Беларускія жанчыны ахватней вышываюць „пад іголку“, „ланцужком“ або „гафтам“. Вышыўка „крыжыкамі“ да другой паловы XIX ст. у нас не сустракалася і цяпер яна пашырана галоўна па гарадох і мястэчках, дзе ўкаранілася дзякуючы дадаткам да газэт і бясплатным прэміям да мыла з рысункамі вышывак „крыжыкамі“.

Найстарэйшы і найбольш да нядаўнага часу пашыраны ў нашым народзе тып вышыўкі быў „пад іголку“. Гэтыя вышыўкі цікавы тым, што вышывальшчыца сама сабе рысуе ўзор на палатне, а пазьней насьцілае яго каляровай ніткай так, каб з чаловай стараны атрымаўся роўны і гладкі ўзор.

Вышываньне „ланцужком“ дае больш багатыя, а часам нават высака мастацкія композыцыі. Шыецца, закідаючы наперад нітку і прадзяваючы іголку ў пяцельку перш закінутай ніткі. Шыцьцё гэтае лёгкае і вельмі ўдзячнае з орнамэнтацыйнага боку, бо дае магчымасьць адтварыць любую задуманую композыцыю, адным ці некалькімі колерамі, але вымагае значнага ўменьня рысунку.

Найлягчэйшае і найбольш пашыранае апошнімі часамі вышываньне „гафтам“, ці як расійцы кажуць „гладью“. Адмен гэтага тыпу вышывак вельмі многа. Найлягчэйшае тэхніка-вышываньне на палатне геомэтрычных васьміканечных зорак (шыюць пераважна чырвонымі і цёмна-сінімі ніткамі) і квадрацікаў і г. п.

Даўней сярод мяшчанства Беларусі было пашырана вышываньне выпуклым гафтам, залатымі і сярэбранымі ніткамі. Паасобныя прыклады гэтых вышывак сустракаюцца на чапцох у вясковых жанок. Гэты спосаб вышываньня вымагае вялікай працавітасьці, значнага ўменьня рысунку і навытаранай рукі; апошнімі часамі ён ужо зусім зьнікае.

### Анталяжы, карункі і фарботы.

Анталяжамі называюць белыя ценкія пляцёнкі, якія служаць да абшываньня бялізны, чапцоў і інш. (расійск.: кружева); карункамі і

фарботамі называюць пляцёнкі, якія служаць да аздобы вопратак, ручнікоў, кап на ложкі і г. п., пры гэтым фарботы розьняцца ад карунак махрыстымі брыжамі. Прыкладам росшыўка ў наўлечцы—карунковая, але такая-ж самая, капа на ложка, якая абшыта карункай з кутасікамі будзе ўжо—*фарботнай* карункай, а калі яна ня белая, а каляровая, то—запраўдная фарбота.

Беларускае анталяжніцтва ў XVIII ст. шырака славілася і вывозілася заграніцу. Закуплялі іх заграніцу на Зэльвенскім і Мірскім кірмашох. Галоўны цэнтр беларускага анталяжніцтва знаходзіўся ў Меншчыне ў аколіцы мястэчка Любонічы. Паводле народнай традыцыі анталяжніцкае ўмецтва было тут пашырана стараньнем каралевы Боны, якая была родам з Італіі, жыла ў XVI ст. Анталяжніцтва ў гэтых аколіцах пашырана і да апошніх часоў, але ня маючы рынку збыту абслугоўвае толькі дамовыя патрэбы саміх анталяжніц і іх сямей. Цікава адзначыць, што Любанецкія анталяжніцы ўжываюць дагэтуль, замест мэталёвых шпіляк, шпілі дзікай грушы. Любонічы ў мініўшчыне станавілі каралеўскую маетнасьць, часьць сялян гэтай маетнасьці замест прыгону і грашовых павіннасьцяй павінна была выплятаць для каралеўскага двара анталяжы. Другі асяродак беларускага анталяжніцтва быў таксама ў каралеўскай маетнасьці ў ваколіцах Пружан (Горадзеншчына). Ці было гэткіх цэнтраў болей—нам не вядома. У кожным разе гэтае ўмецтва датуецца даўнымі часамі, мае час свайго росквіту і жыве дагэтуль. Зьбіраньне прыкладаў гэтага ўмецтва для краязнаўчых музэяў абавязкова, бо яно мае яшчэ і практычнае значэньне, а ласьне—магчыма што гэтае ўмецтва адродзіцца і закрасуе нанова, у новых варунках вольнага народнага жыцьця.

Тэхнічных спосабаў вырабу карунак і фарботаў вельмі многа; сустракаюцца на Беларусі вельмі цікавыя адмены гэтага ўмецтва, пасунутыя да мастацкай дасканальнасьці, але гэтая галіна найменш яшчэ дасьледвана. Разрост краязнаўчых музэяў і іх дасьледчай працы ў будучым многа высьветляць, але пакуль што можна напэўна даць адну засьцярогу мала напрактыкаваным зьбірачом—быць асьцярожнымі пры збіраньні карунак робленых кручком, бо часта іх узор бывае запазычаны з якога-колечы дадатку для дам да часопісу, або з прэміі да пахучага мыла і нічога супольнага ня мае ні з народам ні з мастацтвам наогул.

### Ганчарныя вырабы.

Ганчарства—адно з найстарадаўнейшых і найбольш распашыраных умецтваў. Тэхнічная абасноўка сучаснага нашага гончарства мясцамі вельмі прымітыўная, ня гледзячы на тое, што некалькі тысяч чалавек у сучаснай Савецкай Беларусі кормяцца з гэтага рамясла. Аднак, пры ўсёй адсталасьці ў нас ганчарнай тэхнікі, нашы ганчары вызначаюцца навытараннасьцю ў сваім рамясьле, прыкладам пры фармаваньні ад рукі судзіны, да чаго патрэбны вялікі навык у руках і воку, пры гэтым пры выкружваньньні памераў і форм выказуюць высокае мастацкае пачуцьцё. Апаленьне гаршкоў таксама не стаіць на патрэбнай вышыні, дзякуючы дапатопнай конструкцыі пячэй. Паліва на гаршкох нявысокай вартасьці. Новачасная тэхніка сюды яшчэ не прыпасавана. Ня гледзячы на гэта нашы ганчары, асабліва больш здольныя з іх, умеюць даць паліву цікавых форм, орнамэнту і размалёўкі. Здараюцца паасобнікі ганчарных вырабаў высокай мастацкай вартасьці. Ганчарны аддзел у краязнаўчым музэі, побач з палівай

абыднай, павінен мець таксама мастацкія вырабы, якія, разумеецца, каб адшукаць, трэба больш палажыць працы, але гэтае жывое народнае ўмецтва, трэба ня толькі зьбіраць але і дасканаліць яго, выстаўляючы на паказ найлепшыя вырабы на відным месцы ў музэі.

### Вырабы з мэталяў.

Кавальства—умецтва жывое і ўсюды пашыранае. З гэтай адмены народных вырабаў бываюць цікавы жалезныя акоўкі дзьвярэй, куфраў, скрынь, завесы, замкі, ключы, лучнікі, ліхтары да сьвечак, крыжы і інш.

Аддзел кавальскіх вырабаў, пры некаторым высілку зьбірачоў, можа ў паасобных мясцох даць надзвычайна цікавыя колекцыі, бо нашы кавалі любілі і любяць час ад часу выкаваць што-колечы мастацкае, або хітрае. І па клецях у гаспадароў, між усякім жалезным ломам, можна знайсьці не адну жалезіну, якая заслужыла пачэснага месца ў кожным музэі.

З медзі здараюцца конаўкі, жбаны, бронза да збруі, гузікі мясцовага вырабу і ўсялякая іншая цікавая дробязь. Мядзянымі і бронзавымі вырабамі славіліся даўней у нас мястэчкі Мір, Несьвіж, Лужкі (Дзісенск. пав.), а таксама Капысь і Раслаўль. Пры манастырох у Полацку, Пінску і інш. адлівалі мэдалікі і абразкі. У Вільні, Горадні і Магілеве выраблялі лыжкі і начыньні да стала, а таксама бляхі („люстры“) да насьценных сьвечнікаў.

Побач медзі і бронзы гарадзкія майстры, немаль ва ўсіх гарадох і большых мястэчках займаліся вырабамі з цыны і волава рэчаў хатняга ўжытку, цацак і аздоб.

З серабра дагэтуль у многіх ваколіцах сяляне ўмеюць адліваць пярсьцёнкі, выробляць завушніцы і мэдалікі рэлігійнага і забабоннага зьместу (амулеты або кудмяні). На зьбіраньне ўсіх гэтых рэчаў павінна быць зьвернута належная ўвага.

### Вопраткі.

У вопратцы, як і ў кожнай іншай рэчы, якая мае стычнасьць з народным мастацтвам, трэба зьвяртаць увагу выключна на месца вырабу рэчы і яе самабытнасьць. Прыкладам сьвітка мясцовага, краю і шыцьця мае вагу і каштоўнасьць для музэю, але гарнітур пашыты ў гарадзкога краўца, паводле агульна-эўропейскага фасону, ці куплены на кірмашы ў мястэчку ня мае ніякай цаны для музэю. Гэтак сама абы-як скроены і сасьцёбаны каптан няўмелай рукой ня можа быць прыняты за об'ект музэйнага значэньня. І наадварот мясцовага крою і шыцьця фасон сьвіткі тым больш каштоўны для музэю, чым багацей і лепш ён аздоблены. Тонкае мастацкае пачуцьцё—найлепшы пры гэтым кіраўнік і дарадчык зьбірача і этнографа. Як у шыцьці, так у музэі найбольш цэніцца краса, хараство. Умецтва выказанае пры выкананьні рэчы, культурныя традыцыі або асабісты мастацкі замысел, гэта ёсьць вартасьці годныя ўвагі і захаваньня для патомнасьці дзеля падзіву і навукі.

З вопратак трэба зьбіраць:

1) Жаночыя і мужчынскія кашулі дамовага вырабу з тканымі а таксама вышыванымі ўзорамі.

2) Спадніцы, андаракі, панявы.

3) Горсэцікі (дэкольтэ, без рукавоў да стану), кіцялькі (дэколь-

тэ, без рукавоў, не да стану), тарацэйкі (кофта да стану з рукавамі і каўняром).

4) Фартухі з вытыканымі на іх ромбічнымі і кручкавымі ўкрасамі.

5) Мужчынскія шапкі дамовага шыцьця асабліва „аглаблястыя“, „аблывухія“, і „магеркі“, а таксама жоночыя чапцы, наміткі і інш.

6) Сьвіткі, насовы, зіпуны, бурносы, кажухі мясцовага крою і шыцьця.

### Дзіцячыя цацкі.

Дзіцячыя цацкі з усякага матар'ялу трэба зьбіраць у музэй, калі яны характэрны для данай ваколіцы або маюць мастацкую вартасьць.

### Вырабы з бярosты.

З бяросты яшчэ ня так даўно выраблялі на Беларусі табакеркі, салёнкі, кубышкі да складаньня дробных рэчаў, шкатулкі і рамкі да абразоў, прычым існаваў асобнага характару традыцыйны орнамэнт, які быў стасаваны да бяросты, вельмі цікавы і орыгінальны, а часам нязвычайна мастацкі. Гэты бяроставы орнамэнт меў нейкі свой уласны канон і традыцыі і, мабыць падобна драўлянаму орнамэнту і тканіннаму быў адгалоскам тысячалетняй культуры.

### Маляваньне па дрэве.

Маляваньне па дрэве ўзораў алейнымі фарбамі пашырана на куфрах, скрынях, дугах і некаторых мэблях. Зазвычай бывае гэтае маляваньне выкавана дзьвюма-трымя фарбамі і найчасьцей малююцца кветкі, але ў паасобных выпадках сустракаюцца на малюнках будынкі і людзі. Зарысоўка гэтых малюнкаў фарбамі ў выпадках, калі нельга атрымаць у музэй самога орыгіналу, ёсьць абавязкова патрэбна.

### Зьвёзды і Батлейкі.

Старасьвецкія людзі любілі ўсялякія тэатральныя паказы, але старасьветчына тэатраў ня знала, замест сучаснага тэатру паказвалі лялькавы тэатр, у якім лялькі рухаліся ў скрынцы—сцэне, а за іх гаварыў чалавек, які парушаў лялькі. Мясцамі гэтыя лялькавыя тэатры, якія завуцца „Батлейкамі“, яшчэ ў нас маглі захавацца. Яны цікавы і каштоўны об'ект для музэяў, бо маюць і культурнае і гістарычнае значэньне.

Да нядаўна хадзілі ў нас на Коляды са „зьвездой“ і гэтыя „зьвёзды“ таксама цікава мець у музэях.

### Саламяныя „павукі“.

Выплятаньне з саломы ня толькі хатніх украс, але нават царкоўных іконастасаў і вянцоў было ў нас значна пашырана. З гэтай адмены народных вырабаў цікавы саламяныя „павукі“, якія, для аздобы хат, любяць яшчэ дагэтуль нашы дзяўчаты вырабляць. Яны павінны знайсьці сабе месца ў музэі побач з выклеенымі фарбаванай саломай шкатулкамі і інш. дробнымі рэчамі.

### Н а б о й к і.

Набойкі даўней былі ў нас усюды звыклымі, цяпер выціснуты яны фабрычнымі вырабамі. Але ў кублох запасьлівых гаспадынь можна яшчэ дзе-ні-дзе знайсьці адну-другую тканіну аздобленую набойка-

вымі аздобамі. Гэтую зышоўшую ўжо са сцэны адмену народнага мастацтва трэба па магчымасьці сабраць і захаваць у нашых краязнаўчых музэях.

---

Ніводная програма ня можа пералічыць і апісаць усіх тых рэчаў, на якіх адбілася народная творчасьць, гэтая—як і кожная іншая програма—служыць толькі паказчыкам галоўных шляхоў, па якіх павінна ісьці зьбіраньне этнографічных рэчаў у краязнаўчыя музэі.

Буржуазны падыход да народнага мастацтва, які імкнуўся ў этнографічных музэях народную культуру паказаць толькі тапорнымі і бяздарнымі рэчамі, каб падкрэсьліць някультурнасьць народных мас, даўно ўжо асуджаны навукай. Заданьнем музэяў нашай пролетарскай краіны ёсьць выказаць народную кемнасьць у кожнай галіне культуры і даць лепшыя прыклады рэчаў, зробленых мазалістымі рукамі рабочых і сялян Беларусі.

---

Проф. Ф. В. Лунгерсгаўзен.

# Програма

## для вывучэньня падземных вод Беларусі і ўмоў яе вясковага вадазабесьпячэньня.

Хоць вывучэньне прыроды, якая нас абкружае і яе прыродных вытворчых сіл павінна было-б, здавалася, больш за ўсё прыцягваць краязнаўцу, жыцьцё паказвае якраз адваротнае—краязнаўца, звычайна, менш за ўсё аддае ўвагі якраз прыроднанавуковым досьледам. Галоўная прычына гэтаму тая, што краязнаўца лічыць вывучэньне прыроды задачаю, якая яму не пад сілу... Між тым можна паказаць ня мала прыкладаў, калі пры невялікай траце часу і працы, пры самай невялікай навуковай падрыхтоўцы, з адным толькі добрым жаданьнем, можна значна дапамагчы справе вывучэньня краю. Якраз такое пастаўленае намі пытаньне. Запаўненьне даданых да гэтага апытальных лістоў ня будзе вымагаць ад краязнаўца якіх-небудзь асаблівых ведаў; просты селянін здолее даць адказ на большасьць прапанованых пытаньняў. Між тым атрыманыя весткі будуць сабраны з розных куткоў нашай краіны і, згуртаваныя ў руках спэцыяліста, набудуць важны сэнс і значэньне.

Хоць гэта, можа, і дзіўна на першы пагляд, але ў нашай Беларусі, якая так багата рэкамі, вазёрамі і балотамі, знойдзецца ня мала вёсак, якім не хапае добрай пітной вады. У адных мясцох сяляне, надаўгад капаючы калодзеж, так і не знаходзяць патрэбнай ім вады і дарэмна трацяць на гэтую справу час, сілу і сродкі. У іншых выпадках калодзежная вада зьяўляецца дрэннаю і нягоднаю для ўжываньня чалавекам. Іншы раз ваду прыходзіцца насіць або нават прывозіць здалёк, браць яе, скажам, у нізіне з копанкі ў той час як паселішча распаложана на вяршыне ўзгорыстай грады... Словам, з вадою ў нас ня ўсюды і не заўсёды добра. Дык вось паведамленьні з месц дазваляюць зрабіць поўны падлік воднай гаспадаркі нашай краіны, высьветліць характар заляганьня грунтавых вод, іх надзейнасьць і ўмовы іх эксплёатацыі. Шляхам такога папярэдняга азнаямленьня з прыроднымі і бытавымі ўмовамі воднай гаспадаркі Беларусі, шляхам высьвятленьня ступені незабясьпечанасьці вадою асобных паселішчаў, можна будзе падыйсьці да разьвязаньня практычнага пытаньня—плянавых мерапрыемстваў да палепшаньня сялянскага вадазабесьпячэньня. Бясспрэчна, будуць атрыманы і весткі аб тых ці іншых мінэральных крыніцах, пакуль што невядомых, якія могуць быць пасьля спэцыяльна дасьледваны.

Водная гаспадарка іншых краін была вывучана шляхам доўгачасных і дарагіх экспэдыцый, тут гэтую падрыхтоўчую працу можна будзе зрабіць сіламі краязнаўцаў хутка і ня трацячы асаблівых сродкаў.

Але надасланыя з месц весткі могуць мець і шырэйшае навуко-

вае значэньне. Трэба адзначыць, што геолёгічнае дасьледваньне Беларусі сустракае шэраг вельмі сур'ёзных перашкод. Справа ў тым, што ў нас усюды шмат знаходзіцца так званых пасьлятрацічных (ледавіковых і пасьляледавіковых) адлажэньняў, якія дасягаюць у нас вялізарнай магутнасьці і складаныя па сваёй будове. Паміж тым якраз вось гэтыя адлажэньні зьяўляюцца ў навуцы найменш вывучанымі, і пытаньні, зьвязаныя з імі, найбольш цёмнымі і спрэчнымі. Тлумачыцца гэты факт, перш за ўсё, тым, што пасьлятрацічныя адлажэньні надзвычайна аднастайны сваімі знадворнымі адзнакамі—усё больш пяскі ды гліны—і ў той самы час надзвычайна разнастайны сваім пахаджэньнем і ўмовамі заляганьня. У дадатак у нас вельмі рэдка трапляюцца прыродныя агаленьні—аўрагі сустракаюцца ня часта, даліны часьцей за ўсё мелкія і бакі іх задзірванелі—такім чынам геолёг траціць шмат часу на дарэмнае шуканьне патрэбнага яму агаленьня. Пры гэтых умовах зьяўляецца бязумоўная патрэба ў так званых штучных разрэзах або агаленьнях. Але выведныя сьвердлавыя дзіравіны абходзяцца дорага, імі можна карыстацца толькі ў выключных выпадках. Застаюцца, воляй-няволяй, калодзежы. Кожны сьвежа выкапаны калодзеж зьяўляцца як-бы архіўным докумэнтам, які можа асьвятліць гісторыю і будову мясцовасьці. Паміж тым, недзе ў пасёлку або на хутары выкапалі такі калодзеж, вышаў ён няўдалым—яго засыпалі зямлёю, дае ён ваду,—зрабілі зруб і—справа скончана. Докумэнт для геолёгіі краю прапаў назаўсёды. Калі-ж краязнаўца сваечасова спусьціцца ў такі калодзеж, запіша парадак пройдзеных парод і магутнасьць (таўшчыню) кожнай з іх, возьме ўзоры кожнага слою, то докумэнт гэты зможа быць скарыстаны навукаю [1]).

Падробныя даныя, калі яны сабраны з розных месц Беларусі, у значнай меры палягчаюць яе вывучэньне. Нам прыходзіцца вельмі раіць краязнаўцу агляд *кожнага* сьвежага колодзежа і даць аб ім неабходныя весткі.

Першы наш апытальны ліст [2]) закранае агульную характарыстыку данай мясцовасьці і яе воднай гаспадаркі.

Другі апытальны ліст закранае ўжо асобныя калодзежы. Калі ў паселішчы ёсьць некалькі калодзежаў, распаложаных у нізіне, на скаце ўзгорку, на вяршыне яго, то краязнаўца можа выбраць для кожнай катэгорыі калодзежаў адзін больш тыповы і абмежавацца яго апісаньнем згодна ліста № 2. Прамер калодзежаў робіцца рулеткаю. Калі яе няма, то мелкі калодзеж мераюць жэрдкаю, разьмечанаю на дэцымэтры і сантымэтры.

Калодзеж глыбокі вымяраюць або разьмечанаю (вузламі) вяроўкаю, на канцы якой прывязаны камень, або вымяраюць вяроўку, на якой спускаюць вядро, ці вочап.

Іншыя прапанованыя пытаньні не патрабуюць асаблівых тлумачэньняў. Большасьць вестак зьбіраецца праз распытваньне насельніцтва і, перш за ўсё, гаспадароў калодзежа.

---

[1]) Калі ўзоры сабраны, то дакладнае азначэньне іх зробіць пасьля спэцыяліст. Самы разрэз трэба схэматычна зарысаваць. Для школьнага-ж або (краязнаўчага) музэю можна прыгатаваць навочную модэль разрэзу такім спосабам. Бяруць дошчачку, і адпаведна парадку слаёў, якія наглядаліся, і іх магутнасьці, наклейваюць на яе ўзоры парод. Збоку-ж, на прыклеенай роўналежна разрэзу папяровай палосцы, робяць адпаведныя надпісы. Або бяруць вузкую даўгаватую скрыначку, робяць перагародкі, насыпаюць, адпаведна натуральнаму разрэзу, узоры і зашкляюць скрынку.

[2]) Даданыя апытальныя лісты пагоджаны ў агульных рысах з анкетамі Расійскага Гідролёгічнага Інстытуту.

## Апытальны ліст № 1.

1. Месцаназіраньня:
акруга
раён
сельсавет

2. Лік двароў у паселішчы, колькасьць насельніцтва

3. Месца, на якім распаложана паселішча: каля ракі, возера, балота, лагчыны...

У нізіне, на ўзвышшы, на вадападзеле...

4. Агульны характар наўкольнай мясцовасьці: мясцовасьць роўная ці ярыстая, раўнінная, слаба ўзгоркавая, моцна ўзгоркавая . . . Глеба наўкол глiністая, пяшчаная, камяністая . . . . мясцовасьць балоцістая, лясістая, стэпавая...

### 5. Крыніцы вадазабесьпячэньня.

а) Ці карыстаецца насельніцтва вадою з ракі, ручая, возера...

б) Ці карыстаецца насельніцтва *сажалкаю* (вада трымаецца ў адгароджанай грэбляю часьці якой-небудзь лагчыны), ці выкапанаю сажалкаю, або капанкамі. Калі так, то дзе распаложаны гэтыя вадаёмы—на краі паселішча, у сярэдзіне, дзе-небудзь яшчэ, наколькі вадаёмы багаты вадаю (паведаміць аб разьмерах капанкі і глыбіні вады ў ёй), якая вада—чыстая, мутная, аддае чым-небудзь, ня мае паху,— для якой мэты выкарыстоўваюцца гэтыя вадаёмы.

в) Ці карыстаецца насельніцтва крыніцамі.

г) Ці карыстаецца насельніцтва калодзежамі.

6. Нарысавацъ (вокамерна) плян распалажэньня калодзежаў у паселічшы.

7. Даць аб калодзежах і крыніцах паселішча такія агульныя весткі:

а) Лік калодзежаў у даным пункце: усяго . . . . . . . з іх для агульнага карыстаньня . . . . . . і прыватных . . .

б) Колькі калодзежаў: у нізіне . . . . . . . . . . . . . ; на схіле . . . . . . . ; на гары . . . . . .

в) З якога слою глебы (лёэса, пяску, пясковай гліны, жарствы, жвіру, вапняку і г. д.) вада ў калодзежах: у нізіне . . . . . . ; на схіле . . . . . . . ; на гары . . . . . .

г) Якасьць вады: безкаляровая ці з колерам; сьветлая ці заўсёды мутная, аддае чым-небудзь ці ня мае ніякага паху, мяккая (мылкая) ці жорсткая (нямылкая) у калодзежах: у нізіне . . . . . . .; на схіле . . . . . . . .; на гары . . . . . .

д) У якіх месяцах году наглядаецца больш за ўсё вады ў калодзежах: у нізіне . . . . . . . . .; на схіле . . . . .; на гары . . . . . . .;

е) У якіх месяцах году наглядаецца больш за ўсё вады ў калодзежах: у нізіне . . . . . . . . .; на схіле . . . . .; на гары . . . . . .

э) Ці не наглядалася поўнае вычэрпваньне вады ў калодзежах, у якім годзе, у якую пару году і з якіх калодзежаў; у нізіне . . . . . . . ; на схіле . . . . . .; на гары . . . . . . . . .

ё) Ці няма вестак аб асабліва высокім ўздыме вады ў калодзежах: у якім годзе і ў якім месяцы гэта наглядалася ў калодзежах, распаложаных: у нізіне . . . . . .; на схіле . . . . . . .; на гары . . . . . .;

ж) Ці няма вестак аб асабліва нізкім стаяньні вады ў калодзежах, ці перасыханьні іх зусім; у якім годзе і ў якім месяцы гэта наглядалася ў калодзежах, распаложаных: у нізіне . . . . . . .; на схіле . . . . . . . . .; на гары . . . . . . .

дж) Ці ёсьць у ваколіцы крыніцы і дзе яны знаходзяцца (назва ракі, яру, даліны ці іншага ўрочышча) . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

з) Характар крыніц (многаводныя, сярэднія, слабыя, чуць заметныя, густа ці рэдка распаложаны).

дз) Якасьць крынічнай вады: (чыстая, мутная, аддае чым-небудзь, нічым ня пахне, мяккая (мылкая), жорсткая (нямылкая).

і) У якія месяцы году крыніцы звычайна даюць асабліва шмат вады . . . . . . . . .

й) У якія месяцы году ў крыніцах звычайна мала вады . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

к) Ці няма вестак аб асабліва вялікай колькасьці вады ў крыніцах; у якім годзе і ў якім месяцы гэта наглядалася . . . . . . . . . . . . . . . .

л) Ці няма вестак аб надзвычайным абядненьні ці аб зьнікненьні крыніц, у якім годзе і ў якім месцы гэта наглядалася . . . . . . . . . . і аб зьяўленьні іх зноў . . . . . . .

8. Наколькі паказаныя крыніцы вадазабесьпячэньня лёгка *даступны* для карыстаньня (іх аддаленасьць ад жылых будынкаў, стромасьць спуску і г. д.).

9. Ці не забруджаны гэтыя крыніцы сточнымі водамі, вадапоем жывёлы, якой-небудзь фабрыкай . . . . . . . .

10. Ці забясьпечана паселішча добраю пітною вадою, а таксама вадою для гаспадарчых патрэб, на выпадак пажару і г. д.

11. Якія патрэбы заўважваюцца ў мясцовым вадазабесьпячэньні.

12. Якія-небудзь заўвагі назіральніка.

13. Год, месяц і числo.

14. Імя, па бацьку і прозьвішча назіральніка.

---

## Апытальны ліст № 2.

(Служыць, як сказана, для апісаньня паасобнага калодзежа па выбару назіральніка).

1. Дакладнае месцазнаходжаньне калодзежа (паселішча, вуліца).

2. Назва калодзежа (або прозьвішча гаспадара).

3. Палажэньне рэльефу адносна рэльефу (на беразе, на схіле, на вяршыне ўзгорку, на вадападзеле).

4. Палажэньне калодзежа ў адносінах да бліжэйшага прыроднага вадаёму—ракі, возера, балота.

5. Калі выкапаны калодзеж.

6. Якія слаі, якой магутнасьці (таўшчыні) і ў якім парадку былі пройдзены, як капалі калодзеж*).

*) Калі калодзеж капаецца—запісаць разрэз падрабязна і ўзяць узоры. Калі калодзеж стары—запісаць разрэз, распытаўшыся ў тых, хто ведае.

7. З якога слою прыцякае вада ў калодзеж (з пяску, жвіру, грубой гліны з каменем).

8. Ці не наглядалася выдзяленьня газаў, як капалі калодзеж.

9. Якія пароды (лёэс, пясок, чырвона-бурая гліна) аголены (у калдобінах, ямах, капанках) у бліжэйшай ваколіцы калодзежа.

10. Глыбіня калодзежа ад верхняга краю зрубу да дна.

11. Глыбіня калодзежа ад верхняга краю зрубу да вады.

12. Глыбіня вады ў калодзежы.

13. Вышыня зрубу (ад верхняга яго краю да паверхні зямлі).

14. Шырыня зрубу (сьвятла).

15. Матар'ял зрубу (дзерава, простая бочка, бэтон . . . .)

16. Стан зрубу (сьвежы, гнілы . . . .).

17. Ці ёсьць стрэшка над калодзежам.

18. Ці ёсьць прылады для даставаньня вады (калаўрот, помпа, журавель).

19. Ці ёсьць прылады для вадапою жывёлы.

20. Калодзеж для агульнага ўжываньня ці прыватны.

21. Ці ёсьць пры калодзежы агульнае вядро, ці кожны чэрпае сваім вядром.

22. Ці зручна пад'яжджаць да калодзежа.

23. Колькі двароў і колькі насельнікаў карыстаюцца калодзежам.

24. Колькі буйнай і дробнай жывёлы карыстаецца калодзежам.

25. Колькі вядзёр вады (прыблізна) ужываецца ў суткі.

26. Ці карыстаюцца калодзежам круглы год ці толькі ў пэўную пару (калі).

27. Ці замярзае (або прамярзае) вада ў калодзежы.

28. Ці не забруджваецца калодзеж сточнымі водамі.

29. Ці не наглядаецца выпадкаў пагоршаньня вады (пэрыодычна, на доўгі час).

30. Ці ачышчаецца калодзеж і калі.

31. Калі калодзеж (чысьцячы) вычэрпвалі да дна, то колькі вядзёр вады было вычарпана.

32. Ці не наглядалася прыбываньня і ўбываньня вады ў калодзежы па порах году. Калі так, то:

а) у якую пару году (месяц і чысло) вада стаіць найвышэй,

б) у якую пару году (месяц і чысло) вада стаіць найніжэй.

33. Ці не наглядалася прыбываньня і ўбываньня вады ў калодзежы ў сувязі з павышэньнем і паніжэньнем узроўню вады ў бліжэйшай рацэ.

34. Якасьць вады ў калодзежы. Вада бяз колеру ці мае колер, аддае чым-небудзь ці ня мае ніякага паху, прыемная на смак ці не, жорсткая (нямылкая) ці мяккая (мылкая), мутная ці чыстая *).

35. Год, месяц і чысло, калі калодзеж вымяраўся і апісваўся.

36. Якія-небудзь дадатковыя заўвагі аб калодзежы.

37. Імя, па бацьку, прозьвішча і адрас назіральніка.

---

Запоўненыя (можна і паводле распытаных вестак) лісты належыць перадаць у мясцовае краязнаўчае т-ва для накіраваньня ў ЦБК пры Інбелкульце.

---

*) Калі ў ваколіцы паселішча або ў ім самым ёсьць крыніцы, то, апрача вестак, якія вымагаюцца лістом № 1, належыць адзначыць для больш выдатных з іх: характар іх выносу (пясок, глей) і адлажэньняў—бурыя жалезістыя нацёкі, белы глей (мергель)...

Абавязкова трэба адзначыць, калі ёсьць крыніцы, якія карыстаюцца ў насельніцтва якой-небудзь асабліваю славаю—крыніцы лекавыя і іншыя. Калі з ёю зьвязаны якія-небудзь паданьні, забабоны—адзначыць іх.

**А. Шлюбскі.**

# Вывучэньне друкаваньня тканіны.

На працягу другой паловы XIX ст. на абшарах амаль што ўсёй этнографічнай Беларусі знаходзім друкаваньне на сялянскім палатне асобнымі формамі розных малюнкаў, якое ў большасьці называецца „набойкай“.

Аб ужываньні набойкі на Беларусі знаходзім даныя ў расійскай мясцовай літаратуры. Закранута гэтае пытаньне і ў беларускай этнографічнай літаратуры брошурамі І. Фурмана (Крашаніна, Віцебск, 1925), Ал. Шлюбскага (крашаніна-набіванка. Віцебск, 1926), артыкулам Зьм. Даўгялы (Крашаніна, набойка і выбойка, „Наш Край“, 1926, № 6-7) і шэрагам крытычных артыкулаў на памянёныя працы, якія зьмешчаны ў кругабежных беларускіх і зарубежных выданьнях.

Усімі асобамі, якія дакрануліся пытаньня аб друкаваньні тканіны, была адзначана сваячаснасьць дакладнага вывучэньня гэтага цікавага віду народнага мастацтва, чаго ня зроблена да самага апошняга часу ні ў нас, ні на Украіне, ні на Маскоўшчыне, на тэрыторыі якіх таксама ў свой час было шырака распаўсюджана друкаваньне тканіны.

Гэтаму вывучэньню ў сучасны мамант спрыяе тое, што на вёсцы яшчэ можна знайсьці людзей, якія ня толькі добра помняць друкаваньне тканіны, але якія маюць як тканіну з надрукованымі на ёй рознымі малюнкамі накшталт гарошку, расьлін, кветак, птушак, геомэтрычных фігур і ліній і г. д., так і самыя драўляныя формы, пры дапамозе якіх і адбывалася самае друкаваньне.

Пры вывучэньні друкаваньня тканіны на Беларусі найбольш важнымі пытаньнямі зьяўляюцца:

1. Выясьненьне тэрмінолёгіі гэтага рамяства, бо яму ў нашай літаратуры рознымі асобамі даюцца розныя назовы.

2. Месца вырабу саміх дошак, якімі друкавалася тканіна; паводле некаторых даных, яны прывозіліся з Цьвярской губэрні; ёсьць намёкі, пакуль што вельмі слабыя, на тое, што дошкі гэтыя выраблялісь незалежна ад вялікарускіх саматужнікаў у некаторых месцах на Беларусі, як, напр., на Меншчыне або на Віцебшчыне.

Дакладнае ўстанаўленьне апошняга мае значнасьць пры высьвятленьні беларускасьці саміх орнамэнтаў, узораў і г. д.

3. Сабраць як-мага больш адбіткаў з дошак.

Пытаньні, адносна друкаваньня тканіны, па якіх Фольклёрная камісія Інстытуту Беларускае Культуры просіць прыслаць адказы, як краязнаўчыя організацыі, так і паасобных краязнаўчых деячоў, наступныя:

1. Ці ўжывалася ў данай мясцовасьці друкаваньне малюнкаў па афарбаваным палатне („набойка“).?

2. У якіх іншых мясцовасьцях існавала друкаваньне тканіны?

3. Дакладная назова гэтага рамяства (друкаваньне тканіны, набойка, выбойка, крашаніна, сіненьне і г. д.)

4. Час узьнікеньня гэтага рамяства ў данай мясцовасьці; з якога часу яно спынілася.

5. Прычыны зьнішчэньня друкаваньня тканіны.

6. Адкуль запазычана рамяство (дзе, калі, ад каго навучыліся друкаваньню тканіны; нацыянальнасьць адных і другіх).



Узор набойкі Смаленскай Беларусі, якая захоўваецца ў Дзяржаўным Музэі.

7. Рямяство шырылася асобамі мясцовымі ці вандроўцамі (адкуль яны, іх нацыянальнасьці і г. д.).

8. Формы для друкаваньня выраблялiся на месцы (кім, дзе, калі) ці прывозіліся (адкуль, кім)?

9. Апісаць мэтод афарбоўкі і друкаваньне тканіны (і ўсе прылады зьвязаныя з гэтым рамяством).

10. Прызначэньне тканіны, на якой былі надрукаваны малюнкі (на якую яна ішла вопратку і г. д.).

11. Якія ў данай мясцовасьці малюнкі найбольш ужываліся (гарошкі, кветкі, птушкі, лініі і г. д.).

12. Раён збыту надрукованага матар'ялу.

13. Друкаваньне малюнкаў на старадаўняй тканіне.

14. „Набоечные", крашанінныя цэхі. (Докумэнты аб іх і іх пячаткі).

15. Даць як-мага больш адбіткаў ці зарысовак з дошак, якімі друкавалася тканіна; можна сабраць і самую надрукаваную тканіну.

16. Якія погляды, паданьні, прыказкі і звычаі зьвязаны з гэтым рамяством, друкаванай тканінай і вопраткай з яе.

---

# ХРОНІКА.

## Усім краязнаўчым організацыям БССР.

Пытаньне аб вывучэньні асаблівасьцяй беларускіх і суседніх пераходных гаворак зьяўляецца аднэй з чарговых краязнаўчых задач. Вырашэньню гэтага пытаньня краязнаўчым організацыям, як нельга лепш дапамогуць выпушчаныя Аддзелам Мовы і Літаратуры Інбелкульту програмы для зьбіраньня асаблівасьцяй беларускіх гаворак, апрацаваныя С. Некрашэвічам і П. Бузуком. Дасылаючы 10 экз. памянёных програм, ЦБК прапануе краязнаўчым організацыям унесьці вывучэньне гэтага пытаньня ў плян чарговай працы організацый на васеньні—зімні пэрыод дзеля чаго: а) уважліва азнаёміцца з зьместам і вымаганьнямі програм, б) выдзеліць са складу краязнаўчага таварыства спэцыяльную асобу (выкладчыка мовы ў сямігодцы ці іншага спэцыяліста) дзеля накіраваньня справы ў раёне, в) разьмеркаваць програмы сярод асоб, зацікаўленых вывучэньнем гэтага пытаньня ў раёне з такім разьлікам, каб былі ахоплены ўсе часткі раёну; сьпісы асоб, якім даручана гэтая праца, прыслаць ЦБК, г) праінструктаваць выдзеленых асоб і прасачыць за дакладным выкананьнем імі працы і прадстаўленьнем запоўненых програм не пазьней 1 мая 1928 г.

ЦБК спадзяецца, што ўсе краязнаўчыя організацыі аднясуцца з належнай увагай да выкананьня гэтай справы.

Нам. Старшыні ЦБК—А Казак.
Нав. Сакратар—М. Касьпяровіч.

## Усім раённым таварыствам краязнаўства БССР.

З пачаткам новага акадэмічнага году павінна ажывіцца і дзейнасьць раённых таварystваў краязнаўства. У першую чаргу трэба зьвярнуць асаблівую ўвагу на популярызацыю краязнаўства сярод насельніцтва. Для гэтага, апрача організацыі спэцыяльных сходаў, неабходна скарыстаць усе сходы, якія толькі адбываюцца ў раёне для дакладаў аб краязнаўстве. Неабходна зараз-жа перайсьці на новы статут, апублікаваны ў „Нашым Краі". Адначасна трэба організаваць, або наладзіць працу ўжо існуючых школьных гурткоў краязнаўства і прыцягнуць да краязнаўчай працы комсамольцаў і членаў профэсіянальных саюзаў і сялян.

Плянавая праца раённага таварыства краязнаўства ў дасьледчым кірунку павінна складаюцца з працы ўсіх членаў па ўсебаковым апісаньні раёну, прычым кожны член павінен рабіць працу, да якой ён больш падрыхтаваны і ў якой больш зацікаўлены. Вывучаючы раён, трэба зьбіраць і раённы музэй. Адсутнасьць памяшканьня зараз не выключае магчымасьці назапашваньня музэйных матар'ялаў і організацыі з іх часовых выставак на пэўныя тэмы, агульнаю—працаю для ўсіх членаў, як і зьбіраньне музэю, будзе ўкладаньне бібліографіі раёну.

Асабліва важнымі працамі ў справе вывучэньня раёну, якія праводзяцца ў рэспубліканскім маштабе зьяўляюцца наступныя: укладаньне археолёгічнай карты раёну, паводле ўказаньняў, надр. у Працах II Краязнаўчага Зьезду, фэнолёгічныя нагляданьні ў межах раёну, запаўненьне програмы апісаньня асаблівасьцяй гутарак і програмы па санітарным дасьледаваньні вёскі. Для гэтых прац, якія павінны выконвацца і быць абавязкова выкананымі на працягу году далучаюцца распачатыя летась: апісаньне паселішч, выпраўленьне націскаў у географічных назвах, зьбіраньне фольклёру, укладаньне карты помнікаў прыроды, укладаньне маршрутаў для экскурсій, запаўненьня анкет ЦБК аб працы краязнаўцаў за 10 год і мэтэоролёгічныя нагляданьні.

Цэнтральнае Бюро Краязнаўства спадзяецца, што ўсе гэтыя моманты будуць улічаны Праўленьнем Т-ва пры плянаваньні і разьмеркаваньні працы і чакае інформацыі аб іх у „Нашым Краі" і наогул у друку.

П. п Нам Старшыні ЦБК Казак А.
Нав. Сакратар ЦБК Касьпяровіч М.

## Дзейнасьць ЦБК.

*(Па протоколах пасяджэньняў).*

**Пасяджэньне 14 красавіка 1927 г.**

Заслухан даклад т. Аляксандрава аб выніках яго камандыроўкі ў Барысаўшчыну і Магілеўшчыну. Разгледжана пытаньне аб скліканьні агульна-гарадзкой краязнаўчай конфэрэнцыі. Пастаноўлена-даручыць студэнц-

кай камісіі. ЦБК склікаць менскую агульна-гарудзкую студэнцкую конфэрэнцыю, а Менскаму Акруговаму Т-ву Краязнаўства і школьна-краязнаўчай камісіі ЦБК даручыць склікаць агульна-гарадзкую вучнёўскую краязнаўчую конфэрэнцыю. Апрача гэтага вынесена пастанова—рэкомэндаваць усім акруговым т-вам краязнаўства наладзіць у маі месяцы такія самыя конфэрэнцыі.

**Пасяджэньне 23 мая.**

Разглядаліся пытаньні: 1) аб падліку краязнаўчай літаратуры, якая зьявілася на Беларусі за час 1917-27 г.—даклад т. Касьпяровіча; 2) прыкладны плян працы раённага Т-ва Краязнаўства—даручана т. Аляксандраву і т. Шашалевічу ўкласьці кароткі плян дзейнасьці райтаварыства; 3) протоколы пасяджэньняў усіх акруговых т-ваў.

**Пасяджэньне 28 мая.**

Заслухан даклад т. Шашалевіча аб прыкладным пляне працы раённага т-ва краязнаўства. Заслухан інформацыйны даклад т. Шашалевіча аб інструкцыйнай літаратуры па краязнаўству, якая ёсьць у распараджэньні ЦБК і якую неабходна набыць. На пасяджэньні вылучаны прадстаўнікі ад ЦБК на курсы райпіонэрпрацаўнікоў—т. Касьпяровіча і для абслугоўваньня экскурсій настаўнікаў—т. Аляксандраў. Інструктарам краязнаўства пры ЦБК залічан т. Жураўскі заместа т. Атраховіча, які падаў заяву аб выхадзе яго са складу ЦБК.

**Пасяджэньне 20 чэрвеня.**

Разгледжана пытаньне аб падліку краязнаўчай працы на Беларусі за час з 1917-27 год (даклад т. Касьпяровіча) і зацьверджана форма падлікавай карткі, якая разаслана па раёнах. Другім пытаньнем было пытаньне аб працы школьна-краязнаўчае камісіі ЦБК і аб выкладаньні краязнаўства ў асьветных установах. Са складу ЦБК вылучаны т. Жураўскі ў школьна-краязнаўчую камісію і мэтодолёгічны камітэт НКА для вырашэньня пытаньня аб выкладаньні краязнаўства.

На пасяджэньні вылучана цэнтральная фэнолёгічная камісія ў складзе старшыні т. Макарэўскага, намесьніка т. Зьбіткоўскага і сакратара т. Жураўскага. Вылучаны прадстаўніком у камісію па хатніх рамёствах т. Касьпяровіч для ўдзелу ў працы камітэту па організацыі ўсесаюзнай выстаўкі.

У мэтах популярызацыі краязнаўства пры дапамозе радыё і кіно даручана т. Казаку дагаварыцца з радыёстанцыяй аб цыкле лекцый па краязнаўству. Урэшце заслухан даклад т. Касьпяровіча аб выніках камандыроўкі яго ў Віцебшчыну. Т. Касьпяровіч азнаёміўся з працаю Віцебскага Акруговага Т-ва Краязнаўства, Горацкага і Езярышчанскага раённых т-ваў. Праца Езярышчанскага т-ва пераважна зьбіральніцкая праца. Горацкае т-ва зрабіла значную працу—сабрана больш 200 нумароў фольклёру, розныя архэолёгічныя знахадкі, сабраны матар'ялы па вывучэньні прамысловасьці, складзена бібліотэчка мэтодычнай краязнаўчай літаратуры і г. д. Праца Віцебскага Акруг. Т-ва значна разгарнулася. Кожная сэкцыя т-ва мае адпаведныя матар'ялы, як вынікі свае працы.

**Пасяджэньне 30 чэрвеня.**

Зацьверджаны расклад лекцый па краязнаўству на радыёстанцыі. Намечана 10 лекцый за час з 24/VI па 26/8. Тэмы: 1. Краязнаўчыя экскурсіі і вандраваньні; 2. Асьветнае краязнаўства; 3. Як рабіць краязнаўчае дасьледваньне; 4. Краязнаўчая праца сялян, рабочых і чырвонаармейцаў; 5. Як зьбіраць краязнаўчыя матар'ялы; 6. Што можна ўбачыць у Менскім музэі; 7. „Наш Край" і яго чытачы; 8. Краязнаўчая вечарына: сьпеў, казка, дэклямацыя; 9. Падрыхтоўка да выставак у „Дзень ураджаю" і 10. Як організаваць мясцовы музэй. Лектарамі вылучаны: Касьпяровіч, Аляксандраў, Ластоўскі, Жураўскі, Шашалевіч.

Заслуханы даклад дырэктара Беларускага Дзяржаўнага Музэю т. Ластоўскага аб узаемаадносінах Дзяржаўных Музэяў з мясцовымі краязнаўчымі музэямі. Прызнана мэтазгодным абмен экспонатамі паміж Дзяржаўным і Краязнаўчымі музэямі. Даручана т. т. Ластоўскаму і Касьпяровічу скласьці на імя НКА дакладную запіску аб неабходнасьці організацыі Інстытуту практыкантаў у Белдзяржмузэі.

Вынесена пастанова аб удзеле краязнаўчых організацый у выпраўленьні і апрацоўцы адміністрацыйна-гаспадарчай карты БССР.

Даручана т. Аляксандраву ўкласьці плян працы школьна-краязнаўчай камісіі на 27/28 год, а т. Жураўскаму плян працы студэнцкай камісіі на той-жа тэрмін.

**Пасяджэньне 17 жніўня.**

Заслухан даклад т. Аляксандрава аб экспэдыцыі па вывучэньні м.-ка Нароўлі Мазырскай акругі. Экспэдыцыя наладжана яўрэйскім аддзелам ІБК. Праведзена экономічнае і санітарна-гігіенічнае абсьледваньне, сабраны матар'ялы па гісторыі, дыялектолёгіі і фольклёры мястэчка.

Заслухана інформацыя т. Даўкшы аб дасьледваньні польскага насяленьня Асіпавіцкага раёну.

Прынята пастанова аб самым актыўным удзеле краязнаўчых організацый у правядзеньні сьвяткаваньня юбілею кастрычнікавай рэволюцыі і аб скарыстаньні раённых настаўніцкіх конфэрэнцый у мэтах популярызацыі краязнаўчай працы.

**Пасяджэньне 2 верасьня.**

Заслуханы даклад сакратаря Менскага Акруговага Т-ва Краязнаўства аб працы азначанага т-ва. Організацыйная праца т-ва больш-менш наладжана. З раёнамі існуе сталая пісьмовая сувязь. Цэнтрам увагі т-ва ў су-

часны момант зьяўляецца організацыя акругавага краязнаўчага музэю. Другім чарговым заданьнем ёсьць падрыхтоўка зборніка „Меншчына“. І „экскурсійнага дарадніка“ па Менску. Прынята пастанова: 1) паставіць пытаньне перад мясцовымі савецкімі ўстановамі аб унясеньні ў каштарыс з наступнага году сродкаў на выданьне зьборніка „Меншчына“ і „Дарадніка па Менску“; 2) Паслаць на раённыя настаўніцкія конфэрэнцыі прадстаўнікоў праўленьня т-ва; 3) правесьці не пазьней лістапада акруговую краязнаўчую конфэрэнцыю; 4) у пачатку навуковага году правесьці спэцыяльны асьветніцкі сход па пытаньнях краязнаўства і г. д.

Па пытаньні аб Мазырскай акр. краязн. конфэрэнцыі і кразнаўчай працы ў Гомельшчыне прынята пастанова аб камандыраваньні ў Гомельшчыну т. Шашалевіча, а на Мазырскую акруговую конфэрэнцыю паслаць т. Казака.

**Пасяджэньне 12 верасьня.**

Заслухана інформацыя т. Касьпяровіча аб выніках яго замежнай камандыроўкі (у Фінляндыю).

Вынікі камандыроўкі будуць апрацаваны і зьмешчаны ў друку.

Зацьверджаны плян кастрычнікаўскага нумару „Нашага Краю“.

У плян краязнаўчай працы на мясцох, згодна прапанове дыялектолёгічнай камісіі, унесена вывучэньне асаблівасьцяй мясцовых беларускіх гутарак. Прынята пастанова аб рассылцы краязнаўчым організацыям 1000 экз. „програм для апісаньня асаблівасьцяй гутарак“ з просьбай адказаць на запытаньні.

**Пасяджэньне 14 верасьня.**

(Аб'яднанае пасяджэньне ЦБК і фэнолёгічнай камісіі ЦБК).

Заслухан даклад т. Жураўскага аб програме фэнолёгічных нагляданьняў. Па дакладу прынята пастанова: у аснову ўзяць програму Расійскага Т-ва аматараў сьветазнаўства, даручыць фэнкамісіі ЦБК ўнесьці неабходныя зьмены і даць яе на зацьвярджэньне ЦБК. Прызнана неабходным заснаваць на Беларусі ня менш 100 фэнпунктаў для гэтага надрукаваць 4000 блянкаў першапачатковых паведамленьняў і 600 блянкаў абагульненьняў. Усе абагульненьні фэннагляданьняў за мінулы час, якія апрацаваны камісіяй, надрукаваць як дадатак да „Нашага Краю“. Даручыць т. Зьбіткоўскаму зрабіць апісаньне і малюнкі фэноб'ектаў і пасьля разгляду іх у камісіі зьмясьціць усё гэта ў „Нашым Краі“. Даручыць камісіі падрыхтаваць абежнік аб фэнолёгічных нагляданьнях у сямігодках і прасіць НКА разаслаць яго па школах і апублікаваць у часопісе „Асьвета“.

## Плян працы ЦБК на 1927/28 г.

### 1. Організацыйныя пытаньні.

1. Дапамагчы разгортваньню краязнаўчага руху на мясцох з такім разьлікам, каб у выніку ў кожным раёне было адно дзейнае райтаварыства і 2-3 дзейных краязнаўчых гурткі.

2. Прыняць належныя меры да організацыі і наладжаньня працы школьна-краязнаўчых гурткоў; зьвярнуць асаблівую ўвагу на наладжаньне справы ў тэхнікумах і Вузах; падняць пытаньне аб заснаваньні ў Вузах катэдры краязнаўства.

3. Перавесьці краязнаўчыя організацыі на новыя статуты.

4. Надаць плянавасьць працы сэкцый ЦБК: а) Студэнцкай, б) Школьнай, в) Яўрэйскай і Польскай.

5. Наладзіць сетку фэнпунктаў.

6. Падрыхтавацца да сьвята 10-годзьдзя Кастрычнікавае Рэволюцыі: выпусьціць спэцыяльны нумар „Нашага Краю“; запрапанаваць краязнаўчым організацыям на мясцох скарыстаць выстаўкі ў часы сьвяткаваньня для заснаваньня раённых краязнаўчых музэяў.

7. Склікаць два пленумы ЦБК: адзін ў восень для накіраваньня справы, а другі вясною для падагульненьня.

8. Дапамагчы правядзеньню акруговых і раённых краязнаўчых конфэрэнцый.

9. Скарыстоўваць раённыя настаўніцкія конфэрэнцыі для популярызацыі і пашырэньня краязнаўчай справы.

10. Камандыраваць свайго прадстаўніка на Ўсерасійскую Конфэрэнцыю Краязнаўства ў сьнежні бягучага году.

11. Узмацніць популярызацыю краязнаўчай справы сярод шырокіх працоўных мас і асабліва комсамольцаў.

12. Вывучыць пытаньне аб організацыі краязнаўчых гурткоў пры хатах-чытальнях, рабочых клюбах і Чырвонай Арміі.

13. Практыкаваць прынцып ударнасьці ў справе вывучэньня паасобных раёнаў кожнай акругі.

14. Увесьці як вопыт членства грамадзкіх і дзяржаўных устаноў у краязнаўчых аб'яднаньнях.

15. Дапамагаць працы сэкцый і камісій Інбелкульту шляхам зьбіраньня праз краязнаўчыя організацыі навуковых вестак і матар'ялаў.

16. Організаваць сетку членаў-корэспондэнтаў ЦБК.

17. Зьвярнуць асаблівую ўвагу на організацыйнае аформленьне краязнаўчай працы па Гомельшчыне ў мэтах пабудаваньня яе па агульна-беларускім прынцыпе.

18. Організаваць цыкль лекцый для краязнаўцаў і настаўнікаў як у Менску, так і на мясцох, з мэтай падрыхтоўкі сталых краязнаўцаў і кіраўнікоў вучнёўскіх і рабочых экскурсій.

### 2. Краязнаўчая праца.

19. Апрацаваць праз адпаведныя камісіі анкеты па вывучэньні экономікі, гаспадаркі і этнографіі. Вызначаць элемэнтарныя віды краязнаўчай працы сярод рабочых, сялян, моладзі, чырвонаармейцаў.

20. Зьмяшчаць у пэрыодычным друку мэтодычныя артыкулы па краязнаўству, захаваўшы за „Нашым Краем“ кіруючую ролю ў гэтым напрамку.

21. Унесьці ў плян працы краязнаўчых організацый вывучэньне і дасьледваньне наступных пытаньняў: а) зьбіраньне фольклёру, б) укладаньне археолёгічнай карты, в) фэнолёгічныя і мэтэоролёгічныя назіраньні, г) складаньне монографій паселішч, д) зьбіраньне слоў для слоўніка па Калінішчыне і Мазыршчыне, е) запаўненьне програм па вывучэньні асаблівасьцяй мовы, ж) выпраўленьне нацiскаў у назвах мясцовых паселішч для географічнай карты, з) вывучэньне помнікаў прыроды.

22. Дапамагаць навукова-дасьледчай працы мясцовых краязнаўчых організацый асабліва ў справе вывучэньня раёнаў, якія дасьледуюцца ў парадку ўдарнасьці, даўшы прыкладны плян працы раённага т-ва ў раёне.

23. Камандыраваць інструктароў ЦБК для абследваньня і накіраваньня справы ўва ўсе акруговыя і палову раённых таварыстваў краязнаўства.

24. Наладзіць пры ЦБК стала справу па апрацоўцы фэнолёгічных назіраньняў, а таксама праверыць як вядзецца апрацоўка краязнаўчых матар'ялаў у камісіях і сэкцыях ІБК.

25. Праверыць склад навукова-краязнаўчых організацый і скончыць падлік працы мясцовых краязнаўцаў і выявіць актыў.

26. Укласьці пры дапамозе Беларускай Дзяржаўнай Бібліотэкі і выдаць краязнаўчую бібліографію Беларусі.

27. З дапамогай краязнаўчых організацый і адпаведных установ працягваць працу па ўкладаньні пуцяводніка БССР.

28. Прыняць меры да заснаваньня сувязі краязнаўчых організацый з навуковымі ўстановамі БССР, а таксама з ворганамі статыстыкі і эконом нарадамі.

29. Прыняць меры да організацыі Ўсебеларускага Цэнтру па экскурсійнай справе; дапамагаць розным організацыям і інстытуцыям ў справе організацыі экскурсій, наладзіць экскурсійную працу мясцовых організацый.

### 3. Выдавецкая справа.

30. Выдаць 10 нумароў часопісу „Наш Край“, зьмячшчаючы кіраўнічыя мэтодычныя і мясцовыя матар'ялы, зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на зьмяшчэньне матар'ялу па гісторыі рэволюцыйнага руху на Беларусі.

31. Надаць пэўную плянавасьць у зьмест часопісу „Наш Край“.

32. Прыняць меры да пашырэньня падпіскі на час. „Наш Край“.

33. Працягнуць выданьне апісаньня Асіпавіцкага раёну.

34. Дапамагаць выданьню мясцовых краязнаўчых зборнікаў і матар'ялаў.

## Краязнаўчае Навукова-Дасьледчае Т-ва БДУ.

Краязнаўчае Навукова-Дасьледчае Таварыства БДУ зусім яшчэ маладая організацыя, якая аформілася аканчальна толькі ў 1926/27 акадэмічным годзе.

Таварыства БДУ ставіць перад сабой шэраг задач; галоўная з іх гэта ўсебаковае вывучэньне сваёй краіны—Беларусі праз зьбіраньне краязнаўчага матар'ялу індывідуальна, а таксама шляхам экспэдыцый, экскурсій і г. д.

Другая мэта—гэта навукова-дасьледчая распрацоўка ўжо сабраных матар'ялаў.

Трэцяя мэта—гэта падрыхтаваць са студэнцтва сваіх навуковых з краязнаўчым ухілам працаўнікоў, даць ім магчымасьць самастойна выявіць сябе практычна ў навуковым кірунку.

Пры наяўнасьці навуковых, культурных сіл характар працы Т-ва розьніцца ад умоў іншых краязнаўчых організацый: ёсьць магчымасьць разгарнуць і дасьледчую працу па краязнаўству і разам правесьці практычную працу. Галоўнай задачай Т-ва зьяўляецца аб'яднаць навакол сябе ўсю навуковую думку лепшай часткі студэнцтва і ў сваю чаргу даць студэнцтву новы цікавы зьмест працы (грамадзкага характару). Апрача грамадзкага значэньня краязнаўчая дзейнасьць задавальняе культурна-асьветныя патрэбы студэнцкай моладзі шляхам навукова-дасьледчых экспэдыцый, экскурсій, камандыровак і навукова-дасьледчае самастойнае працы. Вось чаму цяпер, калі мяняюцца напрамкі грамадзкай і культурна-асьветнай працы сярод студэнцтва ва Унівэрсытэце, і калі цьвёрда вызначаюцца навучальна-акадэмічныя пляны, набывае, вялікае значэньне новая і вельмі важная краязнаўчая навуковая організацыя ў БДУ. Гэта організацыя павінна быць інстытутам для вылучэньня новых працаўнікоў у далейшай навукова-дасьледчай працы. Тут ёсьць усе магчымыя ўмовы для творчай працы, карыснай як для грамадзкасьці Беларусі, так і для кожнага студэнта.

У працы т-ва ёсьць два пэрыоды—гэта зімовы і летні. Асабліва прыходзіцца адзначыць летні пэрыод, у часы канікул, калі праводзіцца зьбіраньне як індывідуальна, гэтак сама і колектыўна (экспэдыцыі) markrознага матар'алу. У зімовы час магчыма толькі распрацоўка сабранага ўжо матар'ялу і наогул тэорэтычна-дасьледчая праца.

Спыняючыся на перашкодах, якія не давалі як трэба разгарнуць працу, неабходна адзначыць—позьні пачатак працы. Віну трэба часткова ўскласьці на Выканбюро, якое не дапамагала ў жаданьні студэнцтва аб'яднацца ў Таварыства. Падругае прыходзілася вучыцца як працаваць, як весьці навукова-дасьледчую краязнаўчую працу, хаця Таварыству і была крыху пратораная сьцежка, гэта студэнцкія краязнаўчыя гурткі, якія ор-

ганізаваліся ў 1924-25 г., але ня былі арганізацыйна афармлены.

У 1925/26 годзе ўжо было організавана Краязнаўчае Т-ва, але ад працы яго не засталося ніякіх сьлядоў.

Мы сустрэліся яшчэ з аднэй перашкодай, гэта пасыўнасьць у першыя часы да краязнаўства студэнцкіх мас, якія былі перагружаны акадэмічнай працай. Прыходзілася праводзіць сярод студэнцтва кампанію, рабіць на сходах інформацыі, каб растлумачыць мэты і задачы Краязнаўчага Таварыства.

Ня спрыяе працы і тое, што ў Т-ва няма сродкаў на экспэдыцыі, экскурсіі, літаратуру і г. д. Праўда, у апошні час Праўленьне БДУ пайшло насустрэчу і адпусьціла 300 р. на экспэдыцыю ў Мазыршчыну. Ня спрыяе працы і адсутнасьць памяшканьня, што будзе асабліва перашкаджаць пры організацыі Краязнаўчага Музэю.

Дрэнна на працы адбіваецца перагружанасьць актыўных членаў Праўленьня Таварыства іншай грамадзкай працай, асабліва трэба адзначыць перагружанасьць сяброў КП(б)Б, якія, пры ўсім сваім жаданьні, ня могуць цалкам аддацца краязнаўчай працы.

У першыя часы організацыі Таварыства з боку Выканбюро і іншых організацый ня было дапамогі, зараз-жа мы бачым іншае. Выканбюро, заслухаўшы справаздачу Прэзыдыуму зьмяніла погляд і зараз ёсьць некаторая дапамога, напрыклад, аплата сакратара.

Самае апошняе, што трэба адзначыць— гэта няўвязка нашае працы з вучэбнымі плянамі, асабліва гэта адбіваецца на некаторых сэкцыях, напрыклад Культурна-Гістарычнай, дзе праца ўвесь час вялася пасьля 10-ай гадзіны ў вечары, або ў дзень адпачынку. Гэта няўвязка з агульнымі акадэмічнымі плянамі факультэтаў часта зрывала працу па сэкцыях.

А вось, што зроблена Таварыствам за кароткі тэрмін існаваньня:

Разам з ЦБК быў апрацаваны статут, які цьвёрда вызначае формы і зьмест краязнаўчай працы, і які з невялікімі зьменамі лёг ў аснову для статутаў краязн. т-ва Вышэйшых Навуковых Установ БССР.

Першы орыентовачны плян нашае працы на цэлы год ужо выкананы на 85%. Праведзена перарэгістрацыя былых і новых членаў Таварыства. На 1/IX—26 г. налічвалася 70 чалавек, а зараз мы налічваем 171 чалавек; з іх мужчын - 132, жанчын—39. Па факультэтах: Мэдфак—35, Праўгас—17, Пэдфак—119. Па партыйнасьці: сяброў і кандыдатаў КП(б)Б.—16, КСМ—29 Гэты лік людзей на 50% пасыўна адносіцца да працы, і толькі 50% працуюць і будуць працаваць. І тут прыдзецца больш уважліва адносіцца да прыёму новых членаў Таварыства, можа нават прыдзецца прымаць толькі з рэкомэндацыяй як профэсуры, гэтак сама і таварышоў, членаў нашага Таварыства, якія яго лепш ведаюць.

Далей, Прыэздыум дабіўся ўключэньня членаў Таварыства ў экскурсіі, наладжаныя ў Выканбюро ў Ленінград і Маскву. Дзякуючы гэтаму пасланыя таварышы азнаёміліся з Краязнаўчымі організацыямі і іх працай у Вышэйшых Навучальных Установах Масквы і Ленінграду.

У далейшым Т-ва будзе дабівацца ўключэньня сваіх сяброў у экскурсіі, якія наладжывае Праўленьне БДУ або Выканбюро.

У чэрвені мес. г. г. адбылася экспэдыцыя ў Тураўскі раён, Мазырскае акругі*).

Дасьледваньне Тураўскага раёну праходзіла ў напрамку культурна-гістарычным, соцыяльна-экономічным і інш. Здабытыя матар'ялы будуць часткаю застаўлены ў Раённым Таварыстве—маючыя мясцовае значэньне, а маючыя агульна-дзяржаўнае значэньне— па належнасьці. Матар'ялы, здабытыя экспэдыцыяй, лягуць у аснову нашага Краязнаўчага Музэю.

Праца Таварыства популярызуецца ў друку. Некалькі заметак было надрукавана ў газэтах, а таксама і ў насьценных газэтах у БДУ, як напрыклад у „Кузьні Асьветы" і інш. Гэтай галінай кіруе высунуты Праўленьнем Таварыства адпаведны таварыш.

Хаця плян працы выкананы Та-вам на 85%, але шмат чаго карыснага Прэзыдыум Праўленьня ня змог правесьці ў жыцьцё. Пры складаньні пляну працы было намечана правесьці не адну экспэдыцыю, а нават тры— дзьве далёкіх і адну ў падшэфны БДУ Сельскі Раён. На справе была зроблена толькі адна з прычыны адсутнасьці сродкаў.

Усёй працай Таварыства, кіруе Праўленьне, у ліку 12 чалавек, з іх два кандыдаты. З профэсуры ў Праўленьне Таварыства ўваходзяць: Проф. *Пічэта У. І.*, *В. Д. Друшчыц*, *М. Т. Блюдухо*, і *А. Сянкевіч*. З студэнцтва: *Марук*, *Аніхоўскі*, *Густыр*, *Бараноўскі*, *Улашчык*, *Вернаў*, *Макарэвіч* і *Шутаў*. Для вядзеньня бягучай справы вылучаны Прэзыдыум у складзе: Старшыні— *У. І. Пічэта*, Нам. Старшыні—*Марука*, *Сянкевіча* і *Аніхоўскага*, Сакратара т. *Вернава*. Кандыдатамі—*Густыр* і *Бараноўскі*.

Кожны сябра Праўленьня Таварыства нясе абавязкі, ускладзеныя на яго Праўленьнем Таварыства. Уся організацыйная праца ўскладзена на т. т. *Марука* і *Вернава*. Для сувязі з ЦБК вылучаны т. *Аніхоўскі*, *Бараноўскі* і *Улашчык*. Прадстаўнікі ЦБК бываюць на сходах т-ва. Організацыйна-прапагандыцкая галіна ўскладзена на т. *Макарэвіча*, наогул, а па факультэтах; па Пэдфаку—

---

*) Аб выніках экспэдыцыі будуць друкавацца артыкулы ў чарговых нумарох „Н. К.". грошы, патрэбныя на правядзеньне экспэдыцыі дало частку Праўленьне БДУ і частку Мазырскае Акруговае Таварыства Краязнаўства. Экспэдыцыя мае агульнадзяржаўнае значэньне. У працы экспэдыцыі прымалі ўдзел усе сэкцыі, кожная сэкцыя вылучыла сваіх членаў, якія праводзілі працу па аддзельных галінах.

т. *Пшанічны*, Мэдфаку—*Бараноўскі*, Праўгасу—т. *Густыр*. Трэба адзначыць, што гэтая праца, асабліва на Пэдфаку і Праўгасе пастаўлена добра.

Профэсура ў працы прымае ўдзел, але трэба адзначыць, што ня ўсе ў аднолькавай меры. Студэнцкія організацыі ў працы бадай што ня прымаюць ніякага ўдзелу. Нават на пасяджэньнях Таварыства, калі іх запрашаюць, бываюць вельмі рэдка.

З лістапада месяца было праведзена пасяджэньняў Праўленьня 8 і 3 агульных сходы членаў Краязнаўчага Таварыства. Пытаньняў усяго было разгледжана 38. На агульных сходах разглядалі пытаньні больш організацыйнага характару, і быў зроблены даклад т. *Касьпяровічам;* на тэму: „Краязнаўства і студэнцтва".

Галоўная мэта Праўленьня Прэзыдыуму Таварыства—гэта кіраваць працай, для чаго на пасяджэньнях заслухоўваліся справаздачы сэкцый, апрача гэтага разглядаліся пытаньні організацыйнага характару і пытаньні, якія маюць дачыненьне да наладжваньня экспэдыцый.

Уся навукова-дасьледчая праца праводзіцца па сэкцыях і камісіях. Усіх сэкцый пяць: Мэдычная, Культурна-Гістарычная, Соцыяльна-Экономічная, Прыродазнаўча-Географічная і Яўрэйская. Гэтыя сэкцыі ўзьніклі ня разам, а паступова. Больш старэйшымі сэкцыямі магчыма лічыць Мэдычную і Культурна-Гістарычную. Самыя маладыя сэкцыі, якія зьявіліся пазьней, гэта Прыродазнаўча-Географічная і Яўрэйская. Некаторыя сэкцыі прыдзецца рэорганізаваць, бо без наяўнасьці кіруючага пэрсоналу сэкцыя ня можа разгарнуць шырака працу. Больш моцныя сэкцыі патрапілі знайсьці правільны мэтод, зьмест і формы ў сваёй працы. Кожнай сэкцыяй кіруе Бюро з 3 асоб, пад ідэёвым кіраўніцтвам спэцыялістых—профэсуры і выкладчыкаў. Больш моцнаю зьяўляецца *Мэдычная сэкцыя*, якая налічвае 35 чалавек; з іх мужчын—31, ж анчын—4. Мэдычная сэкцыя знайшла зьмест і форму сваёй працы. Усе даклады, якія заслухоўваліся на пасяджэньнях сэкцыі, зьяўляюцца жыцьцёвымі, а некаторыя маюць навуковую вартасьць. Да гэтага часу праведзена 8 пасяджэньняў; з іх 4 пасяджэньні Бюро і 4 сходу сэкцый. Пытаньняў на Бюро разгледжана 12. На сходах сэкцый—8-з іх—2 організацыйных і 2 даклады ў выхаваўчай галіне; адзін—членам Мэдычнай сэкцыі Інбелкульту, д-рам *Трамповічам* на тэму: „Мэты і задачы Мэдсэкцыі ў краязнаўчай працы" і другі даклад членам Мэдсэкцыі *І. І. Цьвікевічам* на тэму: „Мэты Мэдсэкцыі і краязнаўчая праца". Апрача таго, сэкцыя мае дасягненьні ў галіне творчай працы, Зроблена сябрамі сэкцыі некалькі дакладаў дасьледча-навуковых—*Т. Гарбачом*: „Як і чым лечыцца наша вёска". Даклад надрукаваны ў часопісе „Мэдычная думка". Т. *Бярылам*: „Вальляк па Менску" з садакладам т. *Андрэева*: „Вальляк на Віцебшчыне і Аршаншчыне". т. т. *Лагуном і Тамковічам* праведзена дасьледчая праца: „Санітарна-гігіенічны досьлед Асіпавіцкага раёну", т. *Бараноўскім*: „Санітарна-гігенічны досьлед Ісэрнскага С-С на Случчыне" і яго-ж: „Як адбіліся хваробы на народнай творчасьці", т. *Андрэева*: „Лекавыя травы на Беларусі і іх ужытак у народнай мэдыцыне". Зроблена некалькі мэтодычных дакладаў: „Як весьці працу ўлетку".

**Культурна-гістарычная сэкцыя.** Налічвае 54 асобы; з іх мужчын—42, жанчын—12. Сэкцыя працуе пад кіраўніцтвам дац. *В. Д. Друшчыца*. Да гэтага часу адбылося пасяджэньняў 7. Пытаньняў разгледжана 11. З іх організацыйнага характару 6. У працы сэкцыі назіраліся часам хібы, рабіліся даклады, якія зусім былі няцікавы для членаў сэкцыі. Гэтак сама памылкай Бюро сэкцыі было тое, што позна была выдзелена Фольклёрна-дыялектолёгічная камісія, для кіраўніцтва якой у БДУ ёсьць належныя навуковыя сілы. З дасьледчых дакладаў на пасяджэньнях заслухана: т. *Улашчыка*—*„Дасьледваньне цячэньня ракі Сьвіслачы"*, *„Аб раскопках у Заслаўі"*, т. *Александровіча*: *„Гісторыя Маладняка"*, т. *Потэса*: *„Гісторыя міліцыі і гісторыя крымінальнага вышуку"*, т. *Юрашевіча*: *„Баталейка ў Менску"*. Усе гэтыя даклады ў большасьці будуць надрукаванымі. Сэкцыя падзялілася на дзьве камісіі: Культурна-Гістарычную і Фольклёрна-Дыялектолёгічную, з кіраўніком у апошняй проф. *Бузуком*. Камісіі павінны зрабіць шмат чаго, яны павінны шырака разгарнуць працу, бо маюць моцных кіраўнікоў.

**Соцыяльна-экономічная сэкцыя** мае 25 чалавек; з іх мужчын—24, а жанчын—1. Па факультэтах падзяляецца: Праўгас—17, Пэдфак—8. Організацыя сэкцыі ў восень даручана т. *Густыру*, але працу сэкцыя распачала ў другім сэмэстры. Зараз магчыма адзначыць, што праца, згодна намечанаму пляну, не разгорнута. Сэкцыя падзялілася на дзьве камісіі: праўную і экономічную. Праўная камісія працу распачала, але гэтая праца абмежавалася двума дакладамі т. *Леванчука*: „Дасьледваньне пахаджэньня слова „гвалт", т. *Янэля*: „Прывілей 1447 г. як крыніца статуту 1529 г."

Экономічная камісія да гэтага часу нічога не зрабіла. У Прэзыдыуму вынікла думка рэорганізаваць некаторыя сэкцыі, у тым ліку Соцыяльна-Экономічную і выдзеліць новыя сэкцыі, як напрыклад Мовы і Літаратуры. Дрэнная праца тлумачыцца непрацаздольнасьцю Бюро, якое ня можа згаварыцца з адпаведнымі спэцыялістымі, каб накіраваць працу ў належнае русла.

**Прыродазнаўча-географічная сэкцыя** налічвае 41 чалавек; з іх мужчын—26, жанчын—15. Праца Прыродазнаўчай сэкцыі зусім розьніцца ад працы іншых сэкцый. Калі

праца іншых сэкцый больш тэорэтычная, дык праца Прыродазнаўчай сэкцыі—практычная. Праца ў гэтай сэкцыі вялася з дазволу Праўленьня БДУ у лябораторыях і габінэтах. Уся праца вядзецца па камісіях якіх пяць: Заолёгічная, Батанічная, Біолёгічная Фізіолёгічная, Геолёгічная, Хімічная. Больш выявіла свой твар гэта Батанічная камісія, якой кіруе доц. *Зьбіткоўскі*, Камісія працу разгарнула.

**Яўрэйская сэкцыя.** Гэта самая маладая сэкцыя, якая толькі організавалася вясною. У сэкцыі налічваецца 16 чалавек; мужчын—9, жанчын—7. Пасяджэньняў сэкцыі было 3. больш разглядаліся пытаньні організацыйнага характару і адно пытаньне мэтодычнанага—доц. *Аляксандрава.* Сэкцыя галоўнай мэтай ставіць вывучэньне быту, мовы і літаратуры яўрэяў на Беларусі. У сучасны час намечаны шэраг дакладаў, якія распрацоўваюцца.

У будучым акадэмічным годзе сэкцыі т-ва з пачатку году павінны разгарнуць сваю працу.

Перш-на-перш т-ва будзе рэгуляваць пытаньне са сходамі. У сёлетнім годзе сходы па сэкцыях праводзіліся бесплянава.

Таксама т-ва мае рэорганізаваць некаторыя сэкцыі і з гэтых выдзеліць новыя, як напрыклад Мовы і Літаратуры, для якой ёсьць адпаведныя кіраўнікі. Побач з гэтым мае быць паглыблена тэорэтычна-дасьледчая праца па ўсіх галінах навукі.

## Конфэрэнцыя выкладчыкаў грамадазнаўства пры БДУ.

11—14 верасьня г. г. адбылася Ўсебеларуская конфэрэнцыя выкладчыкаў грамадазнаўства сямілетак і тэхнікумаў, якая была склікана па ініцыятыве Бел. Дзярж. Унівэрсытэту. Конфэрэнцыя заслухала шэраг дакладаў, прысьвечаных пытаньням мэтодыкі грамадазнаўства, распрацоўкі програмы выкладаньня, агляду падручнікаў і г. д. З дакладаў адзначаем тыя, якія былі прысьвечаны мэтодыцы грамадазнаўства ў сувязі з краязнаўствам: 1) проф. Д. А. Жарынава—„Краязнаўства і грамадазнаўства"; 2) проф. В. Д. Дружчыца—„Гісторыя Беларусі, як база для краязнаўчага падыходу ў грамадазнаўстве"; 3) Г. С. Аляксандраў—„Элемэнты Яўрэязнаўства ў програме грамадазнаўства". Даклады выклікалі ажыўленыя спрэчкі і сьведчылі аб зацікаўленасьці краязнаўствам сярод масавага настаўніцтва.

## Дзейнасьць Гомельскага Акруговага Т-ва Краязнаўства.

*(З 1/II па 1/VII—1927 г.).*

Першы організацыйны сход Т-ва адбыўся 23 студзеня б. г. ў складзе 10 асоб ініцыятыўнай групы. На гэтым пасяджэньні прынялі статут і вылучылі часовае праўленьне ў складзе 4-х асоб дзеля організацыйнай працы.

2 лютага, на другім сходзе, было залічана ў склад Т-ва 37 асоб; пастаноўлена ўтварыць 5 сэкцый: а) грамадзка-экономічную, б) прыродазнаўча-географічную, в) культурна-гістарычную, г) школьнага краязнаўства і д) яўрэйскай культуры. Былі вызначаны кіраўнікі сэкцый і абабраны дэлегаты на 2-гі Ўсебеларускі Краязнаўчы Зьезд у г. Менску.

7 лютага статут Т-ва быў зарэгістраваны ў Гомельскім Акрвыканкоме.

З 7 лютага па 6 красавіка праведзена 3 пасяджэньні, на якіх абгаворваны розныя пытаньні організацыйнага зьместу, выпрацаваны пляны працы сэкцый, заслуханы даклады дэлегатаў аб II-м Усебелар.-Краязнаўчым Зьезьдзе і падрыхтавана справаздача для агульнага сходу Т-ва.

22 красавіка адбыўся агульны сход т-ва, на якім была заслухана справаздача часовага Праўленьня і абабрана сталае ў складзе 11 асоб і 3-х кандыдатаў і рэвізійная камісія з 3-х асоб 1 кандыдата.

З 22/IV па 1/VII было 3 пасяджэньні т-ва, на якіх рязьмеркаваны абавязкі паміж сябрамі праўленьня і зацьверджаны пляны прац сэкцый. За паказаны пэрыод Праўленьнем і сэкцыямі праведзены наступныя працы: а) распрацаваны інструкцыі для краязнаўчых раённых таварыстваў і гурткоў б) організавана краязнаўчае т-ва Гомельскага раёну, в) распрацаваны інструкцыі і анкеты аб працы па фольклёры, г) зроблены даклад на конфэрэнцыі школьных працаўнікоў 1-ай ступені аб значэньні краязнаўчай працы і аб пастаноўцы яе ў БССР, д) праведзен шэраг гутарак аб працы па краязнаўству на курсах па перападрыхтоўцы вясковых настаўнікаў, е) камандыраваны 1 сябра Т-ва ў Горацкую Сельска-Гаспадарчую Акадэмію дзеля азнаямленьня з організацыяй ботанічнага саду пры Акадэміі, ж) зроблены даклад аб значэньні краязнаўчай працы на зьезьдзе сакратароў ЛКСМБ. Апрача гэтае працы, была зьмешчана ў газэце „Палеская Праўда" некалькі артыкулаў аб краязнаўстве.

Т-ва таксама прыймала ўдзел у экскурсійнай працы, вылучаючы належных кіраўнікоў для розных організацый.

Сродкі т-ва складаліся выключна з сяброўскіх узносаў, якія паступалі несваячасова і ў нязначным ліку. Разам з дапамогай ад Акрана і Акрвыканкому (на дэлегаваньне на зьезды—75 руб.) Праўленьне ўсяго атрымала 170 руб. З іх выданы 121 р. 82 к. і застаецца на 1/VII—б/г.—48 р. 43 к.

Т-ва атрымоўвае наступныя часопісы: 1) „Савецкае Будаўніцтва Белар."; 2) „Наш Край", выд. ЦБК Бел.; 3) „Краеведение" выд. ЦБК РСФСР і 4) „Бюллетень Краеведения" таго-ж выданьня. Апрача таго атрымоўвае бясплатна ад Акад. Наук РСФСР час. „Природа" і працы розных краязнаўчых організацый.

Тэхнічна Т-ва абслугоуваецца канцэлярыяй Акруговай Інспэктуры Народнае Асьветы.

## Рэшткі старасьветчыны.

*(Здабываньне агню ў в. Дамановічах Старобінскага раёну Менскай акр.).*

Слуцкае Краязнаўчае Т-ва с 8 па 22 ліпня гэтага году правяло экскурсію сваіх сяброў на Князь-возера. Экскурсія мае шмат вынікаў, зроблена каля 80 фотографічных здымкаў мясцовай прыроды і быту.

У в. Дамановічах Старобінскага раёну экскурсія занатавала існаваньне цікавага звычаю, зьвязанага яшчэ з паганскай рэлігійнай абраднасьцю. Гэта—здабываньне агню прымітыўным, першабытным спосабам. Звычай зрабіўся ўрачыстасьцю, нейкім надзвычайным сьвятам і праводзіцца ў 25-ты дзень пасьля пасхі—у русальчыну сераду. Здабываньне агню адбываецца ў лесе, адзін раз за тры гады. Для правядзеньня гэтае ўрачыстасьці і зьвязаных з ёю цэрамоній абіраюць самых паважных сталых вяскоўцаў, лікам прыблізна каля 5 асоб (лік неабходна праверыць). Процэдура здабываньня агню складаецца з наступнага: бярэцца ясеневае дрэва, камель яго ўдоўжкі прыблізна сажань, камель павінен быць сухім і расьсякаецца ўдоўжкі на 5 кавалкаў, сэктарамі, канты якіх сходзяцца ў асяродку (неабходна таксама праверыць, на колькі кавалкаў сячэцца ясеневае палена). Пасьля гэтага адзін з пяці кольляў закладаецца як у станок і прымацоўваецца да пнёў, гострым кантам уверх. На прымацаваным вале пасярэдзіне робіцца зарубка-ямка. У гэтую засечку закладаюць другі кол зьверху і пачынаюць, як пілою, цягаць верхні кол па ніжнім, па засечцы. Засечка не дае верхняму калу коўзацца, а накіроўвае рух заўсёды па адным месцы. Гэтую маніпуляцыю праводзяць дзьве асобы. Калі стоміцца першая пара, яе зьмяняе другая і г. д., покуль дрэва не пачне курэць. Зьнізу, на зямлі, падкладаюцца вельмі гаручыя рэчы—сухая трава, бярозавая кара, цэр і г. д.

Удалае здабываньне агню лічыцца адзнакай добрага, урадлівага году. З вялікай радасьцю пасьля гэтага разводзіцца агонь. На вялікі жаль, удзельнікі эксурсіі, якія занатавалі гэта са слоў, не маглі адзначыць тыя сьпевы, словы, размовы, якія вядуцца ў гэты час.

Калі агонь здабудуць, тады кожная сям'я запальвае ясеневую лучыну, якая адколата з іншых ясеневых калоў, і нясе яе да дому, дзе і разводзіцца новы агонь. Перад здабываньнем агню яшчэ напярэдадні гэтага ўсе агні тушацца ў вёсцы, ніхто ня мае права трымаць стары агонь.

Старыя людзі кажуць, што раней агонь здабывалі адзін раз у тры гады, а цяпер кожны год, бо думаюць, што ад гэтага залежыць ураджай. Цяпер гэта здабываньне агню робіцца ня ў лесе, а ў вёсцы.

Удзельнікі экскурсіі не сабралі поўных вестак аб гэтым. Неабходна мясц. таварыству краязнаўства дакладна зьвярнуць увагу на поўнае і непасрэднае вывучэньне гэтага звычаю.

І. Рушкевіч.

## Лепельская краязнаўчая праца.

*(г. Лепель).*

У Лепельскім раёне краязнаўчая праца ў апошні час разгарнута і вядзецца Раённым т-вам Краязнаўства, Праўленьне якога афіцыйна працуе з 18-га красавіка г. г.

Вылучан Прэзыдыум у складзе наступных т. т. Герасімовіч—старшыня, намесьнік яго—Абражэвіч, сакратар і скарбнік Цьвяткоўскі. Т-ва налічвае 50 сталых сяброў.

У сучасны момант Праўленьне Т-ва працуе па галінах:

1. Дадзена паасобным сябром Т-ва заданьне па апісаньні Лепельскага раёну і вядзецца падрыхтоўчая праца па выданьні зборніка „Лепельшчына“.

2. Вядзецца шырокая падрыхтоўка па адчыненьні к сьвяткаваньню 10-ай гадавіны Кастрычн. рэволюцыі раённага Музэю Краязнаўства, які будзе організуючым і накіроўваючым асяродкам працы краязнаўства, адбіваць усе дасягненьні раёну ў цэлым. Ужо ёсьць шмат музэйных экспонатаў, якія адбіваюць жыцьцё раёну.

Райвыканком часткова ідзе насустрэчу Т-ву, абяцаў дапамагаць грашмі на ўтварэньне музэю.

Цяжка стаіць справа з памяшканьнем для музэю, але спадзяемся што Райвыканком і партыйныя організацыі пойдуць насустрэчу Т-ву ў гэтай справе і дадуць належнае памяшканьне, бо музэй патрэбен усяму насельніцтву раёну.

Цьвяткоўскі.

## Краязнаўчыя зарысоўкі:

Краязнаўчы процэс вымагае фіксаваньня об'ектаў дасьледваньня ня толькі ў слоўным апісаньні, але і ў рысунку, фотографіі, карце і. г. д. Па словах Сямёнава Цян-Шанскага ілюстрацыі і карты павінны складаць ня менш паловы краязнаўчае працы. Апрача таго, яны патрэбны ў музэі мясцовай краязнаўчай організацыі.

Адна з першых спроб організаванага зарысоўваньня краю на Віцебшчыне, дала значныя вынікі. Праца адбывалася па трох разьдзелах: слоўнікавыя зарысоўкі, краявідныя і зарысоўкі народнага мастацтва.

У справе збору краёвага слоўніка зарысоўкі маюць вельмі вялікае значэньне: калі трэба азначыць дакладна, што ўласна называе данае слова, дык часамі можна зрабіць гэта толькі рысункамі. Для Віцебскага краёвага слоўніка рабілі зарысоўкі два настаўнікі: Палескі ў Гарадоцкім р. і Сергеенка ў Высачанскім. Былі зраблены зарысоўкі і

інш. асобамі, але яны адзіночныя, і выпадковыя.

*Палескі* прадставіў 105 зарысовак 30 з якіх паказаны тутака на малюнку (7). Зарысоўкі яго паказваюць рэч як такую, або дэталі яе, прычым зроблены настолькі дасканала, што даюць поўнае ўяўленьне прадмету. Да кожнай зарысоўкі дададзена назва яе месца, дзе зроблена зарысоўка, і подпіс, а часамі і цэлыя паясьненьні. Кожная зарысоўка зьмешчана на паасобнай картцы, разьмерам 70×100 *mm.*, што вельмі зручна і дае мажлівасьць клясыфікацыі зарысовак у любым парадку: па альфабэту слоў, па матар'ялу або прызначэньні зарысаваных рэчаў і. г. д. На жаль некаторыя зарысоўкі зроблены сінім атрамантам і, значыць, іх для таго, каб зрабіць клішэ на прадмет апублікаваньня ў друку, трэба перарысоўваць. Не паказаны таксама час зарысоўкі, хоць гэта, праўда, арганізатарамі справы ў той час і не патрабавалася.

*Сяргеенка*—прадставіў 16 зарысовак, з якіх 15 паказаны тутака на малюку (8). Яго зарысоўкі прадстаўляюць рэчы цалкам з паказаньнем дэталяй тут-жа, што ўскладняе малюнак і зьмяншае яго выразнасьць, але дае больш слоў—малюнкаў на 1 зарысоўку. Да таго на некаторых зарысоўках, як у № 1, 2, 5 і інш., быў дадзены яшчэ і фон сьцяны, не паказаны на малюнку. Гэта зусім лішняя дэталь, як № 11 і 13, бясспрэчна не дапамагае ўяўленьню рэчы як такой; зусім другая справа была-б калі-б аўтар меў мэтай паказаць атачэньне прадмету, але яго трэба-б было тады даць больш выразна. Зарысоўкі зроблены таксама па картках, але рознага памеру. Да кожнай дадакай толькі назвы і месца, час зарысоўкі і аўтар зусім не паказаны. Калі-б яны прадстаўляліся ня данаму ўкладальніку Віцебскага Краёвага Слоўніка, які ўсё гэтага ведаў, дык-бы страцілі ад гэтага амаль усю сваю каштоўнасьць. Усе зарысоўкі зроблены адным чорным атрамантам, што павялічае іх практычную вартасьць.

Апрача Палескага і Сяргеенкі, па некалькі слоўнікавых зарысовак зрабілі *Папіч* (Чашніцкі р.), *Шаршнёў* (Сіроцінскі р.), *Аксёнаў* (Сіроцінскі р.) і *Лядзінскі* (Чашніцкі р.), іх рысункі менш дасканалыя, але нагадваюць прадмет, які азначае слова, а, значыць, і дасягаюць мэты. Пры ўсіх ёсьць азначэньні месца зарысоўкі і подпіс.

Краявідныя зарысоўкі рабіліся Е. Мініным у г. Віцебску і Т. Саблікавым у часе геолёгічнай экспэдыцыі проф. Луюгерсгаўзена па Дзьвіне ад Вяліжа да Віцебска.

*Е. Мінін* зрабіў вельмі многа зарысовак Віцебскага краявіду ў сваіх мастацкіх мэтах, ад чаго гэтыя зарысоўкі маюць больш мастацка-краязнаўчы, чым навукова-краязнаўчы характар (мал. 9.) і таму вымыкаюць з поля нашага сёнешняга агляду. Мусім толькі падкрэсьліць, што яны маюць для краязнаўства ня меншае значэньне, чым навукова-краязнаўчыя.

*Т. Саблікаў* зрабіў 28 зарысовак краявіду р. Дзьвіны. Праз некалькі хвілін па павароце экспэдыцыі ў Віцебск Саблікаў раптоўна памёр і таму большасьць яго зарысовак засталіся без канчатковай апрацоўкі. Усё-ж усе яны ў цэлым вельмі дакладна адбіваюць морэнны характар краявіду Дзьвіны (мал. 10 і 11). У гэтым Саблікаў дасягнуў свае мэты, напр., адбіць хараство Дзьвіны, патолькі мы і не павінны прад'яўляць да гэтых зарысовак ніякіх іншых запатрабаваньняў, апрача тых, якія ставіў да іх аўтар. Апошніх ён дасягнуў так дасканала, што зарысоўкі так і просяцца ў мясцовы музэй. Прынамсі нам невядомы ні фотографіі, ні зарысоўкі, якія-б давалі ўласна характар нашай морэны. Зарысоўкі зроблены па паасобных кавалках паперы памерам 178×265 *mm.* і маюць подпісы зарысаваных месц.

Паколькі Саблікаў, як настаўнік, аддаў зарысоўкам свой летні адпачынак і памёр, можна сказаць, у экспэдыцыі мясцовае таварыства краязнаўства павінна-б было паклапаціцца апублікаваньнем яго прац у першую чаргу. Гэта, разам з тым, было-б моральным штурхачом для іншых краязнаўцаў.

Зарысоўкі народнага мастацтва рабілі: Пашкевіч і Азгур у Бешанкавіцкім, Чашніцкім і Сеньненскім р.р., Пузынкевіч—у Лёзьненскім р. і Загароўскі і Мірынгоф—у Вяліскім павеце. Агульнаю хібаю ўсіх гэтых зарысовак зьяўляецца тое, што яны зьмешчаны па некалькі на адным лісту альбому, так што для карыстаньня іх прыходзіцца выразаць, а таксама тое, што ў іх адсутнічае паказаньне месца, часу, назвы і аўтара зарысоўкі.

*Пашкевіч* праставіў 55 зарысовак, з якіх: 2 краявідных накідкі алоўкам; 10 тыпаў алоўкам і 1 акварэль, 2 зарысоўкі алоўкам скульптур сеньненскага касьцёлу; 1 гунька акварэльлю; 5 паяскоў акварэльлю; 4 крашаніны акварэльлю; 24 дойліднага орнамэнту акварэльлю і 6 алоўкам і 1 рэч быту—масьлёнку акварэльлю. Амаль што ўсе яны маюць эскізны, накідачны характар і карыстацца імі можна толькі з вялікаю асьцярожнасьцю, пасьля праверкі. Больш дакладна зроблены замалёўкі паяскоў і крашаніны (мал. 22).

*Азгур*—зрабіў 28 зарысовак, з якіх: 1—Пашкевіча ў Сяньне (аловак), 1—дзяўчыны (каляровы аловак), 2—паяскоў (акварэль) і 1 паяска (аловак), 1—ручніка (акварэль), 4—тканіны (акварэль) і 1 тканіны (аловак), 1—скульптуры Бешанкавіцкага касьцёлу (акварэль) і 1—скульптуры Сеньненскага касьцёлу (аловак), 6—дойліднага орнамэнту (акварель) і 6—яго-ж (аловак) і 3—крашаніны. Характар іх такі-ж накідачны, як і ў Пашкевіча, а значыць і каштоўнасьць нявысокая. Зноў-жа і тут здавальняюча зроблены зарысоўкі паяскоў і крашаніны (мал. 22).

Апрача гэтых, Пашкевічам і Азгурам зроблены больш дасканалыя зарысоўкі яў-

рэйскага народнага орнамэнту, якія зараз знаходзяцца ў Ленінградзкім Яўрэйскім Этнографічным Музэі на разглядзе.

*Мірынгоф*—даў 21 зарысоўку, з іх: 2 быту [акварэль і аловак], 3 паяскі [акварэль], [мал. 23], 3—тканіны [акварэль], 1—царквы [акварэль], 1—селяніна [аловак], 3 дойліднага арнамэнту [аловак] 18—вышываньня [акварэль]. Зарысоўкі Мірынгофа адыходзяць ад эскізнасьці і здавальняюча перадаюць фарбы. Да шмат якіх зарысовак даданы паказаньні на мясцовасьць зарысоўкі, але настолькі кароткія, што толькі Вяліжанін будзе ведаць, аб якой вёсцы ідзе рэч.

*Загароўскі*—зарысаваў і замаляваў 28 зарысовак, з ліку якіх: 1—селяніна [аловак], 15—вышываньня [акварэль], 3—паяскоў [акварэль] [мал. 24], 2—царквы [акварэль], 2—дойліднага орнамэнту [акварель] і 1—дойліднага [аловак], 1—Вяліжу [акварэль] і 3—тканіны [акварэль]. Працы Загароўскага ў некалькіх выпадках даюць скончаную зарысоўку і дакладнасьць у фарбах, але яшчэ ня зусім пазбаўлены вучнёўскай эскізнасьці, як і ранейшыя. Паказаньне мясцовасьцяй таксама, як і ў Мірынгофа, невыстарчаючае.

*Пузынкевіч* зрабіў 37 зарысовак, з якіх 3—расьпісной дугі [акварэль], 1—вязаньня [туш], 4—узорыстага куфра [акварэль], 9—вышываньня [акварэль], [мал. 25.], 8—тканіны [акварэль], 4—дойліднага орнамэнту [туш], 2—тыпаў [аловак], 2—краявіду [аловак], 1—адзежы [акварэль], 2—рэчаў хатняга ўжытку [акварэль] і 1—сахі [акварэль]. Пузынкевіч далёка ззаду пакінуў сваіх таварышоў у сэнсе акуратных адносін да справы. Пераважная большасьць яго зарысовак мае характар скончаных прац і дакладна перадае ўзор і колеры. Калі-б на іх поўнасьцю былі паказаны: назва рэчы, месца, час і аўтар зарысоўкі яны-б былі зусім каштоўным навуковым матар'ялам.

Такім чынам паказаныя зарысоўкі Віцебскай Экспэдыцыі народнага мастацтва, хоць і ня зусім удалася спроба, як першая, але ўсё-ж паказалі вялікае багацьце народнага мастацтва на Віцебшчыне і шляхі яго зарысовак.

Зробленыя зарысоўкі паміж іншым даюць матар'ял для вывадаў аб беларускім народным мастацтве і яго ўласьцівасьцях, што відаць з даданых да гэтага малюнкаў.

**М. І. Касьпяровіч.**

# У Цэнтральным Бюро Краязнаўства РСФСР.

Цэнтральныя і мясцовыя краязнаўчыя оргаізацыі саюзных рэспублік, у тым ліку і БССР, на працягу апошняга году падтрымлівалі таварыскую сувязь з Цэнтральным Бюро Краязнаўства РСФСР. Апошняе ахвоча прымала ўдзел у абмене краязнаўчым досьледам, вынікамі працы і да т. п. Можна сказаць, што з Беларусьсю ў ЦБК РСФСР былі найбольш жвавыя і нормальныя зносіны. Яно атрымала з Беларусі 47 інформацыйных матар'ялаў і 26 запытаньняў, па якіх дадзена 39 адказаў. Другое месца займае Украіна: 8 інформацыйных матар'ялаў, 54 запытаньні і 51 адказ на іх. Лік нумароў зносін іншых рэспублік не перавышае 25 інформацый і запытаньняў і 10 адказаў. Такім чынам, раўнуючы сучаснае становішча сувязі з недалёкім, нават, мінулым часам, можам адзначыць значнае якаснае палепшаньне яе: зьмяншэньне ліку запытаньняў і рост інформацыйных матар'ялаў. З часам, калі мясцовыя краязнаўчыя організацыі саюзных рэспублік умацуюцца і зоймуць сваё месца ў рэспубліканскім краязнаўчым руху, лік запытаньняў зьменшыцца да мінімуму, бо з імі будуць зварачвацца цалкам да сваіх краязнаўчых цэнтраў. Адпаведна можа расьці лік інформацыйных матар'ялаў, адлюстроўваючых мясцовы досьлед, вынікі працы і інш.

Пры такім стане рэчаў зусім нормальная і зьмена жывой сувязі. Заміж пасылкі сваіх працаўнікоў на мясцовыя краязнаўчыя конфэрэнцыі ў саюзных рэспубліках, як гэта рабіла ЦБК РСФСР раней, яно ў мінулым годзе практыкавала даручэньне прадстаўляць сваю ўстанову сваім мясцовым членам-корэспондэнтам, якія ёсьць амаль ва ўсіх рэспубліках і, зразумела, ня горш орыентуюцца ў мясцовым краязнаўстве, чым непасрэдныя працаўнікі ЦБК Апрача прыезду прадстаўнікоў ЦБК РСФСР на месцы ў справе жывой сувязі прымалі ўдзел і прадстаўнікі мясцовых організацый, якія прыяжджалі ў ЦБК і часамі рабілі тамака даклады. Такіх дакладаў з Беларусі было 2.

Аб дзейнасьці ЦБК РСФСР можна было чытаць у часопісах „Краеведение“, „Известия ЦБК РСФСР“, а таксама іншых выданьнях ЦБК РСФСР; зваротах, даведачніках і г. д. Зразумела, асабовае азнаямленьне было жывейшым і дало значна большыя вынікі.

Праца ЦБК РСФСР вядзецца самім Прэзыдыумам і камісіямі; школьна-краязнаўчай, бібліографічнай, студэнцкай і экскурсійна-даведачным бюро, а таксама фэнолёгічным аддзелам Расійскага Таварыства Аматараў Сьветазнаўства, які і месьціцца ў ЦБК.

На паседжаньнях Прэзыдыуму ЦБК, апрача разгляду звычайных бягучых прынцыповых і прыватных пытаньняў, заслухваліся даклады аб працы на мясцох, якіх было 49. Усіх паседжаньняў ЦБК за апошнія два гады было каля 120 і на іх было разгледжана каля 1100 пытаньняў, ЦБК, як вядома, месьціцца ў Ленінградзе, а ў Маскве ёсьць яго аддзяленьне. Гэта аддзяленьне ЦБК за той-жа час мела каля 16 паседжаньняў, на якіх разгледжана каля 60 пытаньняў. У першы кругабег краязнаўчага руху ў РСФСР Маскоўскае аддзяленьне ЦБК, зразумела, мела большае значэньне, чым у апошнія часы.

У парадку звычайнай штодзённай дзейнасьці ЦБК асабліва інтэнсыўнай была падлікавая праца. Апрача звычайнага бягучага падліку краязнаўчых устаноў і організацый,

ЦБК у канцы 1926 году правяло краязнаўчы перапіс, калі ўлічваліся краязнаўчыя арганізацыі, аб'яднаньні іх і музэі. Але найбольш важным і цікавым быў падлік экспэдыцый у рэспубліканскім маштабе. Было зарэгістравана 268 экспэдыцый, якія наладжваліся 45 ўстановамі. Весткі аб экспэдыцыях ЦБК пасылала мясцовым краязнаўчым арганізацыям, тыя зьвязваліся з экспэдыцыямі і аб выніках сумеснай працы паведамлялі ў ЦБК. Па 1927 г. вестак яшчэ няма, а ў 1926 годзе на 434 паведамленьні было атрымана 84 адказы, з якіх 24 аб тым, што сувязь краязнаўчай арганізацыі з экспэдыцыяй наладжана.

З кіраўнічай дзейнасьці ЦБК РСФСР у арганізацыйнай, ідэолёгічнай і мэтодычнай галінах, апрача звычайных і ліставаньня, рэдагаваньня сваіх часопісаў, камандыраваньня сваіх прадстаўнікоў на месцы, прыезду мясцовых працаўнікоў у ЦБК і г. д., асабліва цікавай навіной з 1926 году зьяўлялася праца ў ЦБК выкліканых з месц на пэўны час мясцовых краязнаўцаў. Гэтыя „чарговыя“ ў часе свайго прыкамандыраваньня к ЦБК знаёміліся ня толькі з апошнім, але і з іншымі ўстановамі, засноўвалі патрэбныя для іх арганізацыі сувязі і г. д. Не выключаецца і магчымасьць падвышэньня кваліфікацыі „чарговых“. ЦБК-ж скарыстоўвала іх непасрэдны мясцовы досьлед. У апошні час на гэтую справу, на жаль, не хапае сродкаў, якія хацелася-б мець.

З дапаможных устаноў Прэзыдыуму інтэнсыўней іншых дзейнічае Фэнолёгічны Аддзел. Усіх фэнолёгічных пунктаў (корэспондэнтаў), якія пасылаюць свае фэнолёгічныя нагляданьні аддзелу, больш 1000. Аддзел трымае сувязь з фэнолёгамі саюзных рэспублік, а таксама іншых дзяржаў: Латвіі, Фінішчыны, Італіі і інш. У 1926 годзе з Беларусі Аддзел атрымліваў фэнолёгічныя нагляданьні ад 45 фэнолёгаў. Цяперака, калі ў ЦБК БССР організаваўся свой фэнолёгічны цэнтр, які мае пасылаць адбіткі сваёй працы ў парадку таварыскай сувязі Аддзелу, сэнс пасылкі туды нагляданьняў з месц амаль што страціўся і памянёны лік фэнолёгаў корэспондуючых Аддзелу зьмяншаецца.

Уся праца ў Аддзеле вельмі акуратная і выразная, што дазваляе лёгка орыентавацца ў матар'ялах Аддзелу. Усе паведамленьні фэнолёгаў разьмешчаны ў пакетах па пунктах; на кожны новы пункт робіцца новы пакет. Як толькі атрымліваецца паведамленьне—фэнолёгічная дата яго запісваецца на карту таго паселішча, дзе жыве наглядальнік. Пасьля гэтага нагляданьне правяраецца: калі адзін пункт, напр., паказвае дату, што рэзка розьніцца ад вакольных,—ён бярэцца пад сумненьне і правяраецца далей па крывых фэнолёгічнай зьявы, з якіх відаць наколькі наглядальнік памыліўся, а часамі ўдаецца выявіць і запраўдную фэнолёгічную дату.

На картах пункты адпаведных об'ектаў злучаюцца лініяй і атрымліваюцца ізофэны фэнолёгічных зьяў. На некаторых так званых дэкадных картах паказваюцца ўсе зьявы на даную дату. Часамі на картах заштрыхоўваюцца адпаведныя тэрыторыі з ухіленьнямі ад нормальных дат і атрымліваюцца карты фэнолёгічных аномалій. Апрача ўсіх гэтых, у Аддзеле ёсьць карты з адзначэньнем наглядальных пунктаў, сьпісы наглядальнікаў крывыя наступленьня вестак і г. д.

Сярэднія фэнолёгічныя даты выводзяцца звычайна за 10 год; складваюцца даты і сума іх дзеліцца на лік пунктаў. Ад іх могуць быць ухіленьні, якія адзначаюцца мінусам для вельмі раньняй і плюсам для позьняй даты. Даты няправільныя абводзяцца кружком і каля апошняга ставіцца пытальнік.

Выпраўленыя і апрацаваныя нагляданьні друкуюцца ў відзе абагульненьняў як навуковы матар'ял. Апрача таго друкуюцца, так кажучы, фэнолёгічныя бюлетэні.

Спэцыяльныя фэнолёгічная нагляданьні, якія выходзяць за межы агульнай фэнолёгічнай праграмы, складаюцца ў архіў для спэцыяльнай навуковай апрацоўкі. У Аддзеле ёсьць вельмі цікавыя матар'ялы з месц за старыя гады, нават з паловы XIX ст.

Радавыя працаўнікі Аддзелу—моладзь, і гэта бясспрэчна, мае ўплыў на пасьпяховую працу Аддзелу.

Бібліографічная камісія ЦБК рабіла падлік бібліографічнай працы на мясцох (атрымана 15 адказаў на анкеты) і ўклала бібліографію па мэтодыцы, організацыі і агульных пытаньнях краязнаўства. У выніку працы ёсьць больш 400 картак па музэязнаўству і каля 1000 картак па экскурсазнаўству. Асобная рэцэнзійная падкамісія зьбірае і дае рэцэнзіі на краязнаўчую літаратуру ў орган ЦБК „Краеведение“. Усіх паседжаньняў камісіі за апошнія два гады было 51 і на іх разгледжана каля 400 пытаньняў.

Школьна-краязнаўчая камісія займаецца распрацоўкай арганізацыйных і мэтодычных пытаньняў асьветнага (школьнага) краязнаўства і мела каля 15 паседжаньняў пры складзе камісіі ў 40 чалавек. З дакладаў, заслуханых у камісіі, найбольш цікавыя: „Роля вясковага настаўніка ў вывучэньні быту вёскі“, „Запаўненьне краязнаўчым матар'ялам комплексных тэм“, „Аб вечарох казкі“ і інш.

Студэнцкая сэкцыя ЦБК працавала над пашырэньнем краязнаўства сярод студэнцтва, распрацоўкай мэтодаў працы і організацыйных форм студэнцкага краязнаўства і падлікам студэнцкіх краязнаўчых організацый. Яна мела 12 паседжаньняў. У сэкцыі працуе 16 прадстаўнікоў Ленінградзкіх студэнцкіх гурткоў. Самым цікавым дакладам у сэкцыі быў „Краязнаўства і студэнцтва“ Паўлава-Сільванскага.

Экскурсійна-даведачнае бюро заснавалася па сумеснай ініцыятыве ЦБК і УЦСПС. Бюро сабрала бібліотэчку па экскурсазнаўству з 300 кніг, давала адказы жадаючым ехаць у экскурсію і ўкладала бібліографічныя паказчыкі экскурсійнай літаратуры па Пскову-

Ноўгараду, Крыму і інш. Для падліку мясцовай працы было разаслана каля 1200 апытальных лістоў. Бюро дапамагае працы экскурбазы Губпалітасьветы і бюро Турыстых Губкому ЛКСМ.

Апрача памянёных камісій у ЦБК працавала сталая нарада па справах Пушкінскага заказьніку.

Бібліотэка ЦБК складаецца з 4.500 кніг і ёю, апрача працаўнікоў ЦБК, карысталася 76 чал. У бібліотэцы ёсьць дублеты і інш. кнігі па паасобных губэрнях, якія яна пасылае часамі мясцовым краязнаўчым організацыям па іх просьбе.

Рост краязнаўства ў РСФСР па думцы ЦБК патрабуе рэорганізацыі самога ЦБК, пытаньне аб чым падрыхтоўваецца Прэзыдыумам к чарговай III усерасійскай конфэрэнцыі па краязнаўству.

## Флёрыстычная праца Бельскага т-ва краязнаўства.

*(Смаленшчына).*

Флёрыстычнае абсьледваньне бліжэйшых ваколіц г. Белага Смаленскай губ. было распачата ў канцы чэрвеня г. г. сіламі сяброў т-ва (В. Далгашоў, Т. Матранкіна, Д. Транкоўскі), і гуртка юных краязнаўцаў пры Б.О.К. (Е. Кружалёва, З. Матранкіна, А. Мікаліна, Т. Понізоўская М. Сухабокава)—усяго 8 асобамі. У выніку да 10-IX—27 г. было сабрана 277 парадкавых нумароў расьлін (ня лічачы гэрбарыя, які сабраны на Бяздонным возеры 23/VI у ліку 41 віда)—каля 250 розных відаў у ліку 800 гэрбарных экзэмпляраў. З гэтага ліку т-ва мае намер адаслаць у Ботанічны Музэй пры Усесаюзнай Акадэміі Навук каля 100 гэрбарных экзэмпляраў і 100 экз. у прыродна-гістарычны музэй у Смаленску. Усе расьліны (выключна кветковыя дрэўныя і травяныя) былі сабраны ў межах Бельскае прыграднае воласьці і каля 50% з іх навукова азначаны В. Далгошавым. Для карыстаньня гэрбары покуль што недаступны, бо няма сродкаў на паперу для яго наклейкі. Гэрбары захоўваецца ў абрэзаных старых газэтах—формаў гэрбарыя, г. зн. 29×43 см.

В. Далгашоў.

---

## З камандыроўкі т. Касьпяровіча ў Фіншчыну.

Мінулае краязнаўства ў Фіншчыне вельмі багатае; зараз-жа краязнаўчая справа тамака яшчэ перажывае значны крызіс. Праўда, навуковае краязнаўства, якое праводзіцца акадэмічнымі ўстановамі і організацыямі, субсыдуецца дзяржаваю і мае даволі выдатныя пасьпехі. Асьветнае краязнаўства і краязнаўства, якое месьціцца ў асьветных установах вельмі аслабла. Пачатковая школа грунтуе сваю працу на радзімазнаўстве, зразумела ня так выразна, як гэта праводзіцца ў нас. Краязнаўчыя гурткі ёсьць толькі ў некаторых сярэдніх школах. Пры Міністэрстве Асьветы існуе Экскурсійная Камісія і экскурсанты часамі даюць багаты краязнаўчы матар'ял у відзе колекцый і, асабліва, фотографій. Грамадзка-практычнае краязнаўства ў заняпадзе. Цэнтральная Радзімазнаўчая Камісія імкнецца аб'яднаць і кіраваць справаю.

Заняпад справы тлумачыцца зьменаю дзяржаўнага ладу і перагрупаваньнем грамадзкіх сіл. Часопіс „Родны край", які выходзіў на фінскай мове, зачыніўся. Часопіс „Родны Край", які выходзіў на швэдзкай мове, выходзіць цяперака пад назвай „Швэдзкі Край". Музэі пастаўлены навукова і існуюць на дзяржаўным бюджэце. У справе экспозыцыі захаваны цалкам краязнаўчы прынцып. Сабраны яны амаль выключна студэнтамі і краязнаўцамі. У музэях і бібліотэках ёсьць поўная бібліографія паасобных тэрыторый Фіншчыны і архівы на іх з вывазак з газэт, фотографій і інш. матар'ялаў. З акадэмічных таварыстваў асабліва шырака вядзе працу фінскае літаратурнае ў справе фольклёрнай і слоўнікавай. Выходзіць апісаньне Фіншчыны па паасобных провінцыях. Мясцовы пэрыодычны друк аддае шмат месца краязнаўчым матар'ялам. Студэнцтва. менш, чым раней. але усё-ж прымае актыўны ўдзел у краязнаўстве, як і моладзь наогул. Культурна-асьветныя організацыі амаль што нічога ня робяць цяперака ў краязнаўчай справе. Нізавыя адміністрацыйныя адзінкі часамі асыгноўваюць буйныя сумы на дасьледаваньне сваіх тэрыторый. Ні мэтавая ўстаноўка ні організацыйная схэма фінскага краязнаўства для нас зусім не падыходзяць. За тое шмат якія організацыйныя мэтоды, мэтоды зьбіраньня матар'ялаў, выданьня іх і г. д. з пасьпехам могуць быць ужыты і ў нашай дзейнасьці.

# С. М. Сакалоўскі.

*(Нарадз. 24/VI—1860 г.—памёр 1/V—1927 г.).*

1 мая б.г. памёр заснавацель Раслаўскага музэю прыроды і гісторыі краю і археолёг. Смаленшчыны—Сяргей Міхайлавіч Сакалоўскі.

Яго жыцьцё і праца заслугоўваюць увагі ўсіх, хто працуе па краязнаўству.

Нябожчык нарадзіўся ў 1860 г. у гор. Волагдзе, дзе бацька яго быў настаўнікам гімназіі. З маленства, яшчэ хлопчыкам, С. М. захапляўся зьбіраньнем розных расьлін, казюляк, мінэраляў,—складаньнем з іх колекцый, зельнікаў. Сярэднюю асьвету ён атрымаў у Аляксандраўскім тэхнічным вучылічшчы, адкуль вышаў тэхнікам. Атрымаўшы пасаду мэханіка пры Валагодзкай п.-т. акрузе, Сакалоўскі праз 2 м-цы быў зволены губарнатарам „по политической неблагонадежности“ і пазбаўлены права займаць якую-небудзь пасаду ў тагочасных дзяржаўных установах.

З 1880 па 1896 г. С. М. працаваў тэхнікам—раней у Волагдзе, а пасьля ў Палтаўскім губэрскім Земстве.

На Палтаўшчыне С. М. уцягнуўся ў краязнаўчую працу, маючы магчымасьць у час сваіх раз'ездаў па службе зьбіраць для мясцовага музэю розныя матар'ялы і весткі.

У 1896 г. Сакалоўскі эмігруе ў Амэрыку, жадаючы жыць і даць выхаваньне сваім дзецям у „вольнай краіне“.

Пасьля вандровак і цяжкай працы ў разнастайных ролях Сакалоўскі набывае ў Паўднёвай Каліфорніі невялікі кавалачак зямлі і робіцца фэрмэрам, займаючыся жывёлагадоўляй, садоўніцтвам. Разам з гэтым, ён вядзе краязнаўчую працу, вывучаючы руіны цыклёпічных пабудовак, якія захаваліся ад першых насельнікаў краю. Але пасьля сьмерці сваёй жонкі, ня здолеўшы далей весьці гаспадарку бяз найму дарагіх рабочых, С. М. у 1899 г. варочаецца на Палтаўшчыну на ранейшую працу.

У 1902 г. С. М. Сакалоўскі пераяжджае ў Раслаўскі павет Смаленшчыны, на службу ў павятовае земства, дзе і працуе да 1918 г. За гэты пэрыод пад яго кіраўніцтвам пабудована цэлая сетка школ і розных будынкаў, якія адзначаліся сваёй прыгожасьцю, трываласьцю і таннасьцю.

Езьдзячы па справах службы, С. М. заўсёды цікавіцца рознымі старажытнымі археолёгічнымі помнікамі і з энтузіязмам зьбірае весткі пра старажытнасьць і матар'ялы дзеля складаньня археолёгічна-гістарычнай карты павету. Яшчэ ў 1904-905 г., калі ў С. М. назьбіралася шмат матар'ялаў і колекцый, у яго ўзьнікае думка аб організацыі ў Рославулі музэю мясцовага краю. Але гэтая думка зьдейсьнілася толькі

пры Савецкай уладзе ў 1918 г. Музэй быў адчынены, і загадваньне ім было даручана С. М., які і вёў гэтую працу да сваёй сьмерці.

У грунт музэю найперш усяго ляглі колекцыі С. М. па мінэралёгіі і архэолёгіі, сабраныя ім на працягу 16 год. Далей, музэй папаўняецца рознымі рэчамі старажытнасьці; экспонатамі мясцовай прыроды.

Тутака, у музэі, С. М. з вялікай энэргіяй і юнацкім запалам прымаецца за вывучэньне мясцовага краю: організуе таварыства краязнаўства, прыцягвае маладых працаўнікоў, выступае ў мясцовым друку з популярнымі артыкуламі па гісторыі краю і інш. пытаньнях, вядзе культурна-асьветную працу сарод даведчыкаў музэю і інш.

Адным словам, музэй робіцца культурным асяродкам у павеце. Музэй пільна наведвалі вучні, рабочыя і галоўным чынам сяляне. Сярод іх вялася глыбокая, навуковая антырэлігійная пропаганда, што адзначана газэтай „Рабочий путь“.

Апрача гэтых заняткаў С. М. знаходзіў час для навуковай працы, а таксама для правядзеньня раскопак. Важнейшай навуковай яго працай зьяўляецца архэолёгічная карта Рослаўскага павету, скончаная ў 1918 г. Пабываўшы за 16 год службы ў Земстве на некалькі разоў у самых глухіх куткох павету,—С. М. усё старанна заўважваў,—адзначаў курганы, гарадзішчы, фотографаваў цікавыя памнікі,—і ўсё заносіў на карту-трохвёрстку—і запраўды, карта адзначаецца надзвычайнай дакладнасьцю і вычэрпваючай поўнасьцю. Толькі шкада, што да гэтага часу яна яшчэ не надрукавана.

Апрача карты, С. М. падрыхтаваў да друку наступныя працы: 1) Краязнаўчая праца ў Рослаўскім п; 2) Рослаўскі музэй прыроды і гісторыі краю; 3) Сутнасьць фалічаскага культу і сьляды яго ў Р. павеце; 4) 18 дакладаў па архэолёгічных раскопках, праведз. у Р. пав. з 1918 па 1924 г.

На заключэньне неабходна адзначыць, што С. М. як чалавек—быў чулым, чэсным, справядлівым і заўсёды цікавіўся дасягненьнямі навукі,—жвавы і энэргічны па сваёй натуры.

І толькі сьмерць спыніла гэтую дзейнасьць і жыцьцё.

**В. Зьмітраў.**

# Бібліографія.

**Серебренников, А. П.**—*Краткий исторический очерк Государственного Историко-Этнографического Музея в Смоленске, основанного М. К. Тенишевой. Смоленск 1926 г. 8 стр. 345-362 (Отд. отт.* из *Научн. Изв. Смол. Гос. Унив.) Склад у автора: (Ленинград Б. Гребецкая, 28, кв. 19).*

Гэтая невялічкая праца напісана з такім захапленьнем і так грунтоўна, што можа быць прыкладам для ўсіх нашых музэйных супрацоўнікаў. Аўтар шырака скарыстаў літаратуру францускую і расійскую і падаў гісторыю ўтварэньня гэтага, лепшага музэю з пачатку ў *Талашніне,*"а затым у *Смаленску.* Разам з тым высьветлена роля ў складаньні музэю М. К. Тэнішавай і Ю. Ф. Баршчоўскага (портрэт якога далучаны да брошуры).

З 1897 г. гэтыя дзьве асобы плячо ў плячо працавалі над „музэем расійскай старыны" але толькі пасьля выстаўкі сабраны колекцыў у Парыжы, у 1907 г., Смаленскі Музэй Тэнішавай зрабіўся вадомым на ўвесь сьвет. Эўропа прышла ў вялікае захапленьне ад выяўленага мастацтва расійскага. У 1908 годзе з Парыжа ўсе колекцыі былі перавезены ў толькі што адбудаваны Смаленскі дварэц, і пачалі прыцягваць масы народу. 30 мая 1911 году музэй быў перадан Тэнішавай Маскоўскаму Архэолёгічнаму Інстытуту і да 1920 г. быў школай, з якой вышаў шэраг навуковых музэйных працаўнікоў.

Усясьветная вайна вельмі шкадліва адбілася на памяшканьні музэю і толькі пры Савецкай уладзе з 1920 г. "было адрамантаваны, напоўнены колекцыямі і рэорганізаваны самы музэй.

У сучасны момант колекцыі музэю зьмешчаны ў залях: 1) народная вопратка і тканіны; 3) разьба па дрэве; 3) мэталёвыя вырабіны; 4) кераміка і шкло; 5) карункі і вышыўкі (тутака-ж царкоўныя аблачэньні і шыцьцё); 6) іконапісы і царкоўнае начыньне; 7) народныя вопраткі і начыньне Смаленскай губ. і 8) мастацкія вырабы Тэнішавай (рознага віду эмалі) і яе майстэрань у Талашкіні.

Музэй мае добрую бібліотэку і дапамагае організацыі іншых музэяў.

Музэй адчынены 3 разы ў тыдзень і прапушчае нярэдка больш 1000 асоб, бясплатна.

Б. Тэнішаўскі музэй прываблівае да сябе надзвычайна шырокім выяўленьнем прыкладного мастацтва, выключным па сваёй навуковай і мастацкай каштоўнасьці.

Яшчэ ў часы знаходжаньня колекцыі гэтага музэю ў Парыжы амэрыканцы давалі за гэта сабраньне два мільёны доляраў.

Цяпер гэтыя скарбы варты напэўна шмат больш, а галоўнае, зьяўляюцца для нас вялізнай школай, якую лёгка скарыстаць самым шырокім колам грамадзянства. Трэба, каб у гэты" музэй, як-мага шырэй, былі накіраваны сябры нашых краязнаўчых таварыстваў і маладое пакаленьне.

З. Даўгяла.



---

Выдавец—**Інстытут Беларускае Культуры.**

Рэдактар—**З. Бядуля.**

Члены Рэдакцыі: **М. Бялуга. А. Казак. М. Касьпяровіч.**

# ЗЬМЕСТ

